ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

16 студзеня 1998 г. № 3/3931 Кошт 4 000 руб.





*Хор хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра ГЛУШАКОВА*



*Лаўрэат Міжнароднага конкурсу Аляксей Кісялёў*

## Тры гады, сем дзён...

**На галоўнай музычнай сцэне краіны, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступалі тыя, з чымі імёнамі звязана надзея. Надзея на тое, што заўтрашні дзень у нашай культуры ёсць. Надзея на годную будучыню творцаў мастацтва менавіта тут, дома, а не ў гасцінным для айчынных талентаў заможным замежжы. Канцэрт быў адкрыты для ўсіх, адбываўся ён калядным снежаньскім вечарам, завяршаючы двухдзённы форум "XXI стагоддзе — музыка надзеі".**

**Акурат год таму па ініцыятыве Беларускага саюза кампазітараў нарадзілася гэтая святочная і сур'ёзная імпрэза. Як і летась, адным з актыўных яе чыннікаў была кампазітар ды педагог Ларыса МУРАШКА. Вось што расказала яна з нагоды другога ўжо форуму творчай моладзі Беларусі "XXI стагоддзе — музыка надзеі":**

— У чым сэнс форуму і ў чым ягоная задача? Паказаць слухачам, аматарам высокага мастацтва нашу таленавітую моладзь, надзею нашай музыкі. Планаваліся два канцэрты. Адзін адбыўся ў зале Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. Другі — у Вялікай зале філармоніі, і называўся гэты ўрачысты канцэрт "Юныя зоркі на музычным небасхіле". У ім удзельнічалі тыя зоркі, якія будуць ззяць у наступным стагоддзі. Пры канцы канцэрта вядучыя праграмы зрабілі дзівосны падлік і паведамілі, што да новага стагоддзя засталося толькі тры гады й сем дзён! Значыць, праз тры гады й сем дзён цяперашнія ўдзельнікі форуму ўжо будуць стала ўслаўляць наша мастацтва і весці яго наперад.

СУСТРЭЧЫ

# Музыка межаў не ведае

***У Мінск прыехаў народны артыст СССР Ціхан Хрэннікаў. Учора ў Вялікай зале сталічнай філармоніі гучала ягоная музыка — побач з араторыяй Анатоля Багатырова "Бітва за Беларусь". Гэтым адмысловым канцэртам дружбы ўрачыста адкрыўся XII з'езд беларускіх кампазітараў, ганаровым госцем на які запрошаны маскоўскі маэстра.***

А раніцай таго ж дня, 15 студзеня, ён быў госцем прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі. На сустрэчы прысутнічалі таксама міністр культуры РБ Аляксандр Сасноўскі, старшыня праўлення БСК народны артыст СССР Ігар Лучанок, прадстаўнікі друку і тэлебачання.

Журналістам пашанцавала на шчырую гутарку з Ціханам Мікалаевічам. Ён выказаў удзячнасць і радасць з нагоды запрашэння на з'езд:

— Даўно не бачыў беларускіх калег, сяброў... Старшыня БСК Ігар Лучанок — мой сябра і мой вучань: калі займаўся ў Маскве ў аспірантуры, бывала, лятаў да мяне на заняткі самалётам! Анатоль Васільевіч Багатыроў — сябра вельмі даўні; мы абодва з аднаго года, абодва, нягледзячы на 85-гадовы ўзрост, працягваем педагагічную працу: ён — у Беларускай акадэміі музыкі, я — у Маскоўскай кансерваторыі. Мне прыемна, што мой Трэці фартэпіянны канцэрт выконвае выдатная беларуская піяністка Ірына Шуміліна, што іграць маю музыку ў Мінск запрасілі найбуйнейшага рускага скрыпача Максіма Фядотава і таленавітага дырыжора Аляксандра Вядзернікава. Ініцыятыва дзеячаў мастацтва у мэтах інтэграцыі Беларусі ды Расіі — гэта цудоўна! Мы не павінны жыць адасоблена. Дарэчы, многія дзеячы культуры былых савецкіх рэспублік сумуюць з-за таго, што мы адасобіліся, сумуюць па страчаных творчых кантактах.

Паразважаўшы пра высокую культуру колішняй савецкай песні, Ц. Хрэннікаў вылучыў І. Лучанка як аднаго з бліскучых яе прадстаўнікоў. І паскардзіўся на тое, што ў Расіі сапраўдная песня — незапатрабаваная сёння, таму нешматлікія яе творцы не могуць рэалізаваць сябе, не маюць доступу ў эфір. Наогул жа, традыцыі савецкай музыкі грунтаваліся на "трох кітах": павага да спадчыны, зварот да народнай культуры і высокі прафесіяналізм. Ці не таму й сёння ўсе выбітныя з'явы сусветнага выканальніцкага мастацтва звязаны з моцнымі традыцыямі колішняй савецкай музычнай школы? На гэтым культурным грунце — павага да спадчыны, народнай культуры і высокага прафесіяналізму — і мусіць развівацца музыка, на думку нашага госця. Аднак, як падкрэсліў ён, без дзяржаўнай дапамогі культура і мастацтва развівацца не будуць. "Нельга развіваць мастацтва пры дапамозе падачак багатых людзей, якія не надта й хочуць вымаць з кішэні ўласныя грошыкі", — падкрэсліў Ц. Хрэннікаў.

Гэтую ж думку ён паўтарыў, размаўляючы з А. Лукашэнкам. Наш госць выказаў захапленне дзейнасцю беларускага прэзідэнта, выказаў сімпатыю да беларускага народа, адзначыўшы яго рэдкасны патрыятызм. Падкрэсліў неабходнасць мацаваць садружнасць Беларусі ды Расіі.

Кажуць, музыка — самы тонкі дыпламат. Сапраўды, яна ва ўсе часы жыла і развівалася паводле сваіх законаў — без палітычных амбіцый, без дзяржаўных межаў. Музыка — універсальная інтэрнацыянальная мова. І значыць, яна ніколі не будзе адасобленая. Калісьці ў Мінску ставілася опера Ц. Хрэннікава "У буру". У рэпертуары "Песняроў" была яго пранізлівая балада "Кожны чацвёрты". Учора Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі браў удзел у выкананні яго інструментальных канцэртаў — скрыпічнага ды фартэпіяннага...

Многія беларусы, напэўна, ведаюць хрэннікаўскія мелодыі з "Гусарскай балады", з кінафільмаў "Верныя сябры" ды "Свінарка і пастух", яго "Маскоўскія вокны"... Як, зрэшты, ведаюць і напяваюць у Расіі песні беларуса Лучанка. Музыка, сапраўды, межаў не ведае.

**С. Б.**

БРАВА!

# Глебаў — заўсёды Глебаў



Мелодыі, якія слухалі ды напявалі пры канцы 50-х, у 60-я, 70-я, 80-я... Мелодыі-ўспаміны. І мелодыі-сучаснікі. У іх столькі жыццёвай энергіі, інтанацыйнай свежасці, абаяльнасці! У іх — цеплыня сэрца і гумар, талент Майстра, сустрэчы з якім даўно чакалі слухачы. І музыканты-выканаўцы чакалі таксама. А гэта ж найвышэйшая адзнака творчасці, калі радуе яна прафесійнікаў-інтэрпрэтатараў, бо піша кампазітар і з выдумкай, і даходліва, і зручна для выканання.

Доўгачаканая сустрэча з Майстрам проста пацвердзіла ўжо выпрабаваную часам высnову: у якіх бы жанрах ён ні пісаў, Яўген Глебаў — гэта заўсёды Музыка.

Яўгена Аляксандравіча Глебава, народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесара, акадэміка Міжнароднай славянскай акадэміі навук, адукацыі, мастацтваў і культуры называюць майстрам аркестравага пісьма, кампазітарам-драматургам, стваральнікам па-тэатральнаму кідкіх сімфанічных вобразаў, прыхільнікам вечных філасофскіх тэм у мастацтве.

Артыстызм яго рознабаковай творчай натуры выявіўся, як вядома, у эфектных канцэртных п'есах, у эстрадных песнях, у тых самых мелодыях-успамінах ды мелодыях-сучасніцах, што "пайшлі ў народ" з экрана, з тэатральных пастановак, набылі самастойную творчую біяграфію, надоўга перажыўшы тыя даўнія кінастужкі ды спектаклі.

...І сапраўды: колькі ж у іх жыццёвай энергіі, інтанацыйнай свежасці, абаяльнасці! Можна зразумець захопленасць народнага артыста Беларусі маэстра Міхала Фінберга, які разам з музыкантамі Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі ды салістамі-спевакамі падрыхтаваў і па-святочнаму зладкаваў гэтую доўгачаканую і нечаканую сустрэчу з Майстрам!

Аўтарская вечарына Яўгена Глебава, што адбылася 9 студзеня ў Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі, сталася сапраўдным музычным сюрпрызам Новага года. І... эфектнай прэлюдыяй да канцэртных праграм XII з'езда беларускіх кампазітараў.

**С.Б.**

*Фота К. ДРОБАВА*

ТЭАТР

# Чатыры ўвасабленні лепшага

Лепшы спектакль года намаганнем Міністэрства культуры Беларусі цяпер ізноў мае ўсе падставы... быць. Быць абраным. Быць названым. Быць вылучаным праз конкурс у спрэчках аўтарытэтнага журы, — сёлета яго ўзначаліў доктар мастацтвазнаўства Рычард Смольскі. Натуральны падзел між тэатрамі драматычнымі і лялечнымі ўлічваўся ў намінацыях; асобна і перадусім вылучаліся спектаклі, пастаўленыя па творах сучасных беларускіх драматургаў.

"Князь Вітаўт", які з'явіўся ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы клопатам Аляксея Дударава ў рэжысуры Валерыя Раеўскага (мастак — Барыс Герлаван), названы лепшым спектаклем года. Рашэнне адлюстравала не толькі меркаванні тэатральных спецыялістаў, але і публікі, што само па сабе адметна і надарэцца не часта. "Раскіданае гняздо" Янкі Купалы, трэці раз увасобленае (цяпер — на сцэне Акадэмічнага рускага тэатра Беларусі) Барысам Луцэнкам — лепшы спектакль сярод іншых сцэнічных твораў. Для лялечных тэатраў 1997 год не быў такім плённым, як для тэатраў драматычных (дый працуюць лялечнікі не ў такіх спрыяльных умовах), аднак "Вясёлы цырк" Анатоля Ляляўскага ў пастаноўцы Аляксея Ляляўскага (Магілёўскі абласны тэатр лялек) зрабіўся лепшым сярод спектакляў, заснаваных на беларускай драматургіі. "Прыхадзень" Мака Эйрола Гродзенскага абласнога тэатра лялек у рэжысуры Міколы Андрэева (мастак Алесь Сураў) — лепшы спектакль года сярод іншых пастановак.

**Ж. Л.**





*На здымках: Г. Давыдзька (Вітаўт), М. Кірычэнка (Ягайла) у "Князі Вітаўце"; сцэна са спектакля "Раскіданае гняздо".*

*Фота Канстанціна ДРОБАВА*

ПОГЛЯД

# "Мой родны кут..."

Людзі выкошваюць траву, топчуць яе, засыпаюць пяском і заліваюць асфальтам. Здавалася б — усё, голае поле, роўная гладкая шаша, чорная асфальтная стужка. Але пройдзе час, прыгледзішся — нават з-пад асфальту цягнуцца кволыя зялёныя расточкі! Кволыя — а прабіваюць асфальт!

Здавалася б, усё магчымае рабілася для таго, каб пахаваць у нашых душах усё беларускае. З беларускай мовы смяяліся, яе саромеліся, як нямецкую вывучалі яе. Адзін з цудоўных метадаў прывіўкі нянавісці да "мовы" — прымусіць клас разоў 20—25 пераказаць на памяць верш "Мужык". Пасля дваццатага пачынаеш сапраўды яго ненавідзець! А збіўся — "садзісь, два!.." Не вывучэнне "на памяць" атрымліваецца, а задаўбліванне ў гэтую самую памяць!

Канечне, адразу ж і забывалася. Зверху клаліся іншыя шматлікія пласты, па іх праходзіўся каток часу, і — дзе ён, той "кут"?.. А пасля нашы душы спрабавала на злом армія. І каб не зламацца, трэба было напружвацца. "Пласты" як ветрам здзімала, а жывое пачынала прарастаць праз мярцвячыну асфальту. І душа пачынала дыхаць, як скура порамі, гэтымі парасткамі. "Мой родны кут, як ты мне мілы!.." Радкі ажывалі, жылі ў душы і ажыўлялі душу. Вось што значыць — сапраўднае, жывое! "Мой родны кут..."

•

Ужо не чуваць спрэчак "пра мову". Ніхто яе ні зверху, ні знізу не адмаўляе. Да яе паступова сталі ставіцца, як да старой бабулі, якая часам і не ў сваю справу ўлезе, і гаворыць залішне. Маўляў, што зробіш... Стары чалавек... Усміхаюцца, ківаюць галовамі: колькі ёй ужо засталося, гэтай бабульцы? Ды яшчэ ж і хворая. Ну, зойдуць, пасядзяць трошкі, пагавораць — і хутчэй дадому.

Такі стан нашай мовы з'яўляецца, на маю думку, вельмі небяспечным. Можа быць, самым небяспечным за ўсё драматычнае яе жыццё! Калі так пойдзе і далей, пераважная большасць насельніцтва з цягам часу зусім перастане ўспрымаць беларускую мову больш-менш усур'ёз, і гучанне яе стане раздражняць, як ужо многіх раздражняе. Тады на гэтую вельмі спрыяльную глебу лёгка і натуральна апусціцца "дакрэт" аб адзінай дзяржаўнай — рускай. Каб гэтая, другая, не плёнталася пад нагамі... Пераход на "адзіную" будзе імгненным, 10 год не спатрэбіцца... Калі што і застанецца, дык толькі акцэнт. Нават і кнігі беларускія з бібліятэк выкінуць "за ненадобнасцю", ды і востра паўстане пытанне аб цесных памяшканнях бібліятэк.

Лепш ужо рэальна глядзець на рэчы, чымсці ілюзіямі цешыцца, а пасля ўпадаць у шок, як было з намі пасля знакамітага рэферэндуму.

Зрэшты, "глядзець рэальна" — не значыць змірыцца і апусціць рукі. Мова будзе жыць, покуль жыве наша беларуская душа. Ну, а як душу ратаваць — рэцэптаў шмат, і не мне іх тут пераказваць...

**Уладзімір ПЯТРОЎСКІ**

*г. Маларыта*

ВІНШУЕМ!

# Жанчына года

Міжнародны Кембрыджскі цэнтр, які займаецца выяўленнем, класіфікацыяй і прапагандай навуковых каштоўнасцяў розных краін свету, надаў ганаровае званне "жанчына года" нашай суайчынніцы. Гэта вядомая даследчыца беларускай музычнай даўніны Вольга Дадзіёмава. "ЛіМ" неаднойчы друкаваў ейныя аповеды пра незаслужана забытыя і нарэшце вернутыя ў наш культурны ўжытак узоры музыкі даўніх стагоддзяў, створаныя або распаўсюджаныя калісьці на Беларусі. А праз нейкі час у нашых чытачоў будзе магчымасць пазнаёміцца з жанчынай года праз гутарку, якую рэдакцыя рыхтуе да друку.

**Н.К.**

АДГАЛОСКІ

# У пошуку ідэі

У газеце "Народная воля" за 9 студзеня апублікавана "Заява Усебеларускага клуба выбаршчыкаў". Мэта публікацыі — "разбудить общество" і "побудить его к действию". Не больш, не менш. Ну і што? — спытаюць некаторыя чытачы. — Колькі іх, заяў, ужо было за апошнія два гады, а што яны змянілі? Дык вось, у адрозненне ад іншых дэкларацый аб неабходнасці барацьбы з "беззаконием и произволом в Беларуси", гэта ўтрымлівае канкрэтныя прапановы, накіраваныя на змяненні ў сацыяльна-палітычным становішчы нашай краіны. Улічваючы тое, што новых ідэй у беларускіх палітыкаў не хапае, варта разгледзець ініцыятыву названай арганізацыі падрабязней.

Галоўную прычыну складанага палітычнага становішча ў краіне Усебеларускі клуб выбаршчыкаў бачыць у выбары, які зрабіў наш народ у 1994 годзе. Менавіта асоба А. Лукашэнкі з'яўляецца, на думку гэтага згуртавання, тормазам на шляху да дэмакратыі. А таму, заяўляюць яны, "изменить ситуацию можно только в результате выборов — выборов нового президента". Пры гэтым аўтары ініцыятывы быццам забыліся на тое, з якім вынікам перамог Аляксандр Рыгоравіч на мінулых выбарах. Сапраўды, з таго часу прайшло больш за тры гады і папулярнасць чалавека магла пахіснуцца, але ці не той жа вынік мы бачылі пасля народнага волевыяўлення на рэферэндумах 95 і 96 гадоў? Мне могуць запярэчыць: маўляў, рэферэндумы цалкам сфабрыкаваны, і афіцыйныя лічбы — хлусня. Тады што рабіць з вынікамі сацыялагічных даследаванняў лабараторыі "НОВАК" пад кіраўніцтвам А. Вардамацкага? Не гэтых сацыёлагаў абвінавачваць у палітычнай заангажыраванасці партыям улады. А згодна з іх апытаннямі А. Лукашэнка на некалькі дзесяткаў (!) адсоткаў апярэджвае ўсіх магчымых кандыдатаў у прэзідэнты. Наіўна нават спадзявацца, што з такім рэйтынгам кіраўнік дзяржавы адмовіцца ад удзелу ў выбарах... Чым усё скончыцца, вядома — чарговай перамогай Аляксандра Рыгоравіча. Дарэчы, калі выбары адбудуцца ў 1999 годзе (як таго патрабуе Канстытуцыя 94 г.), улада атрымае адразу два козыры. Нягледзячы на тое, што Асноўны закон-96 дазваляе прэзідэнту заставацца на сваёй пасадзе да 2001 г., А. Лукашэнка абвесціць пра сваю гатоўнасць да "датэрміновых" выбараў. У вачах электарата гэта будзе выглядаць, як мужны крок, а з перамогай знікнуць усе пытанні наконт легітымнасці беларускай улады. Калі прачытаць апошняе інтэрв'ю прэзідэнта агенцтву "Інтэрфакс", стане зразумелым, што гэты варыянт дзеянняў разглядаецца кіраўніцтвам краіны. Хаця Аляксандр Рыгоравіч і кажа, што "выборы состоятся в точном соответствии с нашей Конституцией, принятой в ноябре прошлого года", ён узважыў свае магчымасці і магчымасці апазіцыянераў і зрабіў выснову: "Никаких выборов она (апазіцыя, — **В.Д.**) не желает". Ну а калі так, чаму ж не палепшыць свае адносіны з Еўропай і адначасова не нанесці ўдар па тутэйшай апазіцыі?

Але аўтары прапановы аптымісты і вераць у тое, што магчыма і патрэбна "ограничить полномочия президента и восстановить независимость законодательной и судебной власти". Прычым зрабіць гэта, на думку актыўных грамадзян, варта да выбараў. Тады атрымаецца "избежать повторения случившегося". Аднак давайце ўспомнім недалёкае мінулае. Што (або хто) перашкодзіла прэзідэнту знішчыць уласнымі распараджэннямі рэдактара парламенцкай газеты, змяніць прызначанага Вярхоўным Саветам кіраўніка Цэнтральнай выбарчай камісіі, ігнараваць рашэнні Канстытуцыйнага суда? І гэта пры тым, што абралі Аляксандра Рыгоравіча дэмакратычным шляхам і існавалі (фармальна) незалежныя адна ад адной "ветви власти".

Абмежаваць прэзідэнцкія паўнамоцтвы і "прымусіць" уладу абвясціць у бліжэйшы час новыя выбары кіраўніка дзяржавы аўтары "Заявы" збіраюцца шляхам правядзення... рэферэндуму. Дзеля гэтага актывісты пойдуць у народ, каб сабраць больш за 450 тысяч неабходных подпісаў. "Можно на законном основании потребовать смены режима в случае нарушения им своей же Конституции", пагражае Усебеларускі клуб выбаршчыкаў на выпадак, калі аўтографы не дапамогуць. Звярніце ўвагу, прыхільнікі Канстытуцыі-94 змагаюцца за яе выкананне, лічаць яе легітымнай і пры гэтым згаджаюцца гуляць па правілах, якія ўтрымлівае "Асноўны закон са змяненнямі і дапаўненнямі". Вельмі ж сумным падаецца здольнасць арганізацыі сабраць патрэбную колькасць подпісаў. І не таму, што, як лічыць Генадзь Селязнёў, апазіцыя беларускім уладам не перавышае 12 тысяч чалавек, а з прычыны відавочнай утапічнасці ідэі, пасіўнасці і страху грамадзян, шмат чаго іншага. Напрыклад, вядомая "Хартыя-97" за два месяцы свайго існавання аб'яднала ў сваіх шэрагах усяго каля 50 тысяч чалавек. І гэта пры моцнай падтрымцы з боку недзяржаўных СМІ. Нават калі я памыляюся і неабходныя ўмовы для правядзення рэферэндуму будуць створаны (хаця, бачыць Бог, лепей зберагчы грошы), якім чынам прыхільнікі абмежавання правоў прэзідэнта патрапяць у дзяржаўныя СМІ і галоўнае — пракантралююць ход плебісцыту?

Вернемся да таго, з чаго пачыналі, — асобы нашага прэзідэнта і ўяўнай неабходнасці мяняць яго на новага. Адкіньце ілюзіі! Якія новыя выбары, навошта? Кожны пражыты год сцвярджае адну і тую ж старую думку: не можа быць у постсавецкага грамадства несавецкага прэзідэнта. А таму трэба або вяртацца да парламенцкай рэспублікі (260 чалавек, абраных рознымі людзьмі, не могуць быць падобнымі адзін да аднаго), або не крануць прэзідэнта ўвогуле, супакойваючы сябе тым, што "любая ўлада ад Бога".

**Вадзім ДОЎНАР**

НАДЗЁННАЕ

# Каб над выспай — ды дзяржаўны "парасон"!

## ВІЗІТ У БЕЛАРУСКІ САЮЗ КАМПАЗІТАРАЎ З НАГОДЫ ІХ ЧАРГОВАГА З'ЕЗДА

***Увечары 15 студзеня ў Вялікай зале сталічнай філармоніі ўрачыста адкрыўся XII з'езд беларускіх кампазітараў. На афішы першага сімфанічнага канцэрта былі пазначаны імёны, за якімі — цэлая эпоха: Анатоль Багатыроў, патрыярх беларускай кампазітарскай школы, ды Ціхан Хрэннікаў, яго слынны маскоўскі калега, ганаровы госць з'езда.***

***Сёння, 16-га, мае адбыцца адкрыццё мемарыяльнага знаку на доме, у якім доўгі час жыў народны артыст Беларусі Уладзімір Алоўнікаў. Запланаваны таксама два канцэрты (з твораў студэнтаў аддзялення кампазіцыі БАМ ды народна-аркестравай музыкі) і паказ музычных спектакляў.***

***Самымі рознымі праграмамі будуць поўніцца з'ездаўскія дні — аж да заключнага філарманічнага канцэрта 22 студзеня. У той жа дзень адбудзецца пасяджэнне за "круглым сталом". А першае пасяджэнне, са справаздачамі, абменам думкамі ля мікрафона ды выбары ў кіруючыя структуры саюза, — заўтра ўранні. Так што патэнцыяльныя ўдзельнікі з'ездаўскіх дыскусій маюць час, каб падсілкаваць свой крытычны запал яшчэ й лімаўскай чытанкай.***

***Як тое водзіцца, напярэдадні падзеі "ЛіМ" звярнуўся па інтэрв'ю да старшыні праўлення БСК народнага артыста СССР Ігара Лучанка. Ён, у прыватнасці, сказаў, што з'езд — гэта добрая магчымасць для актывізацыі прафесійных кантактаў, магчымасць абмеркаваць вынікі творчай працы, разам падумаць і над праблемамі, і над планамі далейшай дзейнасці саюза.***

— З'езд — гэта і нагода для асэнсавання традыцый, — падкрэсліў І. Лучанок. — Фарміраванне Беларускага саюза кампазітараў пачыналася ў даваенны час. Арганізацыя была малалікая, складалася з тых, каго называюць пачынальнікамі беларускай савецкай музыкі, ды з першых выпускнікоў класа Васіля Залатарова. Свае трагічныя карэктывы ў лёс людзей мастацтва, як вядома, унесла вайна. Але пасля вызвалення Беларусі ад фашысцкіх акупантаў пачалося аднаўленне музычнага жыцця, і сапраўднай кузняй кампазітарскіх кадраў зрабілася наша кансерваторыя, выпускнікі якой папаўнялі шэрагі саюза. Ягоным ядром былі Мікалай Аладаў, Яўген Цікоцкі, Мікалай Чуркін, Пётр Падкавыраў, Аляксей Туранкоў, Рыгор Пукст, Дзмітрый Лукас... І, вядома ж, Анатоль Багатыроў ды Уладзімір Алоўнікаў.

За мінулыя дзесяцігоддзі беларуская музычная адукацыя ўзнялася на якасна новы ўзровень. Набыў сталасць і наш саюз: сёння гэта супольнасць прафесійных кампазітараў і музыказнаўцаў, якіх ужо 111 чалавек. Праўда, 9 з іх цяпер за межамі Беларусі. Але пра агульныя мерапрыемствы, такія, напрыклад, як з'езд, стараемся інфармаваць усіх.

Апошні раз мы збіраліся 4 гады таму. За гэты час колькасны склад саюза мала змяніўся. Былі страты — пайшлі з жыцця Уладзімір Алоўнікаў, Георгій Глушчанка, Уладзімір Чараднічэнка, Ігар Палівода, Уладзімір Солтан. Але мы прынялі 6 новых чальцоў, якія, спадзяюся, падтрымаюць годнасць айчыннай музычнай культуры.

Зразумела, кожны са ста адзінаццаці чальцоў нашага саюза — па-свойму адметная асоба, у кожнага за міжз'ездаўскі перыяд з'явіліся пэўныя прафесійныя набыткі. Вылучаць канкрэтныя імёны ў такіх сітуацыях заўсёды цяжка. Магу з прыемнасцю адзначыць, што сёння наша кампазітарская школа і музычна-тэарэтычная думка вызначаюцца досыць разнастайна, у творчай працы прадстаўнікоў некалькіх пакаленняў.

Старэйшае пакаленне — гэта і патрыярх беларускай музыкі Анатоль Багатыроў, і Генрых Вагнер, Яўген Глебаў, Эдзі Тырманд, Яўген Дзяцярык, Дзмітрый Смольскі, Андрэй Мдзівані, Сяргей Картэс.

Вялікая група тых, чый узрост каля 40 — крыху больш за 50. Яны актыўна пішуць у самых розных музычных жанрах. Тут, напрыклад, і Сяргей Бельцюкоў, Віктар Войцік, і Галіна Гарэлава, Уладзімір Дамарацкі, Уладзімір Дарохін, Алег Залётнеў, і Шушуно Ісхакбаева, Валерый Карэтнікаў, Уладзімір Кандрусевіч, Уладзімір Кур'ян, Вячаслаў Кузняцоў, Уладзімір Каральчук, і Аляксандр Клеванец, Мікалай Літвін, Марына Марозава, Ларыса Мурашка, Аляксандр Навахрост, і Яўген Паплаўскі, Уладзімір Прохараў, Ларыса Сімаковіч, Аляксандр Смольскі, Алег Сонін, Рыгор Сурус, і Валянціна Сярых, Людміла Шлег, Сяргей Хвашчынскі, Сяргей Янковіч... А побач — маладзейшыя, але яны працуюць нароўні са сталымі творцамі: Уладзімір Карызна, Аляксандр Літвіноўскі, Алег Хадоска...

Прынялі ў саюз і нядаўніх выпускнікоў Акадэміі музыкі Алену Атрашкевіч, Радзёна Глебава, Уладзіміра Саўчыка, Аліну Чыжык-Безансон, Паўла Яроменку.

Адраджэнне і развіццё традыцый айчыннай культуры паспрыяла таму, каб Мінск страціў манаполію на прафесійнае музычнае жыццё. Усцешна, што адметныя творчыя асобы працуюць сёння ў розных беларускіх гарадах: Васіль Кандрасюк — у Брэсце, Ніна Усціна ва — у Віцебску, Андрэй Бандарэнка — у Гродне, Уладзімір Браілоўскі — у Магілёве, Аляксандр Гулай — у Гомелі, Уладзімір Грушэўскі — у Баранавічах...

Заўважу, між іншым, што вядомы ў свой час Пётр Альхімовіч цяпер жыве і працуе ў Лацінскай Амерыцы, але не парывае сувязь з БСК: візітуючы ў Мінску, плаціць членскія ўзносы. І яшчэ пра аднаго вядомага кампазітара — Віктара Капыцько. Ён выйшаў з саюза, але застаўся чальцом Музфонду, што, прынамсі, гарантуе ахову яго ных аўтарскіх правоў.

*(Працяг на стар. 4)*

# Тры гады, сем дзён...

*(Праяг. Пачатак на стар. 1)*

Хто ж удзельнічаў у канцэрце? Перш за ўсё стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Сёлета іх гэтак жа многа, як і летась. Сярод іх і мастакі, і навучэнцы каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі; ёсць два юныя паэты. Удзельнічалі ў канцэрце таксама лаўрэаты розных творчых спаборніцтваў 1997 года. Заўважу, што задачай арганізатараў форуму было паказаць аматарам музыкі ў Мінску тых, хто перамагаў на конкурсных пляцоўках па-за межамі нашай сталіцы: у Баранавічах, у Смаргоні, у Гомелі... Апроч таго, у нас багата лаўрэатаў міжнародных конкурсаў, што праходзілі ў Польшчы, у Японіі, у Германіі...

У нас сёння незвычайна шмат таленавітых дзяцей — дзівосная з'ява на схіле другога тысячагоддзя! І хацелася б назваць усе імёны ўдзельнікаў форуму, але іх каля 50. Таму згадаю найбольш яркіх. Гэта стыпендыяты фонду прэзідэнта — музыканты Яўген Лятэ, Цімур Шчарбакоў, Алег Яцына, Дзмітрый Солтан, Аляксей Кісялёў, Георгій Анішчанка; юныя паэты, у якіх ужо выйшла кніжка, — мінчанка Валерыя Кустава ды палачанін Дзяніс Старавойтаў-Юрчанка...

Апроч салістаў, у канцэрце ўдзельнічалі добра вядомыя вядучыя калектывы юных выканаўцаў. Тут і Камерны аркестр Рэспубліканскага каледжа пры Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Перліна. І Узорная капэла хлопчыкаў Палаца культуры прафсаюзаў Брэста, якой кіруе Ала Ігумнава. І хор ДМШ N 1 Мінска пад кіраўніцтвам Васіля Клундука. І хор хлопчыкаў ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Глушакова. Яны разам з многімі іншымі ўдзельнікамі ўпрыгожылі ў той вечар галоўную канцэртную пляцоўку нашай рэспублікі.

Хацелася б сказаць вялікі дзякуй Міністэрству культуры за арганізацыйную, а найперш — за фінансавую падтрымку, без якой не адбылося б гэтае свята, свята высокага мастацтва, свята дзяцінства, юнацтва.

Маем надзею, што наш форум — не апошні, што наперадзе — і трэці, і чацвёрты... Што кожны год у нас будзе магчымасць паказваць краіне вялікае мноства нашых лаўрэатаў, нашых талентаў — зорак, якія ўпрыгожваюць беларускі музычны небасхіл.



*Лаўрэат Міжнароднага конкурсу Алег Яцына.*

**Запісаў Алесь ВОЛЬША**

*Фота К. ДРОБАВА*

# "Можа, я замінаю..."

У рэдакцыю "ЛіМа" трапіў дакумент наступнага зместу:

"Старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Зуёнку В.В.

Заява

Гэтым даводжу да Вашага ведама, што я вызваляю сябе ад гонару быць сябрам Рады і Прэзідыума Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Прашу выкрасліць маё імя з адпаведных спіскаў.

Ніл Гілевіч

10.1.1998 г."

Натуральна, такую заяву мы не маглі пакінуць без увагі і папрасілі Ніла Сымонавіча пракаментаваць яе. Вось што ён сказаў:

— Рада Саюза пісьменнікаў Беларусі, як і сам саюз, існуе не для таго, каб вучыць яго сяброў добра пісаць (гэта было б смешна), а для таго, каб, па-першае, абараняць правы, аўтарытэт і дабрабыт пісьменніка, па-другое, — каб змагацца за свабоднае развіццё беларускай літаратуры, мовы, культуры, асветы. Падумалася: можа, я замінаю кіраўнічым структурам СП належным чынам, мужна і з годнасцю, выконваць гэтыя высакародныя абавязкі? Можа, без мяне яны будуць спраўляцца лепш?

## Іх прымаюць на "біс"



Маладзёжны ансамбль "Бяляначка" з вёскі Бель Крычаўскага раёна вядомы і на Магілёўшчыне, і ў Расіі. У сваіх канцэртах яго ўдзельнікі выконваюць песні родных мясцін, як новыя, так і ўжо забытыя. Іх заўсёды прымаюць на "біс".

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

## З фальварка Загасцінне

Польскі пісьменнік Ян Гушча родам з Беларусі — нарадзіўся ў колішнім фальварку Загасцінне на Мёршчыне. У 1939 годзе скончыў Віленскі універсітэт, настаўнічаў. Пасля пераезду ў Маскву працаваў у Саюзе польскіх патрыётаў, у рэдакцыі польскай газеты "Новыя даляглiды". З 1945 года жыў у Лодзі (памёр у 1986 годзе). У сваёй творчасці не абмінаў тэмы Беларусі, прапагандаваў у Польшчы беларускую літаратуру. Я. Гушча склаў анталогію "Беларускія вершы" і "Анталогію беларускай паэзіі", для якіх пераклаў большасць твораў. Дзякуючы яму польскі чытач змог пазнаёміцца з кнігамі М. Багдановіча "Выбраныя вершы", У. Караткевіча "Блакіт і золата дня", Я. Брыля "Ніжнія Байдуны", зборнікам апавяданняў "Мае мядзведзі" і іншымі. Я. Гушчам перакладзены асобныя творы У. Дубоўкі, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, Я. Пушчы і іншых паэтаў.

У сваю чаргу яго перакладалі на беларускую мову М. Танк, Е. Лось, Я. Брыль, У. Караткевіч, Р. Барадулін, В. Зуёнак, В. Сёмуха, А. Клышка, К. Цвірка і іншыя. Вершы Я. Гушчы прадстаўлены ў зборніку польскіх пісьменнікаў "Горад мільённы і мы", які выйшаў у выдавецтве "Мастацкая літаратура".

## Былі здаўна сацыёлагі

І не дзе-небудзь, а на зямлі беларускай. Адзін з іх — Аарон (вядомы таксама пад імёнамі Адам, Аляксандр (Алізароўскі) 1618-1659), які ўвайшоў у гісторыю яшчэ і як правазнавец, палітолаг. А да ўсяго быў прафесарам Віленскай акадэміі, доктарам права. Паходзіў А. Алізароўскі з праваслаўнай сям'і. Атрымаў выдатную адукацыю: вучыўся ў навучальных установах Беларусі, Польшчы, Аўстрыі, Германіі і Італіі. Найбольш вядомая праца А. Алізароўскага — "Аб палітычнай супольнасці людзей", што выйшла ў Данцыгу ў 1651 годзе. А. Алізароўскі быў перакананы, што чалавецтва можа дасягнуць плённых поспехаў толькі тады, калі будзе ісці ўслед за прыродай. Ён станоўча ацэньваў той грамадскі лад, што паўставаў са старонак знакамітай "Утопіі" Т. Мора. Надаваў вялікае значэнне фізічнай працы. А. Алізароўскі з'яўляўся годным прадаўжальнікам гуманістычных традыцый Ф. Скарыны, Літвіна, А. Валана. Як і яны, верыў у магчымасць маральнага ўдасканалення чалавека.

## "Змена" запрашае

*18 студзеня* а 12-й гадзіне ў мінскім кінатэатры "Змена" адбудзецца сустрэча з пісьменніцай Святланай Алексіевіч. Прысутным будзе паказаны кінафільм "Пранясі, Божа, хмару" рэжысёра Алега Шклярэўскага, тэма якога пераклікаецца з аповесцю С. Алексіевіч "Чарнобыльская малітва". У сустрэчы прыме ўдзел аўтар сцэнарыя гэтага фільма Зінаіда Мажэйка.

*19, 20 і 23 студзеня* а 14-й гадзіне ў кінатэатры можна будзе паглядзець мастацкі фільм паводле аповесці Васіля Быкава "Знак бяды".

# Каб над выспай — ды дзяржаўны "парасон"!

*(Працяг. Пачатак на стар. 3)*

Асобна вылучу кампазітараў з прафесійнай адукацыяй, якія плённа працуюць на эстрадзе, у песенным жанры. Гэта Уладзімір Букнік, Дзмітрый Даўгалёў, Алег Елісеенкаў, Леанід Захлеўны, Эдуард Зарыцкі, Валерый Іваноў, Эдуард Ханок, Уладзімір Мулявін, Васіль Раінчык, Ірына Цвяткова, Алег Чыркун... Радуе, што ў нашых кампазітараў наладзілася добрае супрацоўніцтва з беларускімі паэтамі і ёсць шчырая цікавасць да самабытнага роднага слова. Хаця праблема непераборлівасці ў пошуку песенных тэкстаў застаецца актуальнай.

Не ўявіць саюз без музыказнаўцаў ды крытыкаў. У іх ліку сёння старэйшыя нашы калегі Браніслаў Сільвестравіч Смольскі, Вера Аляксандраўна Сізко, Ніна Мікалаеўна Юдзеніч, а таксама Тамара Дубкова, Арыядна Ладыгіна, Калерыя Сцепанцэвіч, Галіна Куляшова, Таіса Шчарбакова, Іна Зубрыч, Зінаіда Мажэйка, Радаслава Аладава, Тамара Варфаламеева, Ларыса Касцюкавец, Таццяна Мдзівані, Раіса Сергіенка, з маладзейшага пакалення — Эльвіра Алейнікава, Людміла Барадзіна, Таццяна Песнякевіч...

Мінае час, змяняюцца пакаленні. Але, на жаль, застаюцца і ранейшыя праблемы: з выданнем нот, з тыражаваннем запісаў беларускай музыкі, з яе прапагандай не толькі за межамі краіны, але і тут, сярод суайчыннікаў. Асобнай размовы вымагае праблема папулярызацыі творчасці беларускіх кампазітараў сродкамі электронных СМІ, а таксама праблемы, звязаныя і з недасканаласцю ў нас аховы аўтарскіх правоў кампазітараў, і з нізкім тэхнічным забеспячэннем іхняй працы.

Злом ранейшай сістэмы існавання грамадства абярнуўся дадатковымі цяжкасцямі і ў творчым жыцці. Вядома, кампазітары атрымліваюць пэўную падтрымку: ёсць Дзяржаўная прэмія, ёсць ганаровыя званні, устаноўлена прэмія года, якую сёлета атрымаў Дзмітрый Смольскі. Прэзідэнт краіны стараецца дапамагчы людзям мастацтва.

І ўсё ж, на жаль, прэстыж прафесіі кампазітара працягвае падаць. Канцэрты сур'ёзнай музыкі ладзяцца вялікімі намаганнямі. Сумленнаму таленавітаму творцу цяжка і нават балюча прыстасоўвацца да ўмоў дзікага рынку, калі для аўтарскага паказу ўжо мае значэнне не якасць твайго мастацтва, а тое, ці знойдзеш ты спонсара.

Дзякуй Богу, што шчырыя творцы ў нас пакуль ёсць, жаданне пісаць музыку ў іх не знікае — пра гэта сведчаць, дарэчы, насычаныя канцэртныя праграмы з'езда, у якія ўдалося ўключыць далёка не ўсе ўзоры плённай працы нашых калег.

Што да найбольш яркіх твораў — мяркую, іх адбярэ і назаве час...

●

Сапраўды, час — мудры крытык. Аднак жыць нам наканавана сёння, і нават той творца, які спадзяецца, што піша "для будучыні", чакае ўвагі сваіх сучаснікаў і добрага слова — цяпер. Наколькі дазваляюць магчымасці тыднёвіка, стараецца быць уважлівым да кампазітараў і "ЛіМ". Прынамсі, многія падзеі канцэртнага і музычна-тэатральнага жыцця трапляюць у поле зроку нашых карэспандэнтаў.

Пісаў калісьці "ЛіМ" пра першую імпрэзу АСМ — Асацыяцыі сучаснай музыкі, якая нарадзілася ў сценах саюза, напачатку нагадвала "клуб па інтарэсах", а за міжз'ездаўскі час ператварылася ў незалежную суполку. Што да стасункаў новай суполкі (цяпер ужо не АСМ, а ТСМ — пра гэта пазней) з саюзам кампазітараў і ягоным кіраўніцтвам, дык тут пануе гармонія. Стасункі самыя цесныя і сяброўскія, сказаў старшыня ТСМ Вячаслаў Кузняцоў, дадаўшы, што АСМ не была нейкім раптоўным і чужародным утварэннем у сценах саюза:

— Да гэтага мы доўга йшлі. Пры канцы 80-х маладыя тады беларускія авангардысты — Сонін, Бельцюкоў, Залётнеў, я чацвёрты, — апантаныя ідэяй абнаўлення, маючы невялічкі вопыт стасункаў з іншаземнымі калегамі, марылі разварушыць наша, як здавалася, застойнае, кансерватыўнае творчае жыццё. Нават нейкія маніфесты складалі... Даведаліся, што ёсць міжнароднае Таварыства сучаснай музыкі са штаб-кватэрай у Амстэрдаме, створанае ў падтрымку новых мастацкіх ідэй. Аналагічную суполку захацелася стварыць і нам. Напачатку проста збіраліся, абменьваліся інфармацыяй, потым спрычыніліся да арганізацыі канцэртных праграм, назвалі сябе Асацыяцыяй сучаснай музыкі. Гэта было штосьці накшталт "замежнай секцыі" ў структуры Саюза кампазітараў. Дарэчы, ягоныя чальцы складаюць цяпер аснову нашай суполкі.

А ў 93-м годзе мы, паводле статута міжнароднага Таварыства сучаснай музыкі, увайшлі ў яго як Беларуская секцыя. Змянілі назоў — на "Таварыства сучаснай музыкі". Цяпер ТСМ — юрыдычная асоба. Ад гэтага маем цікавыя перспектывы ў сваёй дзейнасці, але ж маем і дадатковыя праблемы.

Патлумачу.

Мы пачалі пачуваць сябе паўнапраўнымі чальцамі сусветнага супольніцтва сучасных кампазітараў. Тут і стасункі з іншаземнымі калегамі, і абмен інфармацыяй, і магчымасць удзельнічаць у Днях музыкі, якія штогод у розных краінах свету ладзіць Таварыства. Маем мажлівасць дасылаць у Амстэрдам партытуры новых беларускіх твораў, разлічваючы на тое, што міжнароднае журы выбера з іх вартыя выканання ў праграмах ТСМ. У такім разе аўтар будзе запрошаны на імпрэзу. Апроч таго, запрашаюцца два дэлегаты: першаму міжнароднае ТСМ аплачвае ўсе выдаткі, апроч білетаў на праезд, а другі мусіць ехаць цалкам за ўласны кошт, але з правам бясплатна наведваць канцэрты. Зразумела, беларускім творцам без спонсарскай падтрымкі такія вандроўкі не па кішэні. Ад фінансавага становішча нашай маладой суполкі, на жаль, залежыць і выбар нот для выканання: хаця беларускія партытуры маюць высокую канкурэнтаздольнасць паводле тэхналагічных ды мастацкіх крытэрыяў, але...

Уявіце сабе, што з-за нясвоечасовай платы членскіх узносаў Амстэрдам нават перапыніў аднойчы партнёрскія стасункі з Беларускай секцыяй! А як жа нам падтрымліваць статус стабільных партнёраў, калі штогод трэба плаціць за сваё міжнароднае членства 1500 гульдэнаў — гэта каля тысячы долараў... Раней звярталіся па падтрымку ў Фонд Сораса. Цяпер застаецца спадзеў толькі на дапамогу дзяржавы: для яе, здаецца, сума не надта вялікая, а сам факт падтрымкі сучасных творцаў меў бы добры міжнародны розгалас.

Летась з-за фінансавых праблем на Міжнародныя дні музыкі ад нас змог паехаць толькі адзін дэлегат — Сяргей Бельцюкоў. Сёлета ў красавіку прадстаўнікі Беларусі запрошаны ў Манчэстэр. Дэлегатамі абраны Аляксандр Літвіноўскі ды я. Калі не заплацім членскі ўзнос і калі не знойдзем спонсара для хаця б частковай аплаты "дарожных выдаткаў", Міжнародныя дні адбудуцца без нашага ўдзелу, а ў Амстэрдаме пра Беларускую секцыю калі й успомняць, дык з іроніяй.

Калі ж нам удасца падтрымаць міжнародны прэстыж сваёй арганізацыі, з часам Беларусь таксама зможа стаць месцам правядзення Міжнародных дзён музыкі. Але тут — як у выбары чарговай сталіцы Алімпійскіх гульняў: трэба адпавядаць пэўным крытэрыям, трэба жаданне і мажлівасць забяспечыць належны ўзровень прыёму замежных гасцей. Урэшце, гэткія культурніцкія акцыі цудоўна працуюць на міжнародны прэстыж краіны.

●

Лепшыя музыканты і сёння, як мо ніхто іншы, падтрымліваюць прэстыж Беларусі ў свеце. Калі ж дзяржава годна падтрымае іх? Падтрымае не "гуманітарнай дапамогай", даўшы таму — ганаровае званне, таму — прэмію, таму — аўтарскі канцэрт, таму — лепшае жытло. А падтрымае сталай саліднай аплатай творчай працы...

Першы сакратар праўлення БСК заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, загадчык кафедры кампазіцыі БАМ Уладзімір Дарохін устрымаўся ад размоў пра канкрэтныя набыткі айчыннай музычнай творчасці. Маўляў, хто рэгулярна чытае "ЛіМ", дастаткова зарыентаваны ў філарманічных прэм'ерах ды опернабалетных навінках. Разумець ды ацэньваць іх кожны можа па-свойму, у залежнасці ад прафесійнага досведу, суб'ектыўных прыхільнасцяў, густу: музыка — рэч далікатная... А вось праблемы ды трывогі бываюць агульназразумелымі. На іх і засяродзіўся У. Дарохін:

— Тэндэнцыя, якую сёння мы назіраем, не спрыяе развіццю музычнай культуры, не садзейнічае актыўным пошукам кампазітараў. Памятаю не такі даўні час, калі былі ў нас кампазітары, якія ў графе "месца працы" пісалі: "Знаходжуся на творчай працы". Сапраўды, выкананне ў канцэртах, запісы на радыё, заказы, а то і выданне нот дазвалялі члену саюза існаваць за кошт сваёй творчай працы. Цяпер кампазітары вымушаны — даруйце, але гэта наша жыццё — круціцца, мітусіцца, каб знайсці грошы. Бо з'явіліся праблемы і з аплатай новых твораў, і з іх выкананнем. Праца музыканта ўвогуле ў нас абясцэненая. Каб і самому жыць, і сям'ю забяспечваць, даводзіцца выкладаць, займацца аранжыроўкамі, выступаць у канцэртах...

А ўвогуле, распаўсюджаная фраза: "У наш цяжкі час" — не надта, я сказаў бы, карэктная. А калі ён быў лёгкі, гэты час? Проста сёння мы ідзём да таго, што ёсць ва ўсім свеце. А ва ўсім свеце ўсе кампазітары дзе-небудзь працуюць, за кошт выключна творчай працы жывуць толькі лічаныя велічыні. І "там" кампазітарам не трэба да такога становішча прызвычайвацца. Да таго ж, "там" прафесійны музыкант мае каштоўнасць для грамадства не на ўзроўні слоў і дэкларацый, — мае за сваю працу годны заробак!

Мы, кампазітары, узгадаваныя ў старой сістэме, мусім зараз перабудоўвацца. Маладым людзям з актыўнай жыццёвай пазіцыяй уваходзіць у рынкавую рэальнасць лягчэй. І вось на гэтым зломе часу, думаючы пра будучыню культуры, важна не забыцца пра тых, каму цяжка ўпісацца ў "новы паварот".

Так або інакш, час уплывае на творчую актыўнасць нашых калег. У кагосьці — апатыя, у кагосьці — настроенасць на працу... Памятаеце, праграмы колішніх з'ездаў уражвалі колькасцю сімфоній? Тады думалася: а навошта іх столькі?! А цяпер кампазітарам пісаць сімфоніі — і часу бракуе, і матэрыяльнага стымулу няма. І думаеш: дык, можа, і трэба, каб сімфоній было багата, каб распрацоўваўся гэты жанр, каб слабыя творы адсейваліся і колькасць урэшце перайшла ў якасць?

Лепшыя прадстаўнікі нацыянальнай інтэлігенцыі, ды ўжо, здаецца, усе нармальныя людзі жахаюцца з таго, як імкліва выцясняюцца высокія культурныя каштоўнасці індустрыяй шоу-бізнеса. Аднак жа ва ўсім свеце масавая культура не менш агрэсіўна паводзіць сябе, дый стаж, і досвед у яе там ужо вялікі. А элітарнае мастацтва і вечныя духоўныя каштоўнасці ўсё ж маюць разуменне, абарону, падтрымку і — перспектыву развіцця. "Там" пра гэта клапоціцца дзяржава.

Калі ж я задумваюся пра сапраўднае мастацтва, яно ўяўляецца мне выспай у ваяўнічым моры безгустоўшчыны, бескультур'я, эстэтычнага невуцтва. І, напэўна, сёння ў гэтым моры — час прыліву, бо хвалі ўсхадзіліся, дый з неба залева. У цывілізаваным грамадстве маленькай выспе нічога не пагражае, пакуль ёсць, я назваў бы так, дзяржаўная палітыка "парасона". Прыліў камерцыялізацыі спыніць нібыта немагчыма, ды дзяржаўны "парасон" абароніць, прыкрые выспу духоўнасці. У моры ж нашага стыхійнага рынку гэтая выспа выглядае зусім самотнай і забытаю.

Вядома, чалавек творчы застаецца такім да скону. Паклапоціцца пра яго дзяржава ці не, ён усё адно сімфонію напіша. Праўда, калі паклапоціцца, дык будзе час і сілы напісаць і дзве, і тры.

Ну, а калі не паклапоціцца? Калі не раскрые свой дзяржаўны "парасон"?.. Выспачка можа захлынуцца і патануць.

"Служенье муз не терпит суеты"... А мы, творцы, замест таго, каб "служыць музам", мусім клапаціцца пра хлеб надзённы. І мітусімся, мітусімся...

●

Кіруючыся старой мудрасцю, не будзем намагацца ахапіць зараз неабдымныя праблемы творчых людзей. Адмысловы калектыўны партрэт іх суполкі паўстане і са старонак справаздачнага даклада праўлення (з ім выступіць заўтра І. Лучанок). І з канцэртных праграм. І ў люстэрку з'ездаўскіх абгаварэнняў ды спрэчак. Балазе, БСК на чале са сваім клапатлівым і нястомным старшынёй імкнецца не проста выжыць у гэты смутны для творчых суполак час, але і падтрымаць дух высокага мастацтва ў асяроддзі калег ды слухачоў-аднадумцаў. І пагукаць людзей здаровага розуму, здатных зразумець, што праблемы БСК — гэта больш чым праблемы саміх кампазітараў.

Мо знойдзецца добрая рука, якая раскрые "парасон"?

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

***Тэлефануе сярэдняга веку літаратар і амаль крычыць у трубку: "Тут і без таго нас усіх дзяўбуць, дык яшчэ і ты ў "ЛіМе" эпатажы разводзіш, усю літаратуру аб..."***

***Хто і каго канкрэтна дзяўбе і "аб...", я не дачуўся, а эпатаж — гэта публікацыя "Ружовы туман" у мінулым нумары "ЛіМа", дзе аўтар публікацыі С. Дубавец адмаўляе беларускай савецкай літаратуры ў праве быць і называцца літаратурай, адносячы яе да і н ш а е дысцыпліны: "Гісторыі таталітарызму ў Беларусі".***

***Што ж, давайце адмовім С. Дубаўцу ў праве адмаўляць (чым ён, дарэчы, займаецца не ўпершыню, гэта, можна сказаць, выпрацаваны ім творчы метад, так што няма тут з чаго асабліва здзіўляцца), некаму адмовім у праве бараніць — і скончым на тым валтузню з эпатажам.***

***Але скажыце: у сённяшніх рэаліях ці не варта ўзважыць, зрабіць спробу асэнсаваць, што ж сапраўды ўяўляе сабой беларуская літаратура стагоддзя, напрыканцы якога і для яе, літаратуры, і цалкам для культуры, і наогул для ўсяго беларускага вызначаецца па сутнасці будучыня? Альбо міф гэтая літаратура, прывід, ружовы туман, дзікае паляванне караля Стаха, сродак існавання пэўнай групы людзей, як здаецца яно адным, альбо ўсё ж літаратура калі не адзіны, дык найістотны наш духоўны здабытак, як яно ўяўляецца іншым?***

***У літаратурным асяродку пераважае зараз разгубленасць і няпэўнасць, і я перакананы, што неабходна зрабіць намаганне, каб перадолець пачуццё нейкай несапраўднасці існага. Маецца ў мяне таксама спадзеўка на тое, што хопіць, дастаткова назапашана ў нас інтэлекту, каб у звязку з літаратурнымі праблемамі акрэсліць адказы на пытанні, можа стацца, значна больш важкія. Дзеля гэтага, а зусім не для эпатажу, друкаваўся без ніякага запрашэння да дыскусіі матэрыял С. Дубаўца, дзеля гэтага друкуецца, напісаны па прапанове рэдакцыі, артыкул В. Акудовіча. Які будзе працяг і ці акрэсліцца з яго ўрэшце хоць нешта выніковае, залежыць, зразумела, не адно ад супрацоўнікаў рэдакцыі. Тым больш, што ўсё складаней, сказаць папраўдзе, дагрукацца да аўтараў праз іх ляноту і прастрацыю: ну напішыце ж вы хоць што-небудзь, калі пісаць не развучаныя!***

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

Валянцін АКУДОВІЧ

# У вайны няма Айчыны

## РЭЦЭНЗІЯ НА ТЭКСТЫ СЯРГЕЯ ПАЎЛОЎСКАГА (ДУБАЎЦА) "СМЯРОТНЫ БОЙ", "МАРЫЯ І ПРАВАКАТАР". "НАША НІВА", N 31, 32 ЗА 1997 г. І "РУЖОВЫ ТУМАН", "ЛіМ", N 2 ЗА 1998 г.

*"Пасля ягонага (Максіма Гарэцкага. — В.А.) расстрэлу цэлы перыяд беларуская літаратура хавалася на эміграцыі, да выдатных твораў якой наша крытыка толькі падступаецца. Нічога не вылушчыць з кніг Броўкі, Глебкі і нават яшчэ блізкіх Мележа і Танка... Там пацюль ёсць або няпраўда або метастазы сатанізму..."*

*"...беларуская савецкая літаратура — гэта не раздзел беларускай літаратуры, а раздзел іншае дысцыпліны. Мы мусім не выбіраць, а зрабіць свой адзіны выбар".*

**Сяргей Дубавец**

### 1. ЦЫРК НА ДРОЦЕ

Бадай, найбольш значнай і адметнай у старой беларускай літаратуры была палемічная літаратура. Мы ведаем шмат бліскучых палемістаў той пары, але іх прозвішчы я тут нагадваць не буду, бо далей гаворка пойдзе пераважна пра Сяргея Дубаўца, і з такога супастаўлення сяго-таго можа ахапіць непатрэбнае хваляванне.

Згадкай пра былое я толькі хацеў сказаць, што палемічны тып пісьма здавён вядомы на Беларусі і ўжо даўно можна было б навучыцца адпаведнаму да яго стаўленню. Калі я чую пра палемічны тэкст, што ў гэтым абзацы аўтар мае рацыю, а ў гэтым яе зусім не мае, то мне робіцца няёмка за "крытыка".

Палемічны тэкст не можа "мець рацыю" ў сэнсе — быць "правільным"; як толькі палемічны тэкст набывае "правільныя" характарыстыкі, то адразу ператвараецца ў нешта іншае: навуковы артыкул, гістарычны дослед, сацыялагічную кампіляцыю, дыдактычную сентэнцыю і г.д.

У палемічным тэксце могуць (і мусяць) прысутнічаць "правільныя" факты, дакладныя лічбы і слушныя меркаванні, але ўсё гэта слушнае і "правільнае" альбо ўлучаецца ў "няправільны" алагічны кантэкст, альбо перакульваецца дагары нагамі ў самім сабе, альбо гіпербалізуецца да нейкай вычварнай меры. І ніяк інакш палемічны феномен не ўтвараецца, паколькі адзінае месца ягонага паўставання ляжыць у полі наўмыснай або выпадковай памылкі, лагічнай супярэчнасці, паэтычнай гіпербалізацыі ці якой іншай абсурдыстыкі... Чаму менавіта так? А таму, што ствараецца палемічны тэкст дзеля высвятлення ісціны (калі нават дзеля гэтага ён ствараецца), а, як і кожны мастацкі тэкст, дзеля падвышэння канцэнтрацыі адрэналіна ў крыві. Усё астатняе ў палемічным тэксце альбо другаснае альбо выпадковае...

Палеміст — гэта блазан на дроце, далёка ўнізе пад якім стаіць зачараваны натоўп.

Мне могуць заўважыць, што гэткім несамавітым параўнаннем я прыніжаю слынны жанр і тых шаноўных людзей, якія ў ім працавалі і працуюць. Рашуча не згодны. Канцэнтрацыя адрэналіна ў крыві абы ад чаго не падвышаецца. Каб іншага хапанула за сэрца, трэба самому добра напружыцца. Ды і абыякімі фіглямі-міглямі людзей не забавіш кінуць свае пільныя справы і пазадзіраць галовы.

Аднак маё параўнанне палемічнай літаратуры з цыркам на дроце будзе няпоўным і недакладным, калі я не патлумачу, што адрознівае сапраўднага палеміста, як Сяргей Дубавец, ад звычайнага цыркавога трукача. Сапраўдны палеміст падчас свайго штукарства забывае, хто ён і дзеля чаго ён, і верыць, што ўсе мы, гэтаксама як ён, павінны хадзіць не па зямлі, а хістацца з нагі на нагу ля нябёсаў.

І гэта зусім нармальна, што ён так верыць. Ненармальна атрымліваецца тады, калі нехта з натоўпу дае веры і лезе да яго на дрот.

На дроце няма месца для дваіх...

Але апошнія штукарствы Сяргея Дубаўца (серыя вышэйзгаданых тэкстаў) былі настолькі рызыкоўнымі і з гэтага так напампавалі мяне адрэналінам, што я забыўся на сваю абазнанасць у прыродзе палемічнага жанру і сам кінуўся да дроту. Толькі пакуль дабег, амаль увесь адрэналін з мяне вытрасся — ён увогуле на сваім месцы доўга не трымаецца — і я схамянуўся... Аднак назад вяртацца адразу не хацелася (навошта тады бег?) і я вырашыў: на дрот, натуральна, ужо не палезу, але пад дротам трохі паскачу.

### 2. РАЗВІТАННЕ З ХАЙДЭГЕРАМ, ДЭРЫДА, БУМ-БАМ-ЛІТАМ, ПОСТМАДЭРНАМ ДЫ ІНШЫМІ...

На жаль, каб весці гаворку далей, мне патрэбная яшчэ адна прэамбула. Рэч у тым, што Сяргей Дубавец, як кожны сапраўдны палеміст, яшчэ і ідэолаг. Будзе відавочнай памылкай блытаць яго са звычайнымі публіцыстамі кшталту Фядуты, Букчына, Дракахруста.., якім усё роўна, з якой нагоды і з кім палемізаваць — абы натоўп задзіраў галовы.

Сяргей Дубавец як палеміст — блазан, але ён не фігляр. Задзіранне галоў для яго не ёсць самамэтай. Усе справы і тэксты Сяргея Дубаўца — гэта індывідуальны праект Беларусі, які, з-за яго неабсяжнасці, уласнаруч немагчыма рэалізаваць, і таму даводзіцца клікаць на дапамогу, гэта значыць станавіцца ідэолагам.

Пры жаданні антысавецкі радыкалізм апошніх тэкстаў Сяргея Дубаўца (стыль яго пісьма "ад прыроды" радыкалісцкі) можна лёгка патлумачыць тым, што сваім з'яўленнем яны звязаныя з радыёперадачай, якую ён пачаў весці на аргіогі антыкамуністычнай радыёстанцыі "Свабода". Але я не думаю, што ў выпадку з Сяргеем Дубаўцом кан'юнктура кантэкста адыграла істотную ролю. Сяргей Дубавец сам з сябе — "Свабода". Мне здаецца, што апошняя маніфестацыя радыкальнага антыкамунізму ў Сяргея Дубаўца абумоўлена не кантэкстам "Свабоды", а куды больш маштабнай падзеяй — вяртаннем камуна-хрысціянства на Беларусь.

Няма асаблівай радасці ў тым, што камуна-хрысціянская контррэфармацыя настала атабарвалася на разлогах Айчыны. Але бяда нават не столькі ў самім камуна-хрысціянстве, колькі ў тым, што яно правакуе нас на панылы і бясплённы антыкамунізм, уцягвае нас усіх у багну супраціву, і ад гэтага, падобна, сёння ўжо няма куды падзецца. Нікому...

Колькі год назад Андрэй Федарэнка надрукаваў палемічны артыкул у "ЛіМе", дзе праз нелінейную апазіцыю "новыя" — "старыя" падзяліў усю літаратуру на хрысціянскую і нехрысціянскую (адпаведна — і ўсіх літаратараў). Бадай, найбольш уразіла, што, згодна Андрэю Федарэнку, хрысціянскія аўтары гэта тыя, якія друкуюцца ў "Полымі", "Маладосці", часткова "ЛіМе", а нехрысціянскія — у "ЗНО", "Нашай Ніве", "Калосьсях". Ад такога вынаходніцтва канцэнтрацыя адрэналіну ў крыві падскочыла фантастычна. Але калі да мяне пачалі звяртацца з прапановамі, каб я сам напісаў ці надрукаваў у "ЗНО" тэксты іншых ахвотнікаў да падвышэння канцэнтрацыі адрэналіну, у якіх яны мерыліся давесці паспаліты ўсё, што думаюць з нагоды інтэлектуальнага прарыву Андрэя Федарэнкі, то я адказваў прыкладна так: "Хлопцы, навошта нам марнаваць тэкставую прастору і ўласны час. Нас чакае безліч усяго сапраўды вартага нашай увагі. Нам трэба заспяліць палеткі Айчыны інтэлектуальным плёнам сучаснага еўрапейскага мыслення, заманіфеставаць трансглагізм, шызарэалізм, Бум-Бам-Літ, разгарнуць эстэтыку і філасофію постмадэрнізму, бо інакш Беларусь будзе заставацца на цэлую эпоху адсунутай ад сучаснага інтэлектуальнага жыцця... Адным словам, час нас кліча жыць наперад, а вы ўздумалі вярнуцца назад, да архаікі дзіцячых гульняў у "свае" — "чужыя", "хрысціяністы" — "сатаністы".

Той, не такі ўжо і даўні выпадак, мне адразу прыгадаўся, калі Сяргей Дубавец пачаў дзяліць не катэгарыяльна, а ідэалагічна, гэта значыць з пазнакай станоўчасці ці адмоўнасці, усю беларускую культуру на паганскую і хрысціянскую (сімвалам першай ён абраў Курган Славы, сімвалам другой — Вострую Браму), а затым падступіўся да гэтай справы яшчэ больш рашуча і аб'явіў, што ўся савецкая літаратура пашкоджана "метастазамі *с а т а н і з м у*" (курсіў мой. — **В.А.**).

Так Федарэнка як праблема, якая яшчэ некалькі год таму падавалася мне не вартай увагі, вярнуўся да мяне Дубаўцом у якасці ўжо актуальнай праблемы, бо я неяк вокамгненна адчуў, што на гэты раз мне ад прафаннай гульні ў "свае" — "чужыя" ўжо не выкруціцца, не схавацца ад яе ні за Фуко, ні за Бартам, ні за якім яшчэ там...

Не — не вокамгненна... Спачатку ад гэтай навіны, ад таго, што Федарэнка вярнуўся да мяне Дубаўцом, я аж рагатнуў, як мястэчковы Дурань (так у маім мястэчку называюць вар'ята). Пагадзіцеся, тут і здароваму на галаву цяжка ўтрымацца ад рогату: Федарэнка залічваў у сатаністы аўтараў "Нашай Нівы" (і да іх падобных) і пазначыў за хрысціяністаў "пальмянцаў", а Дубавец узяў ды раптам аб'явіў, што ўсё зусім наадварот, гэта "пальмянцы" (і да іх падобныя) сатаністы, а "нашаніўцы" самыя што ні ёсць хрысціяністы.

Грунтоўная атрымалася дыскусія, і да таго ж вельмі смешная... І вось тады, пасля рогату, я вокамгненна адчуў, што, здаецца, ужо не да смеху. Бо гэта не Федарэнка вярнуўся да мяне Дубаўцом, а да ўсіх нас вярнулася камуна-хрысціянства як рэальнасць жыцця, у аснове ідэалогіі якога заўсёды ляжалі два асноўныя прынцыпы: падзелу і размеркавання (у першым выпадку — на зямлі, у другім — на нябёсах); падзелу на "сваіх" і "чужых", размеркавання — "каго-куды" і "камукольні".

Як толькі я гэта ўцяміў, дык міжволі, само з сябе ціха вымавілася: Бывайце, Хайдэгер, Дэрыда, Бум-Бам-Літ, постмадэрн... Камуна-хрысціянства зноў пагоніць нас у крыжовыя паходы, на франты, барыкады, параскідае па лясах, катакомбах, пазатыкае намі дзіркі ў падполлі... Вайна!

А на вайне як на вайне. Бышчэ губляе сваю вясёлкавую размаітасць, зямная куля разламваецца на дзве палавіны, кожная з якіх у тысячу разоў меншая за саму сябе, шматпляменнае людства дзеліцца на "сваіх" і "чужых", мастацтва ўціскаецца ў маршы, карыкатуры і ўлёткі, мысляры апранаюць шынялі "палітрукоў" і ўся чалавечая гурма завіхаецца ля крушні, ля нядаўна назбіраных камянёў, каб зноў параскідаць іх, шпурляючы ў шматлікіх ворагаў... Куды вокам ні кінь — усюды знерухомела вайна.

Як здрадзіць нерухомасці вайны дзеля рухомага жыцця, дзеля рассупоненага існага, нерасшчэпленай зямной кулі, шматпляменнага людства, вольных творчых актаў, не зацуглянага ў партупею мыслення?.. Не ведаю.

### 3. ЗЯМЛЯ ГЕРАСТРАТАЎ

Камуна-хрысціянства — гэта вялікая правакацыя вайны. Гэтай правакацыі ўжо найменей дзве тысячы гадоў, і канца ёй не бачна. Чаму, акрамя безлічы ўсяго астатняга, сведчаннем і пакладзеныя ў под гэтай гаворкі тэксты Сяргея Дубаўца. Бо нішто іншае, як камуна-хрысціянства, спраакавала Сяргея Дубаўца на жаданне згамаваць усю беларускую савецкую літаратуру, каб на літаратурную покуць замест абразоў няварты "святых" паставіць абразы вартых "святых". А дзеля апошняга ўсё трэба распачаць наноў, з нуля ("...лепшае жыццё ў Беларусі сёння трэба ў вялікім і малым адбудоўваць з нуля. Толькі мала хто ведае, паводле якіх узораў.", "Наша Ніва", Крыт.). І калі мы пачнём з нічога, ды яшчэ па правільных схемах, то выбудуем новую, п р а в і л ь н у ю літаратурную іерархію, з чаго атрымаем магчымасць кленчыць не перад сатаністамі, а перад сапраўднымі святымі.

На шчасце для жыцця, у рэальным жыцці (тым болей у літаратурным жыцці) няма месца святым. І не можа быць, пэўна таму, што не Бог, а Сатана стварыў "планету людзей". Бог стварыў Эдэм і двух големаў. А големаў у людзей ператварыў Сатана (ці Бог, абярнуўшыся Сатаной?), калі абцяжарыў Адама і Еву грахом, з чаго, уласна, з'явіўся як чалавек, так і людства ва ўсёй сваёй жахлівай веліччы і жахлівай прыгажосці.

Гэта, здавалася б, не да месца, адступленне ў хрысціянскую версію свету я зрабіў адно дзеля таго, каб сказаць, што ўсялякая ідэалагічная спроба пабудаваць хоць якую іерархію на "святасці" і са "святых" заўсёды абарочвалася татальным вынішчэннем рэальнага, жывога, "сатанінскага" жыцця, як месца абсалютнай супрацьлегласці хоць якой ідэальнасці. І бяда Беларусі, якая праз тысячагоддзе так і не змагла завершыць сваё фармаванне ў нешта паўнавартасна цэлае не ў тым, што праз яе перакочваліся амаль усе еўрапейскія войны, а ў тым, што на ёй крыжаваліся ці не ўсе еўрапейскія ідэалогіі, кожная з якіх, у памкненні да рэалізацыі сваёй ідэі святасці, перманентна нішчыла Беларусь ці звонку войнамі, ці знутры — генацыдам.

Хрысціянства вынішчала на Беларусі паганства, яго культуру і літаратуру (апошняе — лічы дашчэнту, так што і знаку амаль не засталося; а яе, паганскай літаратуры, не магло не быць, бо татальна хрысціянства запанавала на нашых землях не раней XIV стагоддзя, а пісьмовасць тут актыўна прысутнічала як мінімум з X—XI стагоддзяў).

Потым ужо уніяцтва нішчыла праваслаўе з усёй яго культурай і літаратурай, як канфесійнай, так і секулярызаванай.

Праз два стагоддзі праваслаўе наўсцяж вярнулася і тое самае прарабіла з усім уніяцкім, а ў дадатак яшчэ — і з самімі уніятамі.

Неўзабаве Трэці Рым, натуральна, выбудоўваючы іерархію са сваіх "святых угоднікаў", наогул вынішчыў усё, што было напісана па-беларуску, незалежна ад канфесійнай прыналежнасці тых пісанак ці чаго там яшчэ.

Пазней савецкая Беларусь "чысціла" фонды бібліятэк ад нацыяналістычных кніжак, а фонд жыцця — ад нацыяналістаў (у Заходняй Беларусі палякі рабілі нешта падобнае з беларускай "камуністычнай літаратурай" і, натуральна, камуністамі).

Потым, за немцамі, ужо ўсё беларускае сацыялістычнае знікла імгненна, як туман у ветравы дзень... Але праз чатыры гады зноў вярнуліся саветы і ўвесь падакупацыйны нацыяналізм напаткаў лёс яго папярэдніка — падакупацыйнага беларускага сацыялізму.

Эпоха перабудовы і пачатковай незалежнасці Беларусі відавочна выяўляла тэндэнцыю да чарговага нішчэння савецкай беларушчыны, але надоўга той эпохі не хапіла. Настала пара камуністычнай контррэфармацыі і чарговага вынішчэння беларушчыны.

Папярэднія накіды — гэта вельмі і вельмі сціплы нарыс генезіса ідэі Сяргея Дубаўца, прасцей кажучы, гістарычнае тлумачэнне той "беларускай" традыцыі, з якой стасуецца ягоная прапанова адмовіцца ад беларускай савецкай літаратуры і збудаваць новую іерархію з ужо "сапраўдных" святых.

Уласна, Сяргей Дубавец прапануе данішчыць тое, што не данішчылі бальшавікі ў 20—50-х гадах, што пакінулі дзеля прыліку ці нейкіх іншых сваіх мэтаў, натуральна, не пакінуўшы пакінутае без пільнага ідэалагічнага нагляду, які дэфармаваў беларушчыну, месцамі да вычварнасці; апошняе, як быццам і дае нам падставу без шкадавання крэміраваць у сваёй памяці гэтых, яшчэ, здаецца, жывых мутантаў.

Прапанова, як для Беларусі, шчыра кажучы, не вельмі арыгінальная. Цэлае тысячагоддзе палілі, дык хіба праблема нам яшчэ адно

*(Працяг на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Шчырасць і непасрэднасць

**"Ручаінкай весняй..." — так называецца першая кніга Зоі Калкоўскай, што пабачыла свет у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць" (лістападаўскі нумар за мінулы год). Паэтэса родам з вёскі Шашкі Стаўбцоўскага раёна. Скончыла філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Цяпер працуе выкладчыкам Уздзенскага прафесіянальна-тэхнічнага вучылішча. А паэзіяй захапляецца (і сама піша вершы) даўно. Друкавалася ў калектыўных зборніках, рэспубліканскіх газетах і часопісах і, канечне ж, на старонках "Маладосці", дзе выступала не толькі як паэт, але і як празаік.**

**Для вершаў З. Калкоўскай, прадстаўленых у зборніку "Ручаінкай весняй..." характэрна тая шчырасць і непасрэднасць, на якую здатны чалавек, па-сапраўднаму ўлюбёны ў жыццё, аднак які адначасова разумее, што паўсядзённасць складаецца не толькі з адных святаў.**

**Таму яе лірычная гераіня і знаходзіцца ў пастаянным роздуме. Яна шукае сваё месца ў жыцці, але ж яна шукае і свет у самой сабе, у сваёй душы.**

**Адметнасць таленту З. Калкоўскай дакладна прыкмеціў аўтар невялікай прадмовы "Журлівая, светлая ручаінка" Віктар Гардзей: "...у гэтым зборніку вершы самыя розныя: па выбары тэм і іх чалавечай значнасці, па спосабу мыслення і асэнсавання жыцця, урэшце, па адметнасці падачы матэрыялу і вобразнай сістэмы, бо, далібог жа, асабіста мне вельмі многія тэмы Зоі Калкоўскай нагадваюць яршыстага, свавольнага юнака з прыгожай, але раскіданай, непрычасанай шавялюрай. Найбольшага поспеху, тым не менш, маладая паэтка дасягае тады, калі працуе на мяжы простага, звычайнага ўзрушэння і нечаканага, глыбокага зрыву душы".**

**Н. К.**

## У "Сузор'і музаў-97"



**У рамках дзён творчай інтэлігенцыі, якія прайшлі ў Віцебску, адбылося ўзнагароджанне лаўрэатаў гарадской прэміі "Сузор'е музаў-97". Сярод іх паэт Алег Салтук.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Малыя артысты



**Выступаюць маленькія артысты-лялечнікі з Крычаўскага Дома дзіцячай творчасці.**

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

СЛОВА

***Нядаўна выйшлі з друку дзве кніжкі маладога навукоўца Алены Яскевіч "Старабеларускія граматыкі" і "Праблема цэласнасці старабеларускай філалогіі XVI-XVII стагоддзяў: адзінства экзэгезы і герменэўтыкі". У іх аўтар працягвае пачатую ў папярэдніх кнігах гаворку пра распрацоўку старабеларускай мовы і яе ўплыву на сучасную літаратурную мову.***

***Пра гэта ж з Аленай ЯСКЕВІЧ гутарыць журналістка Галіна ШАБЛІНСКАЯ.***

# Ранак айчыннай філалогіі

**— Алена, у чым вы бачыце задачу філалогіі ў сучасным грамадстве?**

— У 90-х гадах вельмі востра паўстала пытанне ўсебаковага лінгвістычнага забеспячэння дзяржаўнага статуса нацыянальнай літаратурнай мовы. Гэта якраз быў перыяд, калі наша рэспубліка атрымала статус незалежнай дзяржавы, і таму пытанне адраджэння і сфарміравання паўнакроўнай літаратурнай беларускай мовы, якая была б у стане задавальняць патрэбы ўсіх стыляў: дзеловога, навуковага, дзяржаўна-палітычнага, справаводства і г. д. — было вельмі надзённым і актуальным. Існавала шмат шляхоў: звярнуцца да вопыту дыяспары, далей распрацоўваць дыялектныя скарбы, але стрыжнем, які б аб'яднаў усе гэтыя пошукі, быў зварот да традыцый старабеларускай літаратурнай мовы, на глебе якой сфарміраваліся суседнія мовы: старапольская, старалітоўская (летувіская), старарускае (дарэчы, старабеларуская традыцыя складае падмурак сучаснай расійскай, рускай літаратурнай мовы), з яе папаўнялі свае лексічныя багацці старарумынская і старавенгерская мовы, як і мовы чэхаў і славакаў. І таму менавіта абуджэнне ў нашай нацыі пачуцця моўнай радзімы было ў некаторай ступені мэтай майго пакалення. Менавіта пра гэта думалася мне, калі я рыхтавала сваю першую кнігу "Старабеларускія лексіконы" (Мн., 1992 г.): вярнуць нацыі скарбы старога пісьменства і нагадаць той класічны шлях, па якім прадвызначана развівацца сучаснай беларускай мове.

**— Алена, што вам, як навукоўцу, дало паглыбленне ў рэаліі старабеларускага моўнага жыцця? Як яно спрыяе сучаснаму літаратурнаму працэсу? Наколькі гэта жывая з'ява, наколькі яна прыкладная па сваім характары? Ці гэта ўсё-такі больш тэарэтычная плынь сённяшняй беларусістыкі?**

— Літаратуразнаўства, філалогія ў 90-х гадах нашага стагоддзя, адыходзячы ад састарэлых мастацкіх сістэм — постструктуралізму і постмадэрнізму на Захадзе і сацрэалізму з яго ідэолага-сацыялагічным аналізам у постсацыялістычных краінах, — паўсталі перад неабходнасцю новага метаду даследавання. Прапанаваны мною метад аб'яднанай філалогіі быў якраз у рэчышчы пошукаў еўрапейскай і сусветнай гуманітарнай галіны навук. У 90-х гадах асноўным крытэрыем ісціны, мастацкай каштоўнасцю стаў тэкст. Але глыбінны змест паэтыкі, асабліва сярэдняевечнага твора, па сутнасці заставаўся па-за ўвагай даследчыкаў. Найвялікшую каштоўнасць старабеларускіх граматык і лексіконаў усведамлялі сярэдняевечныя кніжнікі, славянскія будзіцелі, многія аўтары гісторый славянскіх літаратур XIX ст. Іх працы вылучаліся спецыфічным разглядам помнікаў культуры мовы (лексіконаў і граматык), як непарыўнай часткі літаратурна-мастацкай традыцыі, гісторыі і паэтыкі, літаратуры, нават больш — вывучэнне творчага працэсу пачыналася з азнаямлення з лінгвістычнымі творамі, як неабходным падмуркам аналізу літаратуразнаўчага.

Помнікі старажытнага пісьменства, асабліва старабеларускія граматыкі і лексіконы, даюць багаты матэрыял для абгрунтавання агульнафілалагічнага падыходу ў вывучэнні літаратуры. Яны ёсць сапраўдные люстра творчай лабараторыі мовы, іерархічная лесвіца моўнай нацыянальнай вобразнасці, якая пачынаецца з гуку, са слова, а дае свае адгаліненні праз марфолага-словазлучальныя сувязі, этымалогію і ўнутраную форму слова ў тропы, праз усе адцені сінтаксічнага яруса мовы ў складаную сістэму фігур думкі і фігур слова, уласна рытарычных фігур, законы ж прасодыі, парадыгматыкі, сінтагматыкі і рытмічнай арганізацыі тэкстаў тлумачаць усе адцені сістэмы вершаскладання, усю разнастайнасць вершаваных памераў.

Такім чынам, авалоданне рыторыкай як пазтычным умельствам было верхнім ярусам граматыкі, бачным ярусам айсберга эўрыстычна тонкіх законаў прыгожага пісьменства. Прападобны Максім Грэк, якога перакладчыцкая праца перканала ў неабходнасці добрага валодання граматыкай грэчаскай і славянскай, называў граматыку "пачаткам увахода", "брамай філасофіі".

У сучаснай беларускай літаратурнай мове адной з дамінуючых з'яўляецца тэндэнцыя да ўзбагачэння за кошт старажытнай папярэдніцы, і асабліва надзённы зварот да царкоўнаславянскай рэдакцыі нашай мовы ў XIV-XVII стст., а таксама да пластоў яе адцягнена-ўзвышанай лексікі, распрацоўцы якіх надавалі асаблівую ўвагу старабеларускія граматысты і лексікографы. Гэта дапамагло б у справе лексіка-стылістычнага ўзбагачэння сучаснай мовы, дало б магчымасць лепш вывучыць гісторыю функцыянавання і паходжання шматлікіх спрэчных граматычных форм і сінтаксічных канструкцый.

Выкарыстанне старабеларускай лексікі мае прыкладны характар, таму што розныя галіны сучаснай літаратурнай мовы маглі б жывіцца старажытным словам. Гэта найперш пласт высокай адцягненай лексікі: багаслоўскай, навуковага характару, сферы дзяржаўнай тэрміналогіі. Не ўсе архаізмы, словы старажытных эпох павінны быць цалкам выкінуты з ужытку. Сённяя працую ў Біблейскай камісіі па перакладзе Святога Пісання на беларускую мову. І якраз старабеларускія лёксіконы і граматыкі сталі тым падмуркам, да якога мы звяртаемся. Бо складалі тыя помнікі сапраўдныя светачы нашай культуры, людзі, якія, акрамя таго, што былі лінгвістамі, пісьменнікамі, былі яшчэ і багасловамі, філасофамі, асветнікамі і рупліўцамі.

**— Тут, можа, варта было б спыніцца на гэтых постацях і сказаць колькі слоў пра іх уплыў на стан тагачаснай беларускай культуры, старабеларускага слова? Як яны спрыялі яго далейшаму развіццю і яго далейшаму шляху ў свет, да больш шырокай грамадскасці?**

— Калі ўжо гаварыць пра постаці нашай айчыннай культуры эпохі Адраджэння, то найперш хацелася б спыніцца на асобе Івана Фёдарава. Ён у некаторай ступені і не "прапісаны" да беларускага пісьменства, але паводле шматлікіх гіпотэз і меркаванняў належаў да нашай культуры. І яго ўплыў на старабеларускае пісьменства і паслядоўнікаў быў значным. Па-першае, ён услед за эпымалагічнымі доследамі Скарыны пачаў пракладваць шляхі айчыннай лінгвістыкі, лексікалогіі і граматыкі. Менавіта яго "Лексіс з талкованіем славенскіх моў проста", "Граматыка — буквар" і "Астрожская азбука" паклалі пачатак уласналінгвістычнай традыцыі ў беларускім пісьменстве. Постаць І. Фёдарава дазваляе ўвесці ў шырокі навуковы і культурны ўжытак якраз беларускі Заблудаўска-Супрасльскі перыяд яго дзейнасці, значны пласт нашай культуры, які знаходзіцца цяпер па-за межамі Беларусі і часткова не ўлічваецца ў нашым гістарычным і культурным працэсе.

У канцы "Астрожскай азбукі" з'яўляецца знакамітае пасляслоўе І. Фёдарава, дзе ён згадвае "Сказание о письменах" Чарнарызца Храбра, у якім, падкрэсліваючы годнасць славянскай азбукі і ўвогуле богаслужэння на царкоўнаславянскай мове, сцвярджае і права за кожным народам, у прыватнасці за беларусамі, развіваць сваю культуру і славіць Госпада на роднай мове.

У больш драматычны перыяд праходзіла дзейнасць наступнага старабеларускага асветніка, багаслова, пісьменніка і лінгвіста Лаўрэнція Зізанія. Усе яго кнігі выйшлі адначасова ў 1596 годзе (час Берасцейскай уніі): "Лексіс", "Азбука" і "Граматыка". Менавіта гэты год быў дараваны яму Госпадам як кульмінацыйны ў яго творчасці. Захаваліся сведчанні, што ў часы першага цара дынастыі Раманавых Міхайлы Фёдаравіча, які быў па паходжанні, дарэчы, са старабеларускіх земляў, Зізаній быў пакліканы ў Маскву. Там выйшаў яго "Катэхізіс". Трэба сказаць, што спадчына Зізанія неаднаразова выдавалася і ў зборах Сахарава, вядомага расійскага даследчыка даўніны, і ўва ўкраінскіх даследчыкаў, згадвалася яна і ў працах вядомых польскіх, чэшскіх, славацкіх, сербскіх, румынскіх гісторыкаў XIX ст.

І, нарэшце, Іван Ужэвіч — гэта найбольш легендарная і рамантычная постаць нашай культуры. Можа быць, мала даследаваная менавіта ў тым аспекце, што створаныя ім помнікі — два варыянты "Граматыкі", Парыжскі і Араскі, выйшлі па-за межамі Радзімы, як вынікае з іх назвы. З'явіліся яны ў вельмі цікавы і няпросты час: заканчэнне праўлення славутага французскага дзяржаўнага дзеяча кардынала Рышальё. І гэта было невыпадковым, бо на нашай радзіме ішла складаная канфесійная барацьба, і з'яўленне гэтай граматыкі тут было немагчымым. А знешняя палітыка Рышальё вызначалася апазіцыяй каталіцызму. Таму менавіта працы праваслаўнага багаслова з Вялікага княства Літоўскага зацікавілі французскую грамадскасць. Трэба сказаць, што існавалі цесныя культурныя сувязі паміж Вялікім княствам Літоўскім, Рэччу Паспалітай і Францыяй. Бацька кардынала Рышальё ўваходзіў у склад дэлегацыі, якая паехала з каралём Генрыхам III, што ўзначальваў аб'яднаную польска-старабеларускую дзяржаву, у яго новае каралеўства. З гэтых часоў засталося магутнае культурнае падбрыванне, і многія культурныя дзеячы пры неспрыяльных умовах ездзілі ў Францыю і там знаходзілі падтрымку і разуменне. Але дзейнасць І. Ужэвіча (і ў гэтым яму не аддадзена належнае) узводзіць старабеларускае пісьменства, культуру ў сям'ю еўрапейскіх народаў. І вопыт яго "Граматыкі" таму выклікаў зацікаўленне, што ён знаёміў заходнееўрапейскія народы з традыцыяй удалага спалучэння здабыткаў уласна нацыянальнай мовы і кананічнага літургічна-царкоўнага пласта. Творы Ужэвіча ўражваюць багаццем лексічнага і граматычнага матэрыялу, зваротам да тых граматычных катэгорый, якіх няма ў іншых дапаможніках па сучаснай беларускай літаратурнай мове, але яны ў стане вырашыць складаныя пытанні і праблемы сучаснага літаратурнага слова, вытлумачыць белыя плямы ў нашым моўным працэсе.

**— Алена, дзве вашы кніжкі "Словам скароны свет" і "Творы Ф. Скарыны" адзначаны прэміяй Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за 1995 год. Чым быў абумоўлены ваш зварот да спадчыны Скарыны? Што найперш уласціва для яе сучаснай інтэрпрэтацыі?**

— Постаць Скарыны з'яўляецца ключавой у нашым нацыянальным пісьменстве. Гэта архетып нашай нацыі. Нягледзячы на тое, што пра яго столькі напісана, усё ж глыбінная сутнасць яго дзейнасці так і засталася не да канца раскрытай. І тут, можа быць, не віна вучоных, а віна таго складанага часу, палітычных абставін, калі пра нейкія духоўныя і канфесійныя рэаліі было цяжка сказаць. Спатрэбіўся такі кнігазнаўчы этап, каб на яго глебе магло з'явіцца даследаванне непасрэдна пра Ф. Скарыну як багаслова, пісьменніка, лінгвіста, асветніка. У некаторай ступені гэта была хрысціянская спроба рэабілітацыі яго як чалавека, развейванне шматлікіх міфаў, што назбіраліся вакол яго асобы.

Найперш варта гаварыць пра Скарыну як філасофа і багаслова. Чаму менавіта скарынаўскі напрамак стаў стрыжнявым у развіцці нашай культуры? І чаму адступленне ў XIXст. ад яго і адхіленні ў часы хваляў нацыянальных адраджэнняў (дарэчы, і ў наш час) прыводзяць да значных складанасцей у развіцці мовы і культуры? Верагодна, гэта заканамернасць. Існуюць пэўныя прадвызначаныя для кожнай нацыі класічныя шляхі развіцця. І адступленне ад іх вядзе да катаклізмаў у жыцці нацыі, да нацыянальнага заняпаду. У чым мы пераконваемся на працягу ўсёй гісторыі. Менавіта з постаццю Скарыны звязва-

юць пачатак беларускага духоўнага адраджэння. Яго багаслоўскія погляды лаканічна выкладзены ў пасляслоўях, казаннях, надпісаннях і прадмовах, дзе ён сцвярджаў глыбінныя багаслоўскія ісціны. Напрыклад, што прамудрасць ёсць дар Бога-Айца, і такім чынам абазначаюцца тыя багаслоўскія ісціны, да якіх прыходзяць вучоныя ў наш час: пра належнасць духоўных якасцей асноўнай асобе Прасвятой Троіцы Богу-Айцу.

Ф. Скарына вылучае дадзены ад Бога закон, паводле якога павінна жыць грамадства, і закон уласна чалавечы, закон пажыттачны. У гэтай іерархіі юрыдычных каштоўнасцей ён згадвае, што свабода дадзена не "во грехочинение", а дзеля выратавання чалавека. І найвялікшым Дарам Божым, які дазваляе чалавеку дапамагчы бліжняму, ён лічыць любоў і міласэрнасць. Трэба сказаць, што яго прадмова да кнігі "Песня Песняў" сапраўды з'яўляецца багаслоўскай вяршыняй.

У "Прадмове да кнігі Іова" Скарына, суадносячы праблемы нацыі з пакутамі біблейскага праведніка Іова, які, згубіўшы ўсё, захаваў сваю веру да Госпада, і праз усынаўленне, праз перанясенне пакут імкнецца спасцігнуць Бога, а таму адорваецца сямікроць. Блізкія ж сябры Іова, якія абвінавачвалі яго ва ўсіх уяўных грахах — маюць менш праўды перад Госпадам. Вобраз старазапаветнага праведніка меў для Скарыны такую значную каштоўнасць, як праваборства старабеларускага народа, нашай нацыі. Ён верыў, што менавіта яе духоўнасць, усыноўленасць нашага народа ў Госпадзе і дапамогуць яму выстаяць у няпростых катаклізмах і на пакрочастых скрыжалях гісторыі, захаваць сваю нацыянальную сутнасць, сваё нацыянальнае ядро. Пра што сведчаць увогуле ўсе Скарынавы прадмовы і пасляслоўі.

Варта яшчэ згадаць, што гімнаграфічная спадчына Ф. Скарыны недаацэньваецца ў айчыннай медыявістыцы. Беларускаму асветніку прыпісваюцца толькі акафісты Івану Прадцечы і Ісусу Сладчайшаму. У той час, як ён выдаў каля 12 гімнаграфічных твораў. Дарэчы, тэксты Скарыны засведчылі яго як выдатнага лінгвіста і моватворцу.

**— Да скарынаўскіх традыцый звярталіся не толькі старабеларускія кніжнікі, але і пазней: у часы А. Міцкевіча, Я. Чачота ў XIX ст., а таксама сённяшнія навукоўцы і літаратары. Пра такую ж повязь часоў сведчаць і артыкулы вашай кнігі "Словам скароны свет"...**

— Так, мова паўнакроўная і жывая толькі ва ўсёй сваёй гістарычнай рэальнасці, і сапраўдны яе носьбіт той, хто адчувае, бачыць яе ў повязі часоў. Напярэдадні юбілею славутага сына беларускага народа Адама Міцкевіча, хочацца згадаць урывак з паэмы "Конрад Валенрод":

*Сказ наш народны! Каўчэг прымірэння*
*Сённяшніх часоў з даўняю парою!*

Беларуская мова не ведала натуральнага выпадзення аджыўшых рэшткаў у архаічны запас. Класічны шлях развіцця мовы быў прымусова спынены, паўторнае развіццё літаратурных элементаў у ёй адбывалася на аснове вуснай дыялектнай стыхіі. Таму ва ўзаемадзеянні сучаснай літаратурнай мовы са старажытнай у нас актуальны той шлях, які ў аналагічных з нашымі ўмовах, але яшчэ ў XIX ст. прайшлі чэхі, увогуле многія з паўднёвых славян, багата выкарыстаўшы мадэлі літаратурнай мовы старажытнага перыяду, свайго так званага залатога веку, для паўнакроўнага ўзбагачэння мовы сучаснай. Перш за ўсё тут варта нагадаць "моўную палітыку" славутых "славянскіх будзіцеляў" чэхаў Й. Добраўскага, славака Я. Колара, славенца В. Копітара і серба В. Караджыча.

Аднымі з першых спроб разабрацца ў граматычнай сістэме беларускай мовы нова часу былі назіранні Я. Чачота ў "Прадмове да зборніка народных песень 1846 г.". Моцны дыдактычны і асветніцкі струмень роднасны паэзіі Л. Зізанія, І. Ужэвіча, Я. Каханоўскага, пацвярджае, што Я. Чачот плённа засвойваў вопыт старой кніжнасці. Я. Чачот быў палярэднікам і паплечнікам А. Міцкевіча. Так, яго "Калдычэўскі шчупак" у нечым палярэднічаў "Свіцязі", "Пану Тадэвушу". Дарэчы, постаці Я. Чачота не аддадзена яшчэ належнае ў нашай культуры.

**— З чым звязаны ваш зварот да марыялогіі?**

— Вялікія князі літоўскія і польскія каралі называлі Божую Маці Пачэснай Каралевай і Вялікай княгіняй, у лёсавызначальныя моманты сваёй гісторыі аддавалі сябе пад Пакроў і Апеку Царыцы Нябеснай.

На працягу ўсёй гісторыі існавання старабеларускай народнасці для духоўнай падтрымкі ў цяжкія часы нацыянальнага жыцця былі яўлены цудадзейныя іконы Божай Маці. Здараліся часы, калі беларускі народ страчваў сваю дзяржаўнасць, традыцыі літаратурнай мовы, але сярод вызначальных рыс яго архетыпу спрадвеку было ўшанаванне Божай Маці і Яе Св. Сына.

КНІГАРНЯ

# Эпіграмы як рэкламы

Нечаканае, ці не праўда, спалучэнне: "Эпіграмы як рэкламы"? Але так падаецца толькі на першы погляд, бо, калі ўважліва прачытаеш кніжку Паўла Саковіча з аднайменнай назвай (яе выпусціла рэкламна-выдавецкая фірма "Каўчэг"), упэўнішся, што ўсё, як кажуць, да месца. Па-першае, таму, што эпіграмы П. Саковіча — ніколькі не зласлівыя, як у сяготага з аўтараў, што любяць у гэтым жанры размахваць крытычнай дубінкай, а добразычлівыя. Ну, а паколькі адметныя такой якасцю, дык у нейкай ступені і спрацоўваюць як рэклама. А па-другое, П. Саковіч піша эпіграмы не толькі на вядомых пісьменнікаў, дзеячаў культуры, музыкі, тэатра. Сярод яго герояў і ўвогуле знакамітыя людзі — дзяржаўныя і грамадскія дзеячы, кіраўнікі асобных прадпрыемстваў. У дачыненні да апошніх якраз і спрацоўвае элемент рэкламы.

Само сабою, не на апошнім плане ў П. Саковіча і мастацкія вартасці твораў. Аўтар досыць упэўнена трымае ў руках гумарыстычна-сатырычнае пяро, аб чым сведчаць і яго ранейшыя кніжкі, а таксама нядаўнія публікацыі ў рэспубліканскай перыёдыцы. У кнізе нямала сапраўды ўдалых эпіграм. Скажам, атрымалася эпіграма на Васіля Быкава:

***Праводзім дружна год Быка***
***Без жалю мы вялікага,***
***Бо жыць нашчадкам у вяках***
***Пад знакам зоркі Быкава.***

Альбо на лімаўца Ю. Свірку:

***Ён запрасіў наведаць "ЛіМ":***
***"Заходзь з чым-небудзь са сваім"...***
***Засела думка у мяне такая:***
***На што ён гэта намякае?***

Не забыўся П. Саковіч сказаць слова і пра... славутае наша Аб'яднанне віна-гарэлачных заводаў. Праўда, атрымалася эпіграма задоўгай — няйначай, аўтар не адразу дайшоў да смаку прадукцыі, але і першых чатырох радкоў дастаткова, каб адчуць, што і да чаго:

***У іх няйнакш з урадам нашым здзелка,***
***Бо ўсім вядома гэта "навіна":***
***Чым горш жыццё,***
***тым болей п'ём гарэлкі,***
***Таму й квітнее гэта галіна.***

Асобным раздзелам у кніжцы прадстаўлены літаратурныя пародыі. У поле зроку П. Саковіча трапілі П. Місько, І. Хадарэнка, К. Жук, Ю. Голуб, украінец Б. Алейнік і ажно двойчы К. Камейша. Адна з іх — "Насіў я дзевак на руках" — ці найбольш удалая. Насіць то насіў, як прызнаўся К. Камейша ў адным са сваіх вершаў, але не сам ён, а нехта іншы. Гэтую думку П. Саковіч развіў далей:

***Але ж не быў бы я паэт —***
***Знаходлівы і хітраваты:***
***Я стаў славуты на ўвесь свет.***
***Цяпер за мной бягуць услед***
***І носяць на руках... дзяўчаты.***

Знайшлося ў зборніку месца і байкам, сатырычным мініяцюрам, ёсць у ім і "Гэты малалагічны слоўнік", які даўно, гэтак гадоў з дваццаць назад, друкаваўся і ў "ЛіМе". Ёсць у кніжцы раздзел "Мімаходзь".

Адным словам, ёсць што пачытаць і тым самым узняць свой настрой.

**Янка КРЫВІЦКІ**

# Казкі дзядзькі Пятра

Нядаўна, дзякуючы выдавецтву "Юнацтва", пабачыла свет нізка літаратурных казак маладога беларускага пісьменніка Пятра Васючэнкі. Казкі сабраныя пад адну стракатую вокладку ні вялікай, ні малой кніжкі і маюць агульную інтрыгуючую назву — "Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага". З мяккім гумарам, стылізавана пад дзіцячыя малюнкі, аформіла кніжку мастачка Я. Зельская.

Што за дзіўныя казкі ў гэтага дзядзькі Пятра! І ўсё пра беднага, непаседлівага пана Заблоцкага і ягонага дружбака ганарлівага пана Кубліцкага, якія жылі ў нашым краі "надта даўна, яшчэ за князем Дрыгайлам" (а можа, цішком даводзіць аўтар, працягваюць існаваць і зараз...) "Ото ж былі паны! Колькі яны пазараблялі гузоў на свае галовы — усё праз фанабэрыю, прагавітасць, недарэчныя дзівацтвы!"

Напрыклад, аднойчы, у нішчымніцу, калі гаспадарка ў абодвух паноў звялася на нішто, яны набухторылі вады ў чыгун, кінулі туды свае боты — "дыхтоўныя, са свінячае скуры, шмальцам падмазаныя"! — і варылі іх паўдня, а потым высербалі тую поліўку, ды так спраўна, што насы ўпрысядкі гулялі. І нават жываты не разбалеліся!..

А неяк "натурыстыя" нашы паны Кубліцкі ды Заблоцкі ў вялікі вайсковы паход хадзілі. Гэта тады, калі "пасварыліся князь Дрыгайла з каралём Гарбузом Васемнаццатым". ("Можа, з-за чорнага хорта, можа, з-за сівае кабылы, — каменціруе аўтар. — Людзі розна гамоняць"). І назбіралі тады яны з абодвух бакоў па вялікім войску, "і рушылі адзін супраць аднаго — сячы, страляць, мясіць крывавую калатушку. Зазбіраліся і пан Кубліцкі з панам Заблоцкім. Як жа ў такой калатнечы ды без іх!" А даваліся ім... ну, пэўна ж, — цягнуць воз з харчам, той, дзе кілбасы ўсялякія, кумпякі, вэнджаныя куры, карчагі з віном, салодкае сочыва і разынкі. Ды адзіны стрэл, які даваліся ім зрабіць (пражаным гарохам!), усе палічылі за салютаванне з нагоды міру, які якраз і ўсталяваўся, пакуль нашы паны даехалі. Безумоўна, усё з воза з'еўшы... Э-эх! "І вось паны Кубліцкі ды Заблоцкі едуць дахаты, абкрытыя, як той казаў, ад галавы да пятак баявой славаю. Яны яшчэ доўга будуць цешыць сябе ды людзей сваімі байкамі: як шаткавалі ворага, што тую капусту, як самога Гарбуза распляскалі на праснака". Аўтар нечакана заступаецца за паноў, з горкім гумарам заўважаючы: "Лоўка брэшуць, каб іх качкі стаптала. Ну і хай сабе. Яно куды горай, калі не ў байках, а напраўду праліваецца чалавечая кроў". Яму і шкода сваіх герояў-паноў, і смех разбірае...

Дасціпны гумар, іронія, гіпербала, гратэск, а таксама натуральныя размоўныя інтанацыі, спалучэнне сучасных і старажытных слоў, процьма народных выразаў, прыказак і прымавак ствараюць своеасаблівую ўнікальную атмасферу гэтай вясёлай, паўчальнай кніжкі для дзяцей і дарослых.

Упрыгожвае твор, надае ёй яшчэ больш старадаўняга духу-жару багатая, раблезіянская тыпу "гастранамічная лексіка", якой шчодра перасыпаны літаральна ўсе яго старонкі! Гэта добра бачна і з вышэйпададзеных цытат — апетытных кавалачкаў гэтага тэксту. Смачна есці! Смачна чытаць! Смачна... тэксты вывучаць! (Бо дзядзька Пятро ў канцы сваёй кніжкі падае нам нават слоўнічак, уласна ім складзены: жамяра — насякомае; скабы — рэбры; сочыва — варэнне; фіцьмаршал — фельдмаршал і іншыя, рэдкія ў сучаснай гутарцы словы).

Напрыканцы "Прыгод..." аўтар па-сваяцку жадае сваім чытачам здароўя і дорыць абяцанне новых сустрэч у імправізаванай, фантастычнай "карчомцы" часоў князя Дрыгайлы, а ці на цёплай печы, дзе ў доўгія, марозныя вечары заўсёды поўна дзяцей.

"— Кажы далей, дзядзька Пятро!"

**Людка СІЛЬНОВА**

# "Лёгкі попел і пыл"

Пасля двухгадовага перапынку Таварыства вольных літаратараў распачало чарговы выдавецкі праект. На гэты раз кнігі будуць друкавацца ў Берасці. Новую кніжную серыю адкрыў зборнік вершаў "Моўкнасць" кобрынскага паэта і драматурга Ігара Сідарука. Паэтычная серыя "Паэзія новай генерацыі", якую ТВЛ выдавала на працягу 1993—1995 гадоў у Полацку, сталася адметнай з'явай у літаратурным працэсе апошніх гадоў. Паэтычныя зборнікі "тэвээлаўцаў" успрымаліся неадназначна, часам узнікала дыскусія, шмат хто палохаў радыкалізм "вольных літаратараў". Аднак кнігі былі заўважаны, прачытаны, засвоены. Хто сочыць за айчынным літаратурным працэсам, ведае пра зборнікі "Водар цела", "Твар Тутанхамона" Юрыя Гуменюка, "Зямля Ханаан", "Зваротныя правакацыі" Славаміра Адамовіча, "Блюз каралеўскае кухні" Леры Сом і іншыя. На ўсе названыя выданні ў беларускай перыёдыцы з'яўляліся рэцэнзіі, пра іх пісалі вядомыя літаратуразнаўцы Пятро Васючэнка, Ганна Кісліцына, Людміла Корань, вершы з гэтых зборнікаў перакладаліся на украінскую, польскую мовы.

Неадназначна была ўспрынята і паэтычная кніга з серыі "Паэзія новай генерацыі", "Саната Арганата" Ігара Сідарука. Бадай, гэта самая брутальная кніга ў беларускай літаратуры за ўсю яе гісторыю. На фоне цнатлівых вершаў пра "валошкі ў жыце" і "родныя гоні" вершы кобрынскага паэта выглядаюць як чужаніца, як трэска ў воку. Яны моцна дысаніруюць з агульным беларускім паэтычным гіпертэкстам і выклікаюць канцэптуальную разгубленасць у айчынных літаратуразнаўцаў. "Як асоба, як чалавек, як жанчына — не магу я пісаць пра вершы Сідарука, — прызнаецца Ганна Кісліцына, адказваючы на пытанні часопіса "Калоссе" (N 5, 1997), — бо мову адымае, калі бачу яго паэтычную ўсмешку ў рэанімацыйнай палаце літаратуры..." Гэтак кажа літаратуразнавец маладога веку, няцяжка ўявіць, як рэфлексуюць на "дэструктыўныя" вершы кобрынца знаўцы літаратуры паважнага ўзросту. Але падобная паэзія сёння існуе, і яна нарадзілася не без дай прычыны. Наўрад ці з'яўленне "Санаты Арганаты" можна патлумачыць карыслівым жаданнем аўтара набыць танную славу эпатажніка і хулігана (у ясенінскім разуменні), бо кніжку паэт уклаў пасля прапановы выдавецкай суполкі "Полацкае ляда", асобныя вершы яе былі раскіданы па апазіцыйных, часам падпольных, выданнях. Найбольшую крытыку выклікаў верш "А хто там не йдзе?" з прыпіскаю "НеКупала". Хтосьці назваў яго здзекам з класікі, хтосьці — руйнаваннем Купалы. Іншыя ідэнтыфікавалі твор як класічны прыклад беларускага пастмадэрнізму. Верш пісаўся напярэдадні двух лёсаносных для Беларусі рэферэндумаў, гэта значыць, значна раней за з'яўленне спавядальнага артыкула Васіля Быкава, у якім пісьменнік прызнаўся сабе і нацыянальнай інтэлігенцыі, што Беларусь страчвае свой народ.

Трэці зборнік Ігар Сідарук назваў "Моўкнасць". Па стылістыцы ён бліжэй да першай кнігі "ЧарнаБел" (1991, Кобрын). У ім таксама няма рыфмаваных вершаў. Паэтычны голас "Моўкнасці" прыцішаны да трывожнага шэпту.

***Недзе —***
***вішні,***
***белыя вішні...***
***І так ціха***
***на маёй радзіме!***

***Аж страшна...***

Аднак у новых вершах Сідарука няма паралізуючага "цела і волю" страху. Нават у шэпце чуюцца ноты нязгоды, супраціву і нонканфармізму. У гэтым сцішаным голасе, які нагадвае патаемныя апокрыфічныя пацеры, як сярод метафізічнага туману, праглядаюць абрысы дарагіх аўтару малюнкаў, якія запалі ў памяць з дзяцінства, якія і ёсць скарб, набыты за пражытыя гады. У зборніку шмат ціхага смутку — па страчаным, па немагчымасці здзяйснення мараў.

***і раптам падумаеш:***
***вось і жыццё,***
***вось і смех учарашні...***

Сідарук у "Моўкнасці" непадобны да сябе ўчарашняга. Пасталеў? Ці, можа, захацеў пабыць сабой, без "панцыра", які прыкрываюцца ад чужога вока? Але і ў "Санаце Арганаце" не бракавала шчырасці, паэт і раней хацеў выказаць тое, у чым прызнаюцца сабе адзін на адзін, адразу, без разваг і ўзважванняў; нягледзячы на наступствы — быць шчырым. Цяпер ягоная шчырасць пакінула сацыяльны прасцяг і засталася на адзіноце з уласным EGO. Жыць сярод усіх і быць аўтаномным. Схаваць у сабе нешта каштоўнае, ахоўваць, як агеньчык ад апошняй запалкі. Стомленасць... Моўкнасць... Сцішанасць, як перад нараджэннем. Або перад смерцю. Нараджэнне і смерць. Два бакі галоўнай таямніцы жыцця. За смерцю — нараджэнне. За нараджэннем — смерць. За разгубленасцю — упэўненасць. За паразай — перамога. Сідарук не жаліцца ў сваіх вершах. Не шукае спагады. Ён не адмаўляецца ад сваіх перакананняў і мараў. Ён памятае пра свой храм. Ён ведае Імя.

***пэўна ты чула***
***як я***
***адное імя тваё***
***перад храмам рамонкавым***
***перад узвышшам гаркоты...***

***хоць і свінняў шмат***
***хоць і рохкаюць***

***ды толькі храм***
***толькі***
***імя***

**Алесь АРКУШ**

## Пра родны край



Шматвобразныя і цікавыя экспанаты Гарадоцкага краязнаўчага музея. Пастаяннадзейнай стала яго экспазіцыя прыроды, якая расказвае пра раслінны і жывёльны свет роднага краю.

*На здымку: на выставе "Тайны блакітнага льна".*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## У Коласавым доме

Другі год літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа праводзіць сустрэчы, прымеркаваныя да Калядных святаў. Сёлета гасцямі Коласавага дома былі вучні 20-й і 130-й сярэдніх школ сталіцы. Вёў сустрэчу з малодшымі школьнікамі старшы навуковы супрацоўнік музея І. Курбека. Дзеці паслухалі голас народнага песняра, запісаны на магнітафонную стужку. Уважліва слухалі дзеці і сына песняра, доктара тэхнічных навук Міхася Канстанцінавіча Міцкевіча. З яго прамовы яны даведаліся шмат невядомага з жыцця Якуба Коласа. Мікола Татур успомніў гады свайго настаўніцтва ў школе, як яго выхаванцы хацелі быць падобнымі на легендарнага дзеда Талаша.

Напрыканцы прагучала песня "Мой родны кут" у выкананні Данчыка.

Перад старшакласнікамі гэтых жа мінскіх школ выступілі ўнучка Якуба Коласа Марыя Міцкевіч і пісьменнік, зямляк народнага паэта Алесь Камароўскі.

К. СЦЕПАНЮК

## Калядныя фантазіі



Першая гарадская выстава фітадызайну "Калядныя фантазіі" адкрылася ў Мінскім Палацы дзяцей і моладзі. Выстава раскрыла ўсю шматграннасць творчых пошукаў навучэнцаў, паказала велізарныя магчымасці гэтага цікавага і даступнага ўсім віду мастацтва. У экспазіцыі пераважае Калядная тэматыка — кветкавыя кампазіцыі са свечкамі, Калядныя вяночкі, казачныя матывы.

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## "Першацвет", N 11

Як бы там ні было, а маладыя творцы "падрастаюць", сталеюць. Ці не так даўно часопіс "Першацвет" прадстаўляў чытачу А. Крэйдзіча, а ў адзінаццатым нумары ён ужо дэбютуе ў "Гасцёўні" аповесцю "Шчасце ў падарунак". Тут жа змешчаны паэма Т. Мазур "Прывід Евы" і пераклады С. Патаранскага твораў Д. Морысана.

І ўсё ж, па традыцыі, "гаспадары" нумара —маладыя творцы. Паэзія звязана з імёнамі А. Ільюкевіч, М. Курыпкі, А. Мараковай,А. Храпавіцкага, А. Ільянковай, С. Агафонавай, І. Міхайлавай. З празаічнымі творамі выступаюць А. Лосева, Т. Мінкевіч, А. Бязрукава, А. Нікулін. У артыкуле Г. Жаўток "У плыні рамантызму" ў параўнальным аналізе разглядаюцца "Сага пра Ёсту Берлінга" С. Лагерлёф і "Ладдзя Роспачы" У. Караткевіча. А. Дубасава ("Садок у... цвеPазілаўцы") дзеліцца ўражаннямі ад апавядання А. Федарэнкі "Цверазілаўка", апублікаванага летась у "ЛіМе". А. Крывіцкая ("Свет у 2050 годзе") свае развагі пабудавала паводле твораў Д. Оруэла "1984" і Я. Чыквіна "Усе мы выйшлі па-за брамы раю". Артыкул Л. Вашко называецца "Міфалагізацыя гісторыі". У "Жароўні" прадстаўлены А. Дабрадзей і Ю. Давідзюк.

**ВІНШУЕМ!**

# Навуму Гальпяровічу — 50

Навум Якаўлевіч родам са старажытнага Полацка, што, зразумела, паўплывала на яго творчасць: гістарычная тэматыка заўсёды прыцягвала яго. Але, перш чым сцвердзіў сябе ў літаратуры, ён прайшоў розныя сцяжыны-дарогі. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў на Полацкім шклозаводзе. Адтуль у 1967 годзе перайшоў у рэдакцыю полацкай аб'яднанай газеты "Сцяг камунізму", працы ў якой аддаў дзесяць гадоў. Адначасова вучыўся завочна на факультэце журналістыкі БДУ, але дыплом аб вышэйшай адукацыі атрымаў, таксама завочна, у Віцебскім педагагічным інстытуце (1979). У 1977—1980 гадах Н. Гальпяровіч быў рэдактарам радыёвяшчання вытворчага аб'яднання "Палімір" у Наваполацку, у 1980—1981 гадах — супрацоўнікам наваполацкай гарадской газеты "Химик". У 1981 годзе стаў уласным карэспандэнтам Дзяржтэлерадыё па Віцебскай вобласці. На гэтай пасадзе быў ажно да летапняга года, калі пераехаў у Мінск і прыйшоў на працу ў рэдакцыю часопіса "Вожык".

Першы верш Н. Гальпяровіча быў змешчаны ў 1967 годзе на старонках газеты "Химик", пасля з'явіліся публікацыі і ў рэспубліканскай перыёдыцы. У 1983 годзе паэт стаў адным з аўтараў калектыўнага зборніка "Сцяжына". У Н. Гальпяровіча выйшлі кнігі паэзіі "Брама", "Востраў душы", "Струна". Актыўна выступае ён з літаратурна-крытычнымі і публіцыстычнымі артыкуламі, апошнім часам — і ў прозе.

Віншуючы Навума Якаўлевіча з поўднем веку, жадаем яму і надалей бадзёрасці, аптымізму, творчай актыўнасці!

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ



## "Веру рыфмаванаму радку..."

●

*Зноў ад бойкі хаваюся злоснай,*
*Ад ілжывых напышлівых слоў...*
*А за горадам — вечныя сосны,*
*Водар поля, чароды буслоў.*

*Ды глядзяць з раўнадушнай спагадай,*
*Будзь хоць злодзей ці праведнік ты,*
*І лятуць са здзічэлага сада*
*Адзінокай самоты лісты.*

*Не ўцячы, не пайсці, не схавацца:*
*Там вось — злоба, тут — проста туга.*
*Свет — не сцэна. Ад гучных авацый*
*Стыне сэрца, бы кветка ў снягах.*

*І над гэтаю п'есаю вечнай*
*Будзе нехта смяяцца да слёз.*
*І апусціцца сцішаны вечар*
*На дрыготкія плечы бяроз.*

●

*З газет старых знаёмыя партрэты*
*І літараў няўцямныя значкі...*
*Прыходзіць ноч. І ўжо на схіле лета,*
*І восень паглядае з-пад рукі.*

*Прыходзіць ноч. І стоенаю песняй*
*За вокнамі самота зазірне.*
*Прыходзіць ноч. І нешта уваскрэсне,*
*Што ўжо, здаецца, згінула ўва мне.*

*І зорны дождж, як казачнае кола,*
*Нагадвае пра вечнасць і спакой.*
*А ўвесь сусвет — нібыта спелы колас*
*Пад цёплай хлебаробскаю рукой.*

### Вользе

*Гэта я ў гэтых цёмна-зялёных вачах.*
*Гэта я ў гэтых рухах і одуме ціхім.*
*Пастарэлі бярозы, палі і буслiхі,*
*Толькі дух малады у душы не зачах.*

*Гэта я зноў прастую ў апошні вагон,*
*Гэта я перад светам усім вінаваты,*
*Не жадаю паверыць у згубу і скон.*
*Гэта я... Гэта я...*
*Адгукаецца — "тата"...*

●

*Ізноў цягнік памкнуўся на Парыж.*
*Мяне няма там, не лячу і ў Лондан...*
*На дзвінскай выспе пахілёны крыж,*
*Руды сабака, што назвалі Лордам.*

*Тут мой сусвет, мой Эйфель і Манмартр,*
*Мой Оксфард і мой Луўр, мая Сарбона,*
*Мой Калізей тут і яго калоны,*
*І сябра побач — велічны, як Сартр.*

*Дымком павее з блізкай Палаты,*
*Там вогнішча, відаць, таксама паляць.*
*Маё жыццё кароткае, як памяць,*
*Імгненнае, як на пяску сляды.*

*І ўсё ж я сёння вечны, як сусвет,*
*Што мне Парыж!.. Я ўсё ў сабе змяшчаю.*
*І ў небе сярод безлічы планет*
*Сваю, яшчэ нязнаную шукаю.*

●

*На акне адзінокія ружы —*
*Непатрэбны нікому букет.*
*І ўстае — толькі вочы замружыш —*
*Ва ўяўленні твой даўні партрэт.*

*Што адчуў той мастак незнаёмы*
*У рысах стоеных вуснаў тваіх?*
*Бразне фортка з суседняга дома,*
*Цыгарэта адна на дваіх.*

*А ў сусвеце — бы ў казачнай залі,*
*Усё застыла ў пяшчотнай журбе.*
*Тыя рукі цябе малявалі,*
*Тыя рукі кахалі цябе.*

*І схіляліся дрогкія кветкі*
*Перад момантам гэтым тады —*
*Патаемныя ціхія сведкі*
*Тваёй роспачнай пекнаты.*

*Тыя ружы засохлі, канешне,*
*Ну а новыя — іншым даўно.*
*А партрэт твой, далёкі і грэшны,*
*Пахавала бяспамяцтва ноч.*

●

*Гляджу ізноў: ля ціхай рэчкі*
*За той фабрычнаю трубой*
*Аблокаў белыя авечкі*
*Спяшаюцца на вадапой.*

*І так даўно ўжо, год ад году,*
*За брудам, грукатам, быллём*
*Стаіць маўклівая прырода,*
*Дзе лес — бяздомным бабылём.*

*Асот, аер, цвіценне грэчкі*
*І хвалі ціхай збажыны...*
*Яны не ведаюць пра вечнасць,*
*Хоць вечныя не мы — яны.*

●

*Зноў час паклікаў на адведзіны,*
*Хоць век стары ідзе на злом.*
*Майго жыцця энцыклапедыя —*
*Напісаны чарговы том.*

*Калі ж наступны запланецца,*
*Ніхто не можа адказаць.*
*Трывогай сэрца зноў хвалюецца*
*У празе вартае сказаць.*

*Каб праўдай і самотнай верая*
*Зазначыць на паперы мне*
*Усё, пра што яшчэ не ведаю,*
*Што ў дальнім мроіцца акне.*

### Шагал

*І скрыпка, і цялё, і сум сусветны,*
*З вачэй біблейскіх выплыве туга...*
*Ізноў зямля пакутная ў снягах,*
*І ціш, і стынь, і одум пракаветны.*

*На сінім небе рыбы і звяры,*
*І ціхія шчаслівыя анёлы.*
*А свет вакол, нібы дзіцёнак кволы,*
*Што толькі навучыўся гаварыць.*

●

*Толькі шклянка ўначы задрыжыць*
*на стале,*
*Толькі грукат ад колаў прарве цішыню —*
*Гэта дзіўны цягнік, што імчыцца ў імгле,*
*Аддае свае сілы шаленства агню.*

*І каменьчыкі ў прорву зляятаюць з маста,*
*І апошні ліхтарык праз цемру імжыць.*
*Гэты дзіўны і вечны, бяссонны састаў*
*У тузе незваротнай удалеч імчыць.*

*Хто заскочыць аднойчы ў апошні вагон,*
*Хто сарвецца з парэнчаў у вечную ціш?..*
*Гэты дзіўны цягнік, таямнічы, як сон,*
*Калі хочаш прачнуцца, але яшчэ спіш.*

●

*Дарагія аблічы... Сціраюцца рысы,*
*Вы, здаецца, сыходзіце ў бездань тугі.*
*Вымушаючы жорсткаму часу скарыцца,*
*Хоць чарговы ўспамін ёсць яшчэ дарагі.*

*І ніхто гэтых стратаў, здаецца,*
*не лічыць,*
*І ніхто не паможа іх след адшукаць.*
*Дарагія аблічы знікаюць, як знічкі,*
*І ў касмічную цемру павольна ляцяць.*

●

*Я веру рыфмаванаму радку,*
*Нібыта ў маці і у сябра веру.*
*І лёсы нашы, нібы тыя дзверы,*
*Не зачыняюцца перада мной пакуль.*

*Хай, можа, старамоднасцю яго*
*Зноў папракне сучаснік іранічны,*
*Я ведаю, што для мяне не знікне*
*Яго высокай мужнасці агонь.*

*Ён для мяне пачатак і выток,*
*Працяг жыцця і вечны дух шукання,*
*І хочацца, каб хоць адзін радок*
*Застаўся тут, калі мяне не стане.*



*г. Полацк. Ля музея.*

*Мастак Ул. Лукша.*

ПРОЗА

Людміла ДРОЖЖА

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ



*Людміла Дрожжа нарадзілася на Капыльшчыне. Свае першыя навелы надрукавала ў капыльскай раённай газеце “Слова працы”. Пасля заканчэння факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта працуе ў дзіцяча-юнацкай рэдакцыі рэспубліканскага радыё. Напісала кнігу навел для юнацтва.*

*Сёння штотыднёвік змяшчае дзве навелы гэтага аўтара.*

## УЧАСТКОВЫ

Участковы міліцыянер Максім Пятроўскі, малады мужчына гадоў трыццаці, высокі, мажны, з ласкавымі сінімі вачамі, якія яшчэ больш станавіліся ласкавымі, калі ён гаварыў з дзяўчатамі ці маладымі жанчынамі, дамоў прыехаў рана, заняўся хатняй работай, пасля пагуляў з пяцігадовым сынам на вуліцы, пахваліў жончыну вячэру, пачытаў газеты, а перад сном дастаў свой блакнот і напісаў у ім: “Першае: схадзіць у школу і правесці работу з дзецьмі...”

Пятроўскі зусім не быў падобны на таго строгага незгаворлівага міліцыянера, які не цырымоніцца з п’яніцамі, можа надаваць пад бакі ўсялякаму, хто супраціўляецца, не падначальваецца строгім загадам. Ад прыроды ён быў надзелены поўнай вытрымкай і спакойным характарам. Акуратна і метадычна выконваў свае абавязкі, але калі-нікалі скардзіўся сябрам і знаёмым, што на аднаго ўчастковага міліцыянера тры саўгасы альбо 60 населеных пунктаў — нагрузачка каласальная. Паспрабаваў бы паліцэйскі з амерыканскага баевіка паварыцца ў яго катле... Гэта табе не “пух-пах” з пісталета. Ні нават аўтапагоня з шалёнай хуткасцю.. Толькі ад пратаколаў галава кругам ідзе. Ды і начальства за кожнае правапарушэнне з каго скуру здзірае? З яго, участковага. Дзе прафілактычная работа? Чаму ён на ўчастку злодзеяў і дэбашыраў развёў? Як быццам ён, Максім Пятроўскі, нейкі злы дух, што ўсяляецца ў слабыя душы і нашэптвае ім: пайдзі напіся, пайдзі ўкрадзі, заляпі аплявуху суседу... Хіба ён вінаваты, што людзі азвярэлі і паскудзяць на кожным кроку? Прафілактычная работа, лічыў Пятроўскі, мае эфект, але ж у яго няма фізічных сіл настаўляць на розум усіх адступнікаў.

Лежачы ў ложку, Пятроўскі ўспомніў свой сённяшні візіт у мясцовую царкву, якая таксама была адна на ўсю акругу. Святар айцец Багдан быў блізкі яму па ўзросце і, як падалося Максіму, ганарыўся сваёй святасцю. Хоць яны павіталіся за руку, Максім улавіў, як айцец Багдан стрыгануў па ім халаднаватым позіркам, пагладзіў далікатнай белай рукой кароценькую бараду, але ўсё ж прыветна спытаў:

— Ну як вашы справы?

— Справы ерундовыя, — махнуў рукой Пятроўскі. — І чаму гэта царква слаба агітуе народ выконваць запаведзі: “не забі”, “не ўкрадзь”? Я думаў, мы будзем з вамі ў тандэме змагацца, выкараняць зло.

— Дзверы нашага храма адчынены для ўсіх, — спакойна сказаў айцец Багдан. — У чалавека павінна абудзіцца жаданне пакаяцца. Вы прыйдзіце ў нядзелю ў царкву — адны жанчыны ды некалькі старэнькіх дзядоў... Мужчыны ў нас вельмі ганарлівыя. Яны думаюць, што ўсё могуць. Яны гаспадары жыцця. А жывуць з нянавісцю і злосцю. Чалавеку неабходна ачысціцца ад грахоў, бо калі іх збіраецца вельмі многа, то несці іх няма больш ніякіх чалавечых сіл. Адсюль самагубствы...

— У кожнага самагубства свая прычына, — перабіў святара Пятроўскі. — Я гэта ведаю.

— Ведаеце? — з ледзь улоўнай насмешкай перапытаў айцец Багдан.

— А грахі, — кінуўся ў развагі ўчастковы, — гэта зноў жа, каторы моцны — трымаецца, і ніякімі спакусамі не заманіш яго ў лавушку. А каторы хлюпік, — Пятроўскі махнуў рукой. — Вось я за сабой, дапусцім, ніякіх грахоў не адчуваю...

— Не адчуваеце? — з нейкай стомай у голасе спытаў айцец Багдан.

Яны яшчэ пагаварылі пра нешта і развіталіся.

“Не, бацюшка мне не памочнік, — засынаючы, падумаў участковы, — адзін я, як мая...”

Назаўтра з раніцы Пятроўскі падаўся ў школу разбіраць здарэнне — скаргу мясцовай прадаўшчыцы Каці. Тыдзень назад два трэцякласнікі зрабілі падкоп пад склад магазіна, выцягвалі адтуль пустыя бутэлькі і насілі здаваць іх у гэты ж самы магазін, пакуль нехта з дарослых не запрыкмеціў.

Участковага сустрэла завуч Зінаіда Фёдараўна і папрасіла прапясочыць “герояў”, каб вушы пунсовым макам гарэлі.

Абодва вінаватыя трэцякласнікі зайшлі ў кабінет апусціўшы галовы, чакалі непрыемнай размовы.

— Кралі бутэлькі? — адразу прыступіў да справы Пятроўскі.

— Кралі, — шмыгнуў носам белабрысы.

— Падвучыў хто ці самі даўмеліся?

— Самі, — гледзячы на падлогу, буркнуў цёмнавалосы.

— Та-ак, — расцяжна сказаў участковы. — І школу аславілі, і бацькоў. Бацькам штраф, ганьба. І вам ганьба.

— Цяпер усе крадуць, — з-пад ілба паглядзеў на ўчастковага цыганісты трэцякласнік.

Пятроўскі здзіўлена ўтаропіўся ў хлопчыка і ўладна падняў за падбародак апушчаную галаву.

— Злодзей заўсёды ў турму трапляе! Запомніш ці на ілбе табе напісаць?

— Запомню, — каўтнуўшы камяк слёз, хуценька буркнуў чарнявы.

— Кім вы хочаце стаць?

Абрадаваныя мірным тонам участковага, трэцякласнікі наперабой выпалілі:

— Лётчыкам.

— Машыністам.

— Вось і добра, — сказаў участковы. — Злодзеем ніхто не марыць стаць...

Можа б, размова яшчэ мела свой пра цяг, але ў кабінет зноў зазірнула завуч з растрывожаным тварам. Напаўголасу, каб не чулі дзеці, яна сказала:

— Паўлавіч, званілі з цэнтра саўгаса, прасілі вас тэрмінова прыехаць. Там здарэнне... Дырэктар саўгаса... Няма ўжо яго.

— Як? — Пятроўскі няўцямна паглядзеў на завуча.

— Я ж не ведаю, што там... Але кажуць, пасварыўся з жонкай... Пасля памірыцца надумаў, паставіў бутэльку, яна не захацела з ім піць... А ён — у пятлю. Раніцай знайшлі...

Пятроўскі пабег на аўтобусны прыпынак, бо яго матацыкл стаяў на рамонце. Ён быў ашаломлены трагічнай весткай і спяшаўся хутчэй высветліць абставіны.

На прыпынку стаяла пажылая жанчына з сумкай, напоўненай кнігамі. Пятроўскі ўжо дзесьці бачыў яе. Жанчына дастала з сумкі кнігу і працягнула Пятроўскаму.

— Вазьміце біблію, бясплатна.

— А я ў бога не веру, — мякка адводзячы руку з кнігай, сказаў Пятроўскі.

— А ў каго ж ты, сынок, верыш? — яна не паклала кнігу ў сумку, глядзела на яго як бы спачувальна.

— У вышэйшую цывілізацыю, — адказаў Пятроўскі.

— Гэта ж дзе такая ёсць?

— Ёсць. Дзе-небудзь у Сусвеце.

— Калі ёсць, то ўсё ад бога. Вазьміце біблію.

Пятроўскі падумаў, што жанчына задалася мэтай зламаць яго атэістычны дух.

Якраз падышоў аўтобус. Каб не крыўдзіць старую кабету, Пятроўскі ўзяў біблію, паклаў у папку і ўскочыў у аўтобус.

Ехаць было недалёка, праз хвілін дзесяць Пятроўскі выйшаў і, выбраўшы самы кароткі шлях, пашыбаваў у цэнтр саўгаса. Ён успомніў дырэктара, якога добра ведаў і многа разоў выпіваў з ім, і ў яго заныла сэрца. Не хацелася верыць, што невядома па якой прычыне, канечне ж, па дурасці, па гарачнасці сваёй пайшоў ён з жыцця.

За апошні час гэта быў васемнаццаты мужчына на яго ўчастку, які скончыў жыццё самагубствам... Васемнаццаты!.. Гэтая лічба, як электрычны ток, скаланула Пятроўскага. Ён спыніўся сярод поля і пацёр скроні. Чамусьці ўспомніў размову на прыпынку... А як там, у вышэйшай цывілізацыі, усё разумна, гарманічна? Чалавек не забівае чалавека, чалавек не робіць зла?

“Гэта ж дзе такая ёсць?” — узгадаліся словы жанчыны і ён міжволі ўсміхнуўся. Каб ён ведаў, дзе яна такая ёсць. А вось што на зямлі творыцца... Ды што на зямлі, на яго ўчастку... Гэта трагедыя, д’ябальшчына.

“А мо сапраўды людзі назапашваюць столькі грахоў, што няма сілы несці — вось і надрываюцца...”, — пранеслася ў галаве. І ўсё ж гэта былі думкі айца Багдана, ён чалавек царкоўны, а Пятроўскі — участковы міліцыянер. У іх розны светапогляд.

“Эх, Іван Сямёнавіч, — са шкадаваннем падумаў участковы пра нябожчыка, — не правёў я з табой прафілактычную работу...”

Ён паглыбіўся ў свае прафесійныя развагі і стомленай хадой пашыбаваў да месца здарэння.

## БАЦЬКАВА ХАТА

Віктар Фёдаравіч Іваноўскі прыехаў прадаваць бацькаву хату. Пад наглядам суседа яна стаяла ўжо гадоў пяць, з той пары, як памерлі бацькі. Акурат столькі часу Іваноўскі не быў на радзіме. Ён жыў у вялікім паўночным горадзе, выкладаў фізіку ў політэхнічным інстытуце, абараніў кандыдацкую, і жонка ўнушала, што яго незвычайнаму розуму доктарская будзе сапраўднай дробяззю.

Калі Іваноўскі раней прыязджаў на радзіму, сусед Павел Ліхадзіеўскі, паціскаючы яму руку, перш-наперш пытаў:

— Ужо мо прафесарам стаў?

— Не, — сціпла ўсміхаўся Іваноўскі.

— То станеш, — нібы суцяшаў сусед і пачынаў хваліцца набыткамі сваёй сям’і.

Іваноўскі перапісваўся з суседам, і аднойчы атрымаў тэлеграму: “Знайшоў купца. Тэрмінова прыязджай”.

Ліхадзіеўскі сустрэў яго на станцыі, пасля прывітання, упэўніўшыся, што Віктар Фёдаравіч яшчэ не стаў прафесарам, пачаў дакладваць пра купцоў, якія грошы прапануюць і хочуць хутчэй перавезці хату. Пасля слоў “перавезці” нешта ўнутры Іваноўскага абарвалася. Ён толькі цяпер уцяміў, што назаўсёды развітваецца з дарагімі мясцінамі. Яму здавалася, што купленая хата будзе стаяць на месцы, проста ў ёй паселяцца чужыя людзі, і некалі ў старасці ён прыедзе зірнуць на яе. А хата Іваноўскіх была яшчэ моцная, звонкая, ганарлівая. Яе пабудавалі той вясной, калі Віктару споўнілася пятнаццаць гадоў, і бацька ўжо браў яго ў памочнікі часаць кроквы, слаць падлогу...

Ліхадзіеўскі спыніў матацыкл на сваім двары, запрасіў госця ў хату. Ён быў моцна збіты, чырванашчокі мужчына з пасівелай кудлатай шавялюрай, працаваў сталяром у саўгасе і меў рэпутацыю вёрткага, камерцыйнага чалавека. Іваноўскі і яго вясковы сусед былі блізкія па ўзросце, але вельмі далёкія ў сваіх адчуваннях жыцця. Пасля частавання сусед павёў Іваноўскага па вясковай вуліцы, нудна распавядаючы пра тутэйшыя драмы, трагедыі, камедыі. Страшнага было аж занадта, нават камедыі абяцалі перарасці ў плачэўны фінал. Сусед абкрадваў суседа, мужы забівалі жонак, брат спрабаваў зарэзаць брата, бацькі знікалі на паўгода, пакінуўшы непаўналетніх дзяцей без яды і грошай, а з’явіўшыся невядома адкуль, абвінавачвалі школу, што дрэнна карміла іх дзяцей. Амаль у кожнай хаце гналі самагонку, промысел перадаваўся па спадчыне, і маладыя сем’і мелі свае самагонныя апараты, бойка гандлявалі і самі паціху співаліся...

Іваноўскі помніў іншае жыццё сваёй вёскі: кралі і штодня пілі толькі выродкі, ад сваіх дзяцей ніхто не адракаўся... Тады яму здавалася, што дужыя, жылістыя рукі мужчын могуць рабіць немагчымае... Тады ён любіў сваіх вяскоўцаў...

Яны ішлі па зялёнай вясковай вуліцы і перад вачамі Віктара Фёдаравіча паўставалі асірацелыя сядзібы, на кожнай трэцяй хаце стаяў сімвалічны крыж — усё скончана, ніхто сюды не вернецца, нікому непатрэбны старыя прыгорбленыя сцены. Было многа звезеных хат. На прагалах толькі кусты і дрэвы напаміналі пра тое, што тут жылі людзі, гадавалі дзяцей, несупынна клапаціліся аздабляць свой кавалак зямлі садамі, кветкамі... Іваноўскі ўглядаўся ў гэта запусценне і адчуваў, што на роднай зямной паверхні затухае жыццё...

Мужчыны прайшлі ўсе вуліцы іх калісь вялікай вёскі і вярнуліся дамоў. Іваноўскі напружыў твар, каб не скрывіцца ад жалю пры сустрэчы з роднай хатай. Невялікі садок, рабіны паўз плот, тры бярозы, якія ён сам садзіў, старыя вішні раслі каля самай будыніны — усё гэта было блізкім, хвалюючым, ажно душа затрапятала, як лісток на дрэве.

— Хата, як звон, — пастукаў па бервяне Ліхадзіеўскі. — Калі хочаш, прасі больш. Але я ім назваў цану прыстойную. Глядзі, не збаўляй, а то яшчэ ўгавораць. Ведаю я вас, інтэлігентаў. Хоць пасівелі мы з табой, Віктар, а ты ў жыцці не разбіраешся. Усё кніжкі, лекцыі, усё чынна, няспешна. Жыццё трэба піць гарачым, як гарбату. А дзьмухаць, студзіць — гэта для асцярожных. Гэта не маё...

Іваноўскаму не было ахвоты распачынаць дыспут пра жыццё, нешта даказваць чалавеку, які піў жыццё гарачым і не апякаўся. Ён абапёрся на стары, хісткі плот і, каўтнуўшы камяк жалю, ціха сказаў:

— Я ў сваёй хаце пераначую.

— А што, у нас мала месца? Культурна. Па-людску! Тут мышы спаць не дадуць, — спрабаваў адгаварыць Павел, ды адчуў, што дарэмна. Чалавек апошні раз захацеў прыгрэцца ў родавым гняздзе.

Яны яшчэ пасядзелі на лаўцы, пагаварылі з падслепаватай бабай Кацяй, якая прыклыпала паглядзець на Віцьку, і ўжо надвячоркам Іваноўскі зайшоў у сваю хату. Тут было чатыры пакоі, вялікая кухня. Вокны ягонага пакоя выходзілі на захад. Некалі ён любіў расчыняць вокны, калі зацвітаў язмін, любіў, калі сястра прыбірала ў хаце і ў кожным пакоі ставіла кветкі. Цяпер у хаце было пуста, толькі стаяла старая абшарпаная канапа, на якую Віктар Фёдаравіч прылёг. Ён раптам прыгадаў мацярынскія крокі — хуткія, гучныя, цяжкаватую хаду бацькі... У хаце стаяла насцярожаная цішыня. Нябачныя насельнікі прытаіліся, услухоўваліся, а пасля на гарышчы і па ўсіх кутках зашамацела, забегала, заскрэблася асмялелае жыхарства, і гэтыя гукі не пужалі і не раздражнялі яго, яны запаўнялі ягоны сум чымсьці дарагім, да дрыжыкаў знаёмым...

(Працяг на стар. 12)

## “Нам не страшны шэры воўк!...”

Колькі ўжо разоў чула гэты вокліч наша дзятва пакаленне за пакаленнем! Колькі ўжо разоў шэры воўк дзьмуў ды дзьмуў на хаткі маленькіх ды гарэзлівых трох парасятак! А ўсё роўна: цікавасць да іх саміх ды іхніх прыгодаў не спыняецца ані. Таму не дзіва, што й у Берасцейскім тэатры лялек вырашылі зноў вывесці на сцэну дыснееўскіх Наф-Нафа, Нуф-Нуфа ды Ніф-Ніфа. Традыцыйны сюжэт, традыцыйная шырма і кійковыя лялькі — вось што зрабілася падставай для пастаноўкі галоўнага рэжысёра тэатра Зміцера Нуянзіна. Магчыма, не надта “выкручваючы” сюжэт на свой капыл, ён мае рацыю: дзеці заўсёды з прыязнасцю ўспрымаюць тое, пра што ведалі ці чулі раней... Каб адпаведна аздобіць-дынамізаваць дзею, да яе таксама прыклалі рукі мастак Наталля Гур’ева ды кампазітар Анатоль Мядзведзеў. У ролі парасятак заняты “трыумвірат” маладых акцёраў: Надзея Лысіч, Лілія Хількові́ч, Наталля Гур’ева. І ну проста зусім шыкоўны Воўк атрымаўся ў найвопытнейшага артыста тэатра Анатоля Мацвеева, які, дарэчы, нядаўна адсвяткаваў сваё 50-годдзе разам з 30-годдзем творчай дзейнасці...

**І. ФЕДАРОВІЧ**

## Калядуюць “Мірскія музыкі”



Весела адзначаюць свята Нараджэння Хрыстова з абрадам калядаў у пасёлку Мір дзяржконезавода-камбіната “Мір” Баранавіцкага раёна. Заўсёды ў цэнтры ўвагі самадзейныя артысты з народнага ансамбля музыкі і песні “Мірскія музыкі” Мірскага дома культуры. Яны валодаюць усімі тонкасцямі абраду, маюць у сваім запасе шмат песень і жартаў, славяцца сваімі ражанымі.

*Фота Рамана КАБЯКА, БЕЛТА*

## Жыве “Наша слова”

Мы паведамлялі летась, што газета “Наша слова”, заснавальнікам якой, як вядома, з’яўляецца Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, аднавіла выхад у горадзе Лідзе. Тады ж паведамлялася, што з 1998 года яна павінна выходзіць рэгулярна, а гэта значыць, што, як і былое “мінскае” “Наша слова”, стаць штотыднёвікам. Цяпер гэты намер атрымаў сваё канкрэтнае ўвасабленне. Пабачыў першы за сёлетні год нумар газеты. Ён адкрываецца зваротам-віншаваннем з Новым годам старшыні ТБМ імя Ф. Скарыны Г. Бураўкіна.

У нумары — артыкулы П. Сцяцко “Як “выпрамлялі” нашую мову. Пазычанні прама, прамы, напрамкі на месцы беларускіх проста, просты, напрасткі”, Я. Палубяткі “Мова — палітыка”, Д. Жукоўскага “Мова, я і ўсе-ўсе-ўсе”.

С. Суднік (“Кут. Куцця. Покуць”) і М. Вераціла (“Ад бабы да бабніка”) вядуць “аповесць пра словы”. Змешчаны інфармацыйныя паведамленні пра выпуск віленскай выдавецкай суполкай “Наша будучыня” кнігі паэзіі Н. Аксёнчык “Беларусь на крыжы”, пастаноўку на сцэне Докшыцкага народнага тэатра п’есы мясцовага аўтара, па прафесіі настаўніка беларускай мовы і літаратуры Ф. Палачаніна “Расплата за нелюбоў”, палажэнне аб правядзенні ўсегарадскога конкурсу-гульні “Зямля пад белымі крыламі” сярод зборных каманд 9—11 класаў школ г. Ліды і г. Бярозаўкі, іншыя матэрыялы. Наклад нумара дзве з паловай тысячы асобнікаў.

**Н.К.**

ГАСЦЁЎНЯ

***Пэўна, гэта нейкая памылка лёсу, — у тым, што Таццяна ЯГОРАВА трапіла ў журналісты ды яшчэ ў тэлевізійныя. Яна ж на пашпарт ніколі не магла сур’ёзна сфатаграфавацца, яе проста гналі з атэлье раззлаваныя фатографы: ад зацятасці такія фізіяноміі атрымліваліся!.. У школе, праўда, настаўнікам вельмі падабалася, як яна чытала ды распавядала, але ніхто не здагадваўся, чаго ёй каштавала тая публічнасць. Як жа папулярная вядучая праграмы “Галерэя” здолела так... адасобіцца ад сябе на экране?***

# Жыць там, дзе ненавідзіш і любіш

— Я на экране сябе заўжды ненавіджу, — *секанула Таццяна.* — У першых перадачах “Галерэі”, напрыклад, прасіла здымаць сябе са спіны, пакуль мая спіна не стала раздражняць гледачоў. І праўда, як гэта падчас гутаркі не зірнуць у твар вядучаму? Дарэчы, пасля некаторых маскоўскіх праграм лавіла сябе на думцы, што мне цікавей пытанні, паводзіны і рэакцыя вядучага ў кадры, — цікавей за таго, хто ў кадры гасцюе. У “Галерэю” — на экран — трапляе толькі невялікая частка таго, што здымаецца: я вымагаю ад чалавека шчырасці, таму павінна быць шчырай сама. Колькі я распавядаю пра сябе! Знаёмая доктарка неяк заўважыла, што я магла б практыкаваць як псіхолаг. Але такая гаваркая я не паўсюль, бо па прыродзе — чалавек сарамлівы...

**— А як сарамлівы па прыродзе чалавек прыдумаў і патрапіў давесці да эфіру перадачу, якую колькі гадоў таму мы ўспрынялі пераемніцай маскоўскага “Взгляда”, — знакаміты “Крок”?**

— Сама назва “Крок” прыдумалася мне ў Таліне, калі з калегамі ляцелі з фестывалю відэакліпаў. Нялётнае надвор’е. Людзі шнуруюць па вестыбюлях, па пераходах. Сюды-туды... Я назірала за гэтым сноўданнем доўга, ажно пакуль не вылузнулася аднекуль гэтае слоўка: крок. Менавіта пабеларуску; рускі шаг — млявы, не задае настрою рушыць у невядомае, у новае, не падкрэслівае вастрыні дзеяння... І пад “Крок” прыдумала рубрыкі кшталту “крок назад” або “крок у невядомае”, — на праграму! Для аднаго разу. Маскоўскі “Взгляд” нас вабіў наўпроставымі эфірамі, нечуванай па тых часах смеласцю. І калі ўзнікла думка на БТ даць... штосьці гэткае, з тэмамі, праблемамі ды наўпроставымі эфірамі, я прапанавала свой “Крок”. Праўда, яго не ўпадабалі. Амаль аднагалосна. І пасля першага выхаду ў эфір калегі нам шчыра спачувалі, дый я была ўпэўненая, што “Крок” — гэта правал. А калі так стараешся... Прыдумала тэлемост з самою сабою: перад праграмай з’ездзіла ва Уладзівасток, трапіла ў вёску з назовам Парыж, і з таго Парыжа перамаўлялася з Беларуссю... А пасля першага эфіру саромелася хадзіць па вуліцах. Затое калежанка, якая сядзела пры тэлефоне і прымала водгукі, сустрэла мяне, ззяючы: гледачы ўпадабалі праграму адразу! У хуткім часе праграму сталі рабіць розныя групы: розныя нават паводле прафесійнага ўзроўню. Абвясцілі конкурс вядучых, прыйшлі і прайшлі яго выпускнікі акцёрскага факультэта Беларускай акадэміі мастацтваў, — мы проста пісалі для іх тэксты і перад эфірам правяралі, ці добра яны іх вывучылі. Сама я мусіла з’явіцца ў кадры падчас наўпроставых эфіраў, тады, калі няможна было адбыць час вядучаму з пэўнымі пытаннямі: трэба было ведаць прадмет гаворкі дасканала. А потым стала весці сама і з партнёрамі. Хораша атрымлівалася з паэтамі, дарэчы, з Уладзімірам Някляевым таксама.

**— Таццяна, а ў чым выяўлялася розніца і адрознасць групаў, якія рабілі “Крок”?**

— У чым... Перад кожным эфірам нам наладжвалі тады разбіранне, — глядзелі сюжэты, адзнятыя для перадачы і выкрывалі... нашу непрафесійнасць. Маўляў, што за пытанні, што за тэмы, што за героі. З адной праграмы (ужо зманціраванай) здымалі песню Шаўчука “Прадчуванне грамадзянскай вайны”. Паўтаралі, што са сваімі эфірнымі прапановамі мы — ворагі народа і беларускай дзяржавы. З тых, хто пачынаў “Крок”, амаль нікога не засталося на студыі...

**— А чаму “Крок” так змізарнеў?**

— Шмат прычынаў таму. Калі перадача была на вышыні ды вастрыні, я пастаянна чула, што “Крок” скіраваны не туды, што трэба збочыць, прыспешыцца і да т.п. І — што перадачу трэба закрываць. З’явіліся студыі ў рамках “Кроку”, ніякой не стварыла хіба толькі я. Прынцыпова. Здаецца, акрамя “Карамболю” Ягора Хрусталёва, так ні адна і не выжыла. Шкадую пра “Пяць зорак” — Алесь Круглякоў выдатна іх падаваў. З Алеся мог атрымацца неблагі журналіст, але цяпер, як разумееш, гэта... непрэстыжна. Такім чынам, нам давалі дыхту, даводзячы, што “Крок” — бляклае падабенства “Взгляда”. А цяпер высвятляецца, што “Крок” распачынаў новы тэлевізійны жанр, а іх, тэлевізійных, на пальцах пералічыць можна! І што Масква такога не патрапіла прапанаваць (дарэчы... пераважная бальшыня маскоўскіх перадач — таксама падабенства. Тых замежных, якія можна цяпер упільнаваць па спадарожнікавым тэлебачанні).

**— Якасць перадач БТ і асабліва незалежных студый часцяком любяць параўноўваць з расійскімі...**

— Але не любяць параўноўваць якасць тэхнікі, аплату працы і да т.п. Глядач, вядома, мае рацыю, ён гэтага ведаць не ведае. І “Крок” не скарыстаў свой шанц як “Взгляд”, які скеміў, што славу і працу мусяць падмацаваць грошы. Грошы дала своечасова арганізаваная тэлекампанія “Вид”... А мы — мы засталіся...

**— Але мы “засталіся” яшчэ раней. Твая праграма “Давайце пазнаёмімся” на радыёстанцыі “Беларуская маладзёжная” называлася сярод самых папулярных перадач Беларускага радыё.**

— У мяне, напраўду, былі пастаянныя радыёслухачы, быў нават такі, які ўсе праграмы запісваў на магнітафон і круціў для сябе. Па міжгароднім (!) тэлефоне, надаралася, рабіў разбор праграмы (рэдакцыя мела такую раптоўную радасць!). Аднойчы пазваніў са слязьмі ў голасе, выпадкова сцёр кавалачак праграмы... Ён назваў мяне ўлюбёным суразмоўцам і сваёй гераіняй... І я ўпершыню падумала: мо гэта — прафесійная няздатнасць, калі ты, вядучы, цікавей за сваіх герояў?

**— Напраўду, сумнеўны камплімент праграме і вядучаму, маўляў, вы — найцікавейшы. Але чаму, на самай справе, аднойчы пад свята не прапанаваць гледачу штосьці... з самой сабой, як з вельмі й вельмі цікавым чалавекам?**

— Хтосьці са здымачнай групы “Галерэі” пашкадаваў, што я так шмат сябе скарачаю. З гэтых выстрыганак можна было б праграмы складаць... Выпадкі з жыцця, развагі, думкі ўраздроб... Але галоўнай быць у гэтай праграме я б не патрапіла... Я — лайдак... Калі б трапіла ва ўмовы, дзе можна разняволіцца, дык разняволілася б. Надоўга. Але тэлебачанне — такая жорсткая машына, такі канвеер... Асабліва ў такіх умовах, у якіх я працую цяпер. Раней сядзела на мантажы праграм, пакуль не зразумела — гэта не рацыянальна. І... стала эксплуатаваць сябе яшчэ больш. Збоку здаецца: ну што асаблівага, сеў у кадр, пагаварыў, сяк-так склаў, знітаваў...

**— Прафесійныя людзі ведаюць, як гэта проста — сесці ў кадр ды пагаварыць. Таму бальшыня экранных размоў такая... неабавязковая, незмястоўная, выпадковая...**

— Хтосьці на НТБ аднойчы заўважыў пра папулярнага вядучага: гэта генерал ад тэлебачання, ён вядзе ток-шоу, размоўную праграму! Дыктар, каментатар, рэпарцёр, але вышэй за ўсіх — майстар-імправізатар, які спалучае ў сваіх экранных з’яўленнях журналіста, апавядальніка, вядучага і ўсіх, каго пералічылі вышэй, і яшчэ сяго-таго... Але спадзяюся, што за мною, за намі прыйдзе хтосьці, хто патрапіць зрабіць лепш за нас. Іншая рэч: калі я занятая, у мяне менш часу на самаацэнкі, на самакрытыку, — а я перыядычна збіраюся сысці з тэлебачання... ўпрочкі. Было — ішла. Упрочкі. У нікуды. Мне здавалася тады, што ўсе нашы прафесійныя намаганні — бескарысныя, у пустэчу. У “Кроку” я ваявала, змагалася, кагосьці падтрымлівала, асуджала, выкрывала, мне пагражалі судом, збіццём, мяне папярэджвалі свае і чужыя, — але была рэакцыя! А праз колькі часу ўсё скруцілася на нішто. Нас на тэлебачанні то звальнялі — усім штатам, то ўсім штатам бралі назад, тэлевізійная арганізацыйная сістэма пачатку дзевяностых стала ўсё часцей і часцей прабуксоўваць — і я пайшла на кухню. Сям’я радавалася: мама дома! Я гатавала, прыбірала, чысціла, вяла гаспадарку і шчыра меркавала, што на тэлебачанне не вярнуся. Толькі муж веры не даў. За дваццаць гадоў ён, вельмі далёкі ад тэлебачання, уведаў маю існую жарсць, прыязнасць, любоў. Ведаў, што не кіну. За дваццаць гадоў шлюбу... ну як было не паехаць на БАМ, на Далёкі Усход? І ў сям’і калі што здаралася, дык у буйных маштабах: то дачцэ ў дванаццаць гадоў паставілі дыягназ “парок сэрца” (і я штоночы... прышывала ў думках яе сэрца да свайго), то мяне ў адказны момант выпуску праграмы схапіла дызентэрыя, і я лекавала яе дома (!)... Муж, які цярпеў мяне дваццаць гадоў, першы сказаў: “Ты без гэтага не зможаш” — і паказаў на тэлевізар.

**— Па тваіх работах, відаць, можна прасачыць найноўшую гісторыю нашага тэлебачання...**

— Я вельмі сумняваюся, што хтосьці піша ягоную гісторыю. А дарма! Колькі хлопчыкаў ды дзяўчатак прайшло толькі праз мае рукі! Алена Мультан, Ваня Пінігін, Таццяна Сокава з ФІТа ўсе працавалі ў “Кроку”, як і Ягор Хрусталёў, як і Алесь Круглякоў. Як падчас гарбачоўскай перабудовы змянілася наша БТ! І цяпер, калі вяртаюцца старыя формы, старыя прапановы, БТ выглядае архаічна. Некалькі разоў паўставала ў “Кроку” пытанне пра прафесійную непрыдатнасць вядомай цяпер вядучай “Панарамы”! Пакідалі, бо яна навучылася здабываць рэкламу і несла яе ў перадачу. Вось яна, наша дабрыня, памножаная на беспрынцыпнасць: паненка засталася ў сістэме і цяпер палохае гледачоў у кадры. Гляджу на маладых тэлевізійнікаў: столькі злоснасці! Столькі цынізму! Няўжо ім здаецца, што яны далей за тэлебачанне ніколі выходзіць не будуць, што далей не будуць жыць? Дзе іхняе сумленне? “Цётухны, вы вывучылі нас, як рабіць перадачы, а трэба было вучыць, як зарабляць грошы”, — атрымалі мы з калежанкай ад аднаго былога вучня. Ягоная праўда: на прафесійны ўзровень БТ зважае ўсё менш. Усё больш — на магчымасці прынесці грошы. Праўда, як можна быць кампетэнтным, калі сёння ты ў кадры размаўляеш са свінаркай, заўтра — з доктарам тэхнічных навук, а паслязаўтра — з кампазітарам? Кожны з іх пазірае на цябе... баючыся тваёй непрафесійнай дурноты і ставіцца да цябе паблажліва: колькі журналісцкіх глупстваў мусяць выпраўляць суразмоўцы ў эфіры! Дарэчы, скрутная сітуацыя і ў “Галерэі”: штораз, калі рыхтуюся да праграмы, няма як нават маральна настроіцца! Часам хтосьці з групы ўжо перад здымкамі даведваецца: чалавек не можа здымацца. Былі выпадкі, калі за гадзіну да здымак знаходзіла сабе героя ў кадр. Дзякаваць Богу, пэўнае і зацікаўленае кола людзей перадачу глядзіць. Я баюся памыліцца ў кадры, але не выдаю сябе за вялікага спецыяліста ды знаўцу. Часцей за ўсё кантактую лёгка. А як шкадую, што не атрымала добрай адукацыі, што не было таго інтэлектуальнага кола, якое дапамагае гэтую адукацыю завяршыць або замя-

няе яе сваімі зносінамі з табою! Журфак БДУ, які я скончыла, не быў такім інтэлектуальным месцам.

**— Таццяна, а ці захавала ты "крокаўскія" манеры — выкрываць, змагацца, даводзіць?**

— З цягам часу гэтыя манеры пачынаюць разбураць, знішчаць асобу журналіста. Менш карысці ўсім. Перш-наперш — ад нестаноўчых эмоцый (чаму людзі так унікаюць настойлівых праўдашукальнікаў?). Адзін з герояў "Галерэі" заўважыў: вам, Таццяна, людзей не навязваюць, вы іх самі выбіраеце. Другі падвёў рысу: маўляў, не магу зразумець, чаму людзі так адкрываюцца,калі ты, Таццяна, з імі размаўляеш? Мо таму,што нічога пра сябе не ўтойваеш? Але ці аб'ектыўна я стаўлюся да чалавека, калі ён на экране — знаёмы незнаёмец для ўсіх? Часам героі ад мяне чакаюць творчага партрэта. Папярэджваю, што я гэткіх не раблю. Нават разумеючы, як хочацца людзям пачуць пра сябе нешта ў вышэйшай ступені прыемнае. Кебіч сказаў пасля перадачы, маўляў, не падазраваў, што можна паказаць яго і не кепскім, і не добрым, а — Кебічам... Здзіўляліся і Патупа, і Булахаў, і Чацверыкоў (як бачыш, і прадпрымальнікі, і палітыкі, і творцы). За адну з першых праграм атрымала поўху ад газеты "Имя" — ад калегаў і на самым пачатку цыкла, калі яшчэ сама сумнявалася, шукала, рухалася вобмацкам. Бо ў нас як пабудавана бальшыня крытычных матэрыялаў? Гэта — добра, тое — нядобра. А хто ты такі, журналіст? Спадар Бог? Нашы людзі прызвычаеныя да... дыягназу. Кажы сабе, што хочаш, але пры канцы, будзь ласкавы, пастаў тлустую кропку-прысуд, клічнік-вырак. Скажы штосьці кшталту: "Людзі! Не сябруйце з тым, з кім я толькі што размаўляла ў кадры!" Калі праграма падабаецца, кажуць: які адметны герой! Калі праграма не падабаецца: кажуць: які бесталковы вядучы! А калі на адну і тую самую праграму супрацьлеглыя водгукі, я радуюся. Калі вінавацяць у пэўнай павярхоўнасці, дык адказваю: каб лезці ўглыб, трэба быць псіхатэрапеўтам, а не журналістам.

**— Ці ёсць праграмы, якімі ты даражыш ці ганарышся?**

— Ёсць, — з Ільёй Львовічам Курганам. Я проста папытала: "У вас столькі вучняў. Чаму вы такі адзінотны?" І пасля гэтага пайшла сапраўдная гутарка! Адзін з тэлекалегаў потым наракаў, маўляў, так скаланула чалавека, а ён табе так даверыўся! А не было б майго скалананання, не было б і перадачы, тым больш, што Ілья Львовіч нічога зневажальнага ў маім пытанні не ўгледзеў. Цяжка атрымлівалася праграма з Пятром Марцавым: ён быў так здзіўлены, што я пакінула шмат... ягоных рэакцый на пытанні. Праграма была адной з першых, Пётр — арэшак цвёрды, таму мне давялося пахітраваць, цытуючы, скажам, газетныя штампы або абывацельскія меркаванні. Сама ў сябе вылучыла б праграмы з Будзінасам, Булахавым, Вольгай Клебановіч, з сям'ёй Пінігіных. Былі праграмы, якія зусім не траплялі ў эфір, знаходзіліся розныя прычыны... Ніхто іншы як нашы палітыкі выдатна зразумелі значэнне такой праграмы. Гэта — іміджмейкерства, пастаноўка вобраза на публіку, гэта каштуе (не ў нашай праграме, вядома) вар'яцкіх грошай з уласнай кішэні палітыка!

**— Ад палітыкаў лагічна было б перайсці да сямейнікаў...**

— Да мяне, напэўна, ужо прыходзіць мудрасць: я ўсё больш разумею самакаштоўнасць сям'і. Калі ў маладыя гады яна (было!) замінала (калегаванню, камандзіроўкам), дык цяпер зберагчы душу і сябе можна толькі там, у сям'і. Сям'я — самае каштоўнае, што нам пакідае грамадства. Але ў сярэдзінах нашых многіх сем'яў цяпер ідзе грамадзянская вайна, якую спарадзіла сацыяльна-палітычная сітуацыя. Канфлікты нашых бацькоў і дзяцей не снілі класікі літаратуры! Нашы старыя не разумеюць сучаснай эканомікі, мяркуюць, што ім па-ранейшаму ўсё дае дзяржава, не ўсведамляюць, што бярэцца гэта з нашых кішэняў. Уражаная, я неяк папрасіла дачку: калі дасягну маразматычнага ўзросту, дык хоць на выбары мяне не пускай. Бо маразм — гэта такая пошасць, якую не заўважыш сам! Уяўляю, як крыўдна чуць такое старым, але жыць — дзецям!

**— Таццяна, жыць яшчэ і нам. І табе я жадаю жыць і заставацца там, дзе ты ненавідзіш, любіш і што не кідаеш, хоць колькі разоў намагалася. Каб прывесці таго, хто мусіць зрабіць лепш.**

**З Таццянай ЯГОРАВАЙ**
**сустракалася Жана ЛАШКЕВІЧ**

МУЗЫКА

# Гродзенскія асамблеі

***Пяць гадоў споўнілася Гродзенскай гарадской капэле — унікальнаму творчаму калектыву, які аб'яднаў у сваім складзе камерны хор, аркестр ды інструментальныя ансамблі. Пры канцы года капэла адзначыла сваё свята, выступіўшы з цыклам канцэртаў у Гродне ды вобласці. Пра сённяшні дзень ды планы калектыву расказвае мастацкі кіраўнік Гродзенскай гарадской капэлы Аляксей САЛАДУХІН.***

**— Напэўна, увесь сёлетні сезон Гродзенская гарадская капэла праводзіць пад знакам сваёй першай знамянальнай даты?**

— Так. Свой канцэртны сезон мы адкрылі ў Міжнародны дзень музыкі, і гэта было вельмі ўдалае, сапраўды святочнае адкрыццё: выступіў Ансамбль салістаў нашай капэлы. Неўзабаве адбыліся яшчэ два ўдалыя канцэрты. Наш Камерны аркестр выступіў з праграмай, у якой пераважна гучала музыка Вівальдзі, а наша салістка Ірына Дзмітровіч выканала Арыю з "Бразільскай бахіяны" Віла-Лобаса. Імпрэза прайшла з аншлагам, і мы, каторы ўжо раз, зразумелі, як нам не хапае добрай канцэртнай залы. Тое месца, дзе звычайна выступае капэла — Новы замак ў гісторыка-археалагічным комплексе, проста не можа ўмясціць усіх жадаючых, некаторыя так і не могуць трапіць на канцэрт. Пры канцы кастрычніка яшчэ адзін наш калектыў, Ансамбль старадаўняй музыкі, выступіў у Музеі гісторыі рэлігіі. Таксама быў аншлаг і поспех. Вынік просты: калі слухачы ходзяць на нашы канцэрты, то нашая дзейнасць не дарэмная.

**— Дзе яшчэ, акрамя Гродна, выступаюць калектывы капэлы — на Беларусі, за мяжой?**

— Можна прыгадаць мінулы сезон, калі наш Ансамбль старадаўняй музыкі наведаў Беласток і выступіў там на адкрыцці выставы гродзенскага мастака Станіслава Кішко. Камерны хор капэлы, якім кіруе Ларыса Іконнікава, тройчы выязджаў за межы Гродна: спачатку — у Латвію, каб паўдзельнічаць у Тыдні Даўгавы ў Краславе ды Даўгаўпілсе, потым хор выступаў у канцэртных праграмах такіх шырока вядомых імпрэзаў, як фестываль у Гайнаўцы (Польшча) і фестываль хрысціянскай музыкі "Магутны Божа" ў Магілёве. Вядома, нам вельмі хацелася б выязджаць на гастролі часцей, але ёсць пэўныя эканамічныя складанасці, якія не заўсёды ўдаецца перамагчы.

**— Камерны хор пад кіраўніцтвам Ларысы Іконнікавай галоўным чынам выконвае традыцыйную і даўнюю хрысціянскую музыку. А хто-небудзь з сучасных кампазітараў працуе для гэтага калектыву?**

— Наш самы "галоўны" сучасны аўтар — Андрэй Бандарэнка, гродзенскі кампазітар, які стаяў ля вытокаў стварэння Гродзенскай капэлы. Ён многа піша для нас. На фестывалі ў Гайнаўцы, хор выконваў два ягоныя новыя антыфоны, а нядаўна Андрэй прынёс яшчэ два новыя творы на кананічныя праваслаўныя тэксты. Паколькі ён, як вядома, цяпер прафесійна займаецца царквой, рэлігійная музыка хвалюе і займае Андрэя яшчэ больш.

**— А зараз паразмаўляем пра другі калектыў, які ўваходзіць у склад Гродзенскай капэлы — Камерны аркестр, якім кіруе Уладзімір Борматаў. У ягоным рэпертуары — пераважна музыка класічная і старадаўняя, але апошнім часам можна назіраць пэўную цікавасць да сучаснай музыкі...**

— Так, але і раней мы спрабавалі іграць сучасную музыку. Цяпер, сапраўды, цікавасць да яе актывізавалася. Напрыклад, Уладзімір Борматаў плануе выканаць знакамітае і вельмі складанае "Канчэрта-гроса" Альфрэда Шнітке, а на адкрыцці сезона аркестр іграў "Простую сімфонію" Бенджаміна Брытэна — таксама адметны твор XX стагоддзя.

**— І традыцыйнае пытанне: што ў планах Гродзенскай гарадской капэлы?**

— Самыя бліжэйшыя планы — урачыста адзначыць пяцігоддзе нашай арганізацыі: хаця дата і сціплая, я лічу, што ў наш няпросты час яна — немалая. Дакладней, пяць гадоў нам споўнілася яшчэ ў маі, менавіта 26 мая 1992 года адбылася прэзентацыя капэлы (пра што, дарэчы, і "ЛіМ" пісаў). З-за розных перашкод мы не змаглі своечасова адзначыць гэтую дату, таму плануем перанесці імпрэзу. Вельмі хацелася б, каб адбылося сапраўднае свята, бо пяцігоддзе існавання — значная для мастацкага калектыву вяха. Калі казаць пра больш далёкія планы, то зараз абмяркоўваецца магчымасць арганізацыі музычнага фестывалю ў Гродне. У гэтым праекце возьмуць удзел Беларуская акадэмія музыкі, Міністэрства культуры Беларусі і Гродзенская капэла. Папярэдняя назва фестывалю — "Гродзенскія музычныя асамблеі", а правесці яго плануецца ў кастрычніку 1998 года. Імпрэза мусіць быць насычанай і цікавай, у ёй возьмуць удзел хор і сімфанічны аркестр Акадэміі музыкі, шмат салістаў і, канечне, нашы калектывы. Мяркуецца канцэртнае выкананне оперы Антонія Радзівіла "Фаўст". Будзе багата рознай іншай добрай музыкі. Мне падаецца, што такі фестываль даўно ўжо выспеў у нашым горадзе, багатым на культурныя традыцыі.

**Гутарыў Алесь ВОЛЬША**

# Міханавіцкая "Калыханка"

***Тэмпы сённяшняга жыцця амаль не даюць чалавеку спыніцца, палюбавацца цудоўнымі імгненнямі, якімі да краёў напоўнена гэтае самае жыццё: прыгожымі кветкамі, чыстым небам, натхнёнымі тварамі, разумнымі вачамі.***
***Але ёсць людзі, якім пашчасціла ствараць прыгажосць і жыць у ёй, не страчваючы пачуцця захаплення.***



За 20 кіламетраў ад Мінска, у Міханавічах з 1989 года існуе ансамбль "Калыханка". Яго стварыла настаўніца Ларыса Мікалаеўна Рыжкова. Калі я пачула, як спявае "Калыханка", пабачыла, з якой радасцю водзяць тут народныя гульні, танцуюць, — па-добраму пазайздросціла тым, хто мае магчымасць бачыць усё гэта часта, мае магчымасць жыць у гэткай прыгажосці. А яшчэ — калі спявалі дзяўчаты старэйшай групы, я заўважыла цуд: з кожнай новай песняй дзяўчаты на вачах прыгажэлі, хаця прырода і так шчодра надзяліла кожную. Да натуральнай прыгажосці маладых твараў далучалася нейкае ўнутранае высакароднае хараство, якое быццам святлом мінулых стагоддзяў гаварыла са мной праз песню.

Калісьці Ларыса Мікалаеўна вяла на Беларускім тэлебачанні перадачу "Калыханка", расказвала казкі. Потым захацела, каб ёй дапамаглі дзеці, падпявалі. І сабрала яна памочнікаў у пад'ездзе свайго дома. Спачатку разам калядавалі, потым вывучылі масленічныя песні і... сталі "галоўнымі ў Калыханцы". У пасёлку так і прывыклі казаць: "Дзе быў?" — "На "Калыханцы". — "Куды пайшоў?" — "На "Калыханку".

Мінуў час. Перадача стала зусім іншай. Урэшце Л. Рыжкова прапанавала дзецям змяніць назву ансамбля. А яны не згадзіліся.

Засталася ў Міханавічах "Калыханка". І сёння гэта калектыў, у якім тры ўзроставыя групы. У старэйшай спяваюць тыя, з кім Рыжкова пачынала. Разам яны выступалі ў Польшчы, у Санкт-Пецярбурзе. Сярэдняя група прыйшла на 4 гады пазней, і толькі гэтым летам упершыню дзяўчаты паехалі на Беласточчыну. Тут у мясціне пад назвай Нарэўка праходзіў VI міжнародны сімпозіум "Народная музыка сярэдняўсходняй Еўропы". Там "Калыханка" выконвала каляндарныя песні Палесся.

З малодшай групай Ларыса Мікалаеўна займаецца ўжо не толькі спевамі, але і танцам, і народным тэатрам, бо ён для дзяцей — адмысловая школа самавыяўлення. Рыжкова імкнецца раскрыць здольнасці кожнага — каб кожны, як у народзе, рабіў тое, на што больш здатны. А ў рэпертуары ансамбля заўсёды ёсць матэрыял для выяўлення самых розных талентаў.

Як прызнаецца сама кіраўніца, яна імкнецца "сцвердзіць" інстытут самавукаў, бо лічыць, што раней простыя людзі не ведалі музычнай граматы, гармонію алгебрай не вывяралі: чалавек жыў, як тая птушка, якая спявае ад радасці, шчасця, і сам спяваў пад настрой. Спяваў і дзівіўся прыгажосці, а потым імкнуўся яе паўтарыць, штосьці дадаць. Так і ў "Калыханцы" — імкнуцца спяваць вольна і толькі тое, што падабаецца, у спевах кіруюцца эмоцыямі, чуйна рэагуюць на прыгожае.

— Я сама — гарадскі чалавек, — гаворыць Л. Рыжкова. — У горадзе вырасла, не ведала, што такое фальклор і не ўяўляла, што ў простых людзей можа быць такая вытанчаная культура. Я думала, каб нешта ўмець, трэба абавязкова інстытут скончыць або ў гурток хадзіць. Мяне жыццё занесла ў Ленінградскую вобласць, там працавала, там трапіла на семінар па фальклоры. Пачала збіраць песні на Ленінградчыне, паехала па вёсках, навучылася запісваць, сама спяваць. І так захапілася, што ўрэшце мне захацелася дадому, да роднага фальклору. І фальклор мяне "перавёз" назад. Я зведала, што такое настальгія там, на Ленінградчыне.

А бацька і маці ў мяне з вёскі. Бацька — музыкант-"слухач". Яго свядомае жыццё прайшло ў горадзе, ён намагаўся граць "культурна", вучыў на баяне і сучасныя п'есы. А ўвогуле, ён — прызнаны спявак у нас у сям'. Кажуць, калі Паўлавіч на вяселлі не спяваў, то было не вяселле!

Бабуля мая і казкі ведала, і песні. Усе бабулі ў мяне такія песенныя! Баба Аксіння, яна на печы ляжала, у яе дрэнны зрок быў, яна сцежкі не бачыла. Трымала козачак, з тымі козачкамі размаўляла, а на печы ляжыць ды песні спявае. Мне хочацца вось гэтую мову ажывіць, слова, — ды я ўжо не бяруся, бо ўсё не паспець. А вось песню вярнуць — гэта, мне здаецца, можна. Мне даў Бог, што ў мяне атрымліваецца, я імкнуся паспець болей зрабіць, болей дзяцей навучыць. Спадзяюся, дзеці далей па гэтым шляху пойдуць.

За гады свайго творчага жыцця "Калыханка" праспявала вельмі многа песень: вясельных, радзільных, жніўных, калядных, купальскіх, валачобных, удзельнічала ў сумесных выступленнях з групай "Палац". Ансамбль запрашалі выступаць і перад удзельнікамі нядаўняй VI еўрапейскай канферэнцыі "Народная культура ва ўмовах сучасных перамен у розных рэгіёнах Еўропы", якая праходзіла ў Мінску.

Па-рознаму трапляюць у калектыў песні. Ансамбль даўно сябруе з ананьчыцкімі бабулямі, разам выступалі ў Польшчы, а потым дзяўчаты ездзілі ў Ананьчыцы па песні. А вось для ўдзелу ў фестывалі "Страчаная музыка", што праходзіў у Кракаве і быў прысвечаны жанру калыханак, збіралі іх па ўсіх Міханавічах. І ўрэшце запісалі дзівосныя па прыгажосці маленькія шэдэўры жанру з розных куткоў Беларусі, бо ў Міханавічах жывуць перасяленцы з Гомельскай, Магілёўскай абласцей.

Упэўнена, калі дарослае жыццё ўдзельнікаў "Калыханкі" і не будзе звязана з фальклорам, мастацтвам як з прафесіяй, у іх назаўсёды застануцца ўспаміны пра сустрэчу ў Міханавіцкай школе кожную сераду а 18 гадзіне — "На "Калыханцы", дзе заўсёды так весела, цікава і натхнёна ладзяцца стасункі з беларускай даўнінай.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

*На здымку: выступленне перад удзельнікамі еўрапейскай канферэнцыі.*

## З гумарам і сатырай на "Вы"

ІВАНУ АНОШКІНУ — 75



**Пасля заканчэння Суражскага педагагічнага вучылішча (Расія) Іван Аношкін працаваў выхавацелем Далісіцкага дзіцячага дома на Браншчыне, адказным сакратаром рэдакцыі суражскай раённай газеты "Маяк коммуны". У 1948 годзе вярнуўся на Беларусь (нарадзіўся ў вёсцы Антонаўка Чавускага раёна), быў загадчыкам Мышчыцкай пачатковай школы Жабінкаўскага раёна, адказным сакратаром рэдакцыі жабінкаўскай раённай газеты "Ленинский путь", карэспандэнтам брэсцкай абласной газеты "Заря". Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ (1956) і завочна гістарычны факультэт Магілёўскага педінстытута (1964). З 1959 года І. Аношкін працаваў у рэдакцыі абласной газеты "Магілёўская праўда", а з 1981-га з'яўляўся сакратаром Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі.**

**Літаратурнай працай займаецца з 1951 года. У асноўным выступаў у галіне гумару і сатыры. Выдаў кнігі "Лішні мінус", "Херувім з чорнымі крыламі", "Курам не да смеху", не цураецца і "сур'ёзнай" прозы, аб чым засведчылі зборнікі аповесцей і апавяданняў "Старыя знаёмыя", "Землякі", "Чырвоная каліна стаяла..." Аўтар кніг для дзяцей "Навічок", "Алёнчын сакрэт", "Антонаў ясень".**

**З 75-годдзем, шаноўны Іван Архіпавіч! Доўгіх яшчэ Вам год жыцця, новых творчых поспехаў!**

## Даследаваў характар трагічнага...

**Крытык, літаратуразнаўца В. Жыбуль 20 студзеня адзначыў бы свой 50-гадовы юбілей, але жыццё яго раптоўна абарвалася ў 1996 годзе. Нарадзіўся Вячаслаў Васільевіч ў 1948 годзе ў вёсцы Заямнае Стаўбцоўскага раёна. У 1966-ым скончыў школу ў Стоўбцах, працаваў сталярам у райпрамкамбінаце, служыў у арміі. З 1970-га па 1972 год быў дырэктарам сельскага Дома культуры ў роднай вёсцы, вучыўся на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, затым у аспірантуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Абараніў кандыдацкую дысертацыю "Характар трагічнага ў сучаснай беларускай "ваеннай прозе". Быў малодшым, а з 1989 года старшым навуковым супрацоўнікам таго ж інстытута. З 1991 года працаваў у тагачасным Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.**

**Першыя ж артыкулы В. Жыбуля, з якімі ён у 1980 годзе выступіў у часопісах "Нёман" і "Вопросы литературы" (Масква), выклікалі шырокі рэзананс. Друкаваўся таксама ў "Весцях АН БССР", часопісах "Век XX и мир" (Масква), "Беларусь", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", у іншых перыядычных выданнях. У 1986 годзе ў яго выйшла манаграфія "Белорусская проза о войне и классическая традиция". Аналізаваў сучасную беларускую прозу, даследаваў беларускія літаратурныя сувязі.**

# У вайны няма Айчыны

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

вогнішча раскласці? Але я прапаную ў гэтай справе больш канцэптуальны, чым у Сяргея Дубаўца, падыход. Чаму толькі літаратуру адпрэчваць? А ўсё беларускае савецкае мастацтва, хіба яно было менш савецкае за літаратуру? Безумоўна, і яго туды ж, у дым, у невараць: усе скульптуры, усе палотны жывапісу і ўсе аркушы з графікай, усе кінастужкі, усю музыку, оперу, балет, тэатр...

Добра было б і архітэктурныя пабудовы туды ж, толькі дзе столькі дынаміту набрацца?..

От вольна будзе: ад старой "Нашай Нівы" да новай "Нашай Нівы" пуста, гола, моўкна, адно сям-там скразнякі свабоды сухім бадыллём шапацяць...

## 4. БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫ ВЯНОК З ВАСІЛЬКОЎ

Уявім сабе, што мы адмовімся ад беларускай савецкай культуры і аформім гэтую адмову далікатна, без вогнішчаў на плошчах, без анафемаў з трыбун, без выкідвання кнігаў з бібліятэк. Уявім, што ўпершыню за ўсю гісторыю беларусаў мы на нечым агульным пагадзіліся і гэтае пагадненне ўсе разам выканалі: раптам узялі і забыліся на ўсіх — як быццам нам розум адняло, — хто шчыраваў на літаратурнай ніве пад бальшавікамі і меў з гэтага бальшавіцкую ласку на жыццё ды сёе-тое для ўкрасы гэтага жыцця.

Дык вось, уявім, што ад канца дваццатых да канца васьмідзесятых амаль нічога няма. Сякі-такі хмыз, а ўсё астатняе — голае поле. Адно пасярод таго поля сядзіць на купіне Ларыса Геніюш і з сініх васількоў пляце бел-чырвона-белы вяночак. Ды яшчэ з лагчыны, дзе "ружовы туман", хтосьці ў яе бок кіруе няпэўным крокам, быццам сумняваецца, падысці да гэтай адзіноткі ці абмінуць бокам? Ага, гэта Васіль Быкаў...

Чакайце, здаецца, ёсць яшчэ нехта. Там, у лагчыне, той "нехта" галаву з "ружовага туману" то высуне, то схавае, то высуне, то назад у "ружовы туман" схавае... Падобна, што гэта Янка Брыль.

Прыкладна так, зыходзячы з тэзаў і метафараў Сяргея Дубаўца, вымалёўваецца амаль шасцідзесяцігадовы перыяд беларускай савецкай культуры і літаратуры, бадай, самы багаты перыяд за ўсё існаванне Беларусі... Не надта вабна.

Натуральна, і вока Сяргея Дубаўца гэтая пустэльня не моцна цешыць. Ён выдатна разумее, што яе нечым трэба засяляць, інакш прапанова высечы літаратурную пушчу пад ляда для скразнякоў будзе выглядаць залішне авантурнай.

Прапазіцыя Сяргея Дубаўца на гэты конт наступная: узяць ды перавезці на нашыя купіны беларускіх літаратараў-эмігрантаў.

Відавочна, што прапанова амаль цалкам вымкнуць з гісторыі літаратуры самую багатую эпоху і замяніць яе ўсяго адным фрагментам гэтай эпохі — эміграцкім, гэта прапанова не літаратурнага крытыка, а ідэолага, які імкнецца стварыць нейкую новую Беларусь, якая не была б запэцканая камуністычным сатанізмам. Бо як літаратурны крытык, Сяргей Дубавец нават падчас палемічнага балансавання не можа не разумець, што эстэтычна эміграцкая літаратура адно ў асобных сваіх праявах раўняецца з беларускай савецкай літаратурай. Як не можа літаратурны крытык не разумець і тое, што патрыятычныя ўлёткі ў форме верша Ларысы Геніюш эстэтычна нічым не розняцца ад камуністычных улётак у форме верша Аркадзя Куляшова...

Натуральна, майму нацыяналістычнаму сэрцу куды бліжэй улётка пра Каліноўскага ці Народны фронт, чым пра Леніна ці Камуністычную партыю, але паколькі сэрца ў мяне не ў галаве, а на сваім месцы, то тым, што месціцца ў галаве, я разумею: па сваіх літаратурных вартасцях нацыяналістычная ўлётка нічым не адрозніваецца ад камуністычнай. А з іншага боку, для эстэтычнай вартасці літаратурнага твора не істотныя ні ідэалагічныя прыхільнасці, ні этычныя ўпадабанні як герояў гэтага твора, так і ягонага аўтара.

Літаратуры, уласна, усё роўна, хто і пад якімі ідэалагічнымі харугвамі выступае яе героем: Хрыстос, Нерон, Каліноўскі ці Ленін... Мае значэнне толькі адно — мера эстэтычнага выяўлення. Але, здаецца, Сяргея Дубаўца абыходзіць эстэтыка, бо ён не за літаратуру турбуецца, а з сатанізмам змагаецца і таму вылучае ў новую іерархію не таленавітых, а пакрыўджаных камунізмам, чамусьці мяркуючы, што мера пакрыўджанасці камунізмам ёсць мерай маральнай чысціні і ў дадатак яшчэ мерай літаратурнага таленту...

Толькі ці ўзважваў Сяргей Дубавец, прапануючы нам такую экстравагантную навацыю, што тыя беларусы, якія стваралі літаратуру на эміграцыі, у пераважнай большыні выйграюць (маральна) перад тутэйшымі літаратарамі толькі с і т у а ц ы й н а. Гэта значыць, што яны міжволі апынуліся ў сітуацыі, у якой немагчыма было не быць антыкамуністам, немагчыма было не-варожа ставіцца да савецкага таталітарызму ўжо хаця б таму, што ён адняў у іх бацькаўшчыну.

Агульшчына ўвогуле досыць сумніўная справа, тым болей недаравальна злоўжываць ёю ў звязку з праблемай выгнання. Я ні ў якім разе не хацеў бы заносіць у агульны с і т у а ц ы й н ы рэестр тых літаратараў, для якіх любоў да Беларусі і супраціў бальшавізму былі дамінантай іх паводзінаў, незалежна ад таго, як абыходзіўся з імі лёс (яскравы прыклад таму — Ларыса Геніюш). Але можна, бадай, упэўнена сцвярджаць, што большыня тых беларусаў, што апынуліся ў эміграцыі, апынуліся там не з ідэі змагання з бальшавізмам, а праз збег самых розных, падчас неверагодных абставін, якія былі справакаваныя як непасрэдна бальшавізмам, так і ўвогуле ваенным ліхалеццем.

Адным словам, я хачу сказаць, што гэтыя пакручастыя абставіны адных кінулі т у д ы, а другіх пакінулі т у т. А магло быць і зусім наадварот і тыя, каго Сяргей Дубавец хоча завезці на нашыя купіны з-за мяжы, як "чыстых", у іншым раскладзе сёрбалі б разам з намі з агульнага сацыялістычнага карыта і з імпэтам услаўлялі б мудрасць камуністычнай партыі, а які-небудзь наскрозь савецкі "глебка" пісаў бы ў Кліўлендзе антыкамуністычныя паэмы.

## 5. У СУТАРЭННЯХ УСЕ МЫ ТРОХІ ПАЦУКІ

Сяргей Дубавец, здаецца, пераканаsuccessfulны, што наяўнасць азначэння "савецкая" ў формуле "беларуская савецкая літаратура" амаль аўтаматычна нішчыць прыметнік "беларуская", а без апошняга "літаратура" там ці не "літаратура" — ужо не істотна.

У адрозненне ад Сяргея Дубаўца, я хоць і зважаю на дэфармуючы ўплыў азначэння "савецкая", але не лічу яго фатальным.

Уласна, менавіта тут мая з Сяргеем Дубаўцом ростань, канцэптуальнае разыходжанне. Бо ён будуе ідэальную Беларусь, дзе мерай ідэалу ён сам, гэта значыць ягоныя ўяўленні пра ідэал, і з такой меры адпрэчвае ўсё неадпаведнае гэтаму ідэалу (да выключэння, адлучэння ад Беларусі), а мне бачыцца каштоўнасцю ўся беларуская Беларусь, незалежна ад таго, у якіх ідэалогіях яна праяўляецца і праяўлялася, хай сабе і непрымальных для мяне асабіста (А ёсць жа яшчэ вялізны мацярык не-беларускай Беларусі, аднак пра яе ролю, стасункі з ёю і адносіны да яе трэба гаварыць асобна.)

Ідэаліст Сяргей Дубавец на дзесяць тысяч вёрстаў бліжэй мне за камуніста Максіма Танка, але паколькі я не сябе пакладаю ў меру Беларусі, а саму Беларусь, то мне няцяжка зразумець, што для Беларусі і Сяргей Дубавец, і Максім Танк гэта толькі два фрагменты яе вялікага і шматстайнага цэлага — а ў цэлага няма больш ці менш патрэбных частак, бо без кожнай з іх (без Дубаўца ці Танка) яно само ўжо не будзе цэлым, адразуператворыцца ў фрагмент самога сябе. (Часам здаецца, што мы ўсе толькі і робім, што раздзіраем Беларусь, як цэлае, на фрагменты саміх сябе.)

Тое, што Сяргей Дубавец робіць практычна, падаецца мне надзвычай каштоўным; тое, у якую ідэалогію ён агортвае сваю практыку, падаецца мне згубай для ягоных жа практыкаванняў. Я не магу ўнікнуць думкі, што ідэалогія Сяргея Дубаўца — гэта вынік так і не пераадоленай рамантыкі падлеткавых гіпотэз пра ідэальную Беларусь. А падлеткавы рамантычны ідэалізм у "дарослым" жыцці альбо згортваецца ў сектанцтва і хаваецца ў катакомбах, альбо, калі збегам "гістарычных" абставінаў атрымлівае ўладу, разгортваецца ў стыхію нічым не стрыманага валюнтарызму. Паколькі рамантыкі на Беларусі ўлады не атрымалі, то цяпер ім нічога іншага не застаецца, акрамя як ствараць нацыянальныя "масонскія ложы", гэта значыць пасля службы ў дзяржаўных структурах рэальнай Беларусі на сваіх патаемных зборах вымройваць фантастычныя праекты Беларусі ідэальнай ці хавацца ў сутарэннях і там па драбках з нацыянальнай рэальнасці збіраць нейкае падабенства гэтаму ідэалу.

Уласна, "Наша Ніва", як і многія іншыя практыкі Сяргея Дубаўца, па сваіх сутнасных характарыстыках ад пачатку была катакомбным праектам для тых нацыянальных рамантыкаў, што рашуча не прымалі і не збіраліся прымаць рэальную Беларусь ні ў якіх яе праявах...

Раз-пораз і я, збіты і зняверапы пачварнасцю рэальнай Беларусі, хаваюся ў катакомбах Дубаўца, каб там трохі адхэкацца, загаіцца, падыхаць дыстылянтам ідэальнай Айчыны. Але доўга там не вытрымліваю — у мяне клаўстрафобія... Мне не хапае паветра ў норах, сутарэннях, катакомбах. З мяне ніколі не атрымаецца партызан ці падпольшчык... Я не падпольны чалавек, можа, яшчэ і таму, што да паталагічнага жаху баюся пацукоў, а ў падполлі мы ўсе, як вядома, трохі пацукі.

Я доўга не вытрымліваю ў нары ідэалу і выпаўзаю з яе ў рэальную прастору Беларусі са шчырай падзякай Сяргею Дубаўцу за прытулак і з рамантычнай марай (надыхаўся!), што некалі за беларускасцю не трэба будзе нікуды паўзці, што яна будзе ўсюды, як усюды ёсць неба над галавой і зямля пад нагамі. Бо толькі тут, на зямлі пад небам сапраўднае месца і чалавека, і Беларусі.

Прынамсі, мне так здаецца.

# ДЗВЕ НАВЕЛЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

Іваноўскі заплюшчыў вочы і выклікаў з памяці тую вясёлую вясну, калі ён, васемнаццацігадовы белабрысы прызыўнік, праседжваў ночы са сваёй аднакласніцай Любай, цёмнарусай, з зеленаватымі вачамі, упартай і спакуслівай. Тады ён адчуваў несупынны галаўны боль і ненавідзеў упартасць сваёй сяброўкі і ўсё гарачэй марыў падпарадкаваць яе сваёй страсці, бясконцым ласкам. І вось аднойчы, калі бацькі пайшлі ў госці, ён заманіў Любу ў свой пакой і тут, на гэтым тапчане, атрымаў ад яе аплявуху. І яны абодва застылі ў розных кутках пакоя, плакалі, выплеснуўшы сваю напружанасць, страх, агрэсію. А пасля зноў ціха сышліся на канапе, каб даць волю вызваленай ад страху пяшчоце.

Маладым летам Люба праводзіла яго ў армію — у хаце звінелі чаркі, на вуліцы іграла музыка, і Віктар не думаў, не ведаў тады, што жыццё — адмысловы і самаўпраўны кравец — выкраіць, зробіць па-свойму, развядзе з каханай па розных дарогах. Эх, жыццё... Ён нават у думках не мог дапусціць, што прыйдзецца назаўсёды развітацца з роднай хатай. Сентыментальнасць разлілася ў настроі Віктара Фёдаравіча. Ён моцна напружыў вочы, каб сціснуць слёзы... Затое паліліся словы, пяшчотны сум. "Бывай, мая родная хата! Цябе чакае новае месца і новыя людскія галасы. Ты забудзеш старое жыццё, сваю адзіноту. Толькі я цябе ніколі не забуду. Я любіў твой чысценькі ганак, твае рыпучыя дзверы, сонечныя вокны, твае ранішнія пахі. Ты дарыла мне зімовую цеплыню і летнюю прахалоду, тут у мяне былі шчаслівыя сны і радасныя світанні..."

І зноў бацькоўскія твары паўсталі ў сынавай свядомасці, і яго ўспаміны паціху растаялі ў сне.

Назаўтра Віктар Фёдаравіч абышоў сваю сядзібу, пастаяў ля кожнага дрэва, як руку чалавека, моцна і горача сціснуў ручку дзвярэй хаты і, зачыніўшы брамку, пайшоў, забараніўшы сабе азірнуцца...

Іваноўскі ляцеў самалётам у свой вялікі паўночны горад. Ён зірнуў у акно ілюмінатара — густая шчотка лесу віднелася ўнізе. І ён раптам убачыў астравок сваёй сядзібы... Здань, галюцынацыя... Ён адкінуўся ў крэсле. Няўжо лёсам прадвызначана яму памерці далёка ад родных мясцін? "А што я ведаю пра жыццё? — кальнула нечаканае пытанне. — Я чакаю нейкага адкрыцця, пасланага мне высокімі таямнічымі сіламі. Але хіба я гэта заслужыў? Я нікчэмны, маленькі чалавек, які захлынаецца ў моры чалавечых страсцей, змагаецца за свой кавалак хлеба. Як навучыцца жыць, пакорліва ўспрымаючы кожны дзень, падпарадкоўваючыся магутнай волі лёсу? Смешна дражніць лёс і казыраць сваёй воляй... Смешна..." Віктар Фёдаравіч адчуў, што трывожны віхор пакінуў яго настрой. Яму стала спакойна і нават добра.

І ўсё ж ён ясна зразумеў, што яшчэ вернецца на радзіму. Душа яго, як лёгенькі вецер, праляціць над роднымі пагоркамі, ляском, іх вёскай, абавязкова праляціць, нават калі застылае цела будзе ляжаць за трыдзевяць зямель...

ВАРУНКІ

# Мінскае Палессе,

## альбо Чаго не хапае перасяленцу?

### З ВОГНЕННЫХ ВЁСАК...

*Тады гаворыць ім Ісус: душа Мая смуткуе смяротна...*

**Евангелле ад Мацвея.**

*Душа — внутренний, психологический мир человека.*

**С. И. Ожегов.**
**Словарь русского языка.**

— Ну, што, Жэнька, не шкадуеш, што Ветку пакінулі? — у чарговы раз з дрэнна прыхаванай надзеяй пытае баба Іра.

Гляджу ў акно бабульчынай мінскай аднапакаёўкі: учора мароз вар'яцеў, а сёння — цеплыня, быццам і не студзень. Інамаркі, уздымаючы фантаны брудных пырскаў, спяшаюцца па сваіх бізнесоўскіх справах. Развялося гэтых легкавікоў-чужынцаў, як блох у шалудзівага сабакі. Яшчэ год шэсць таму адзіная "Аўдзі-80" у нашай Ветцы за дзіва была. А зараз...

— Жывём тут, як за светам, — бурчыць бабуля, злуючыся на маю ўпартую маўклівасць, звыкла перабірае зашмальцаваную калоду. — Сталіца?.. Дык людзі ж галадуюць. Вунь на дзевятым учора зноў усё прапілі, а сёння зноў на хлеб пазычалі. А адкуль у мяне? Калі б не карты ў руках, сама б у старцы пайшла.

Не ведаю, што адказаць старой. Ды і не для гэтага завітаў. Батон ёй завёз, яек, пляшку гарэлкі на нечаканы жыццёвы выпадак (бабуля, равесніца рэвалюцыі, на вуліцу амаль не выходзіць, ды і да крамы далекавата). Бабцы Іры паразмаўляць сёння ў самую ахвотку, але няма ў мяне настрою, бо сваіх спраў апошнім часам вышэй галавы...

Ад бабчынай Малінаўкі да маёй і матчынай па мінскіх мерках — рукой дацягнуцца: нейкія чатыры прыпынкі. Шчыльна жывуць у Мінску перасяленцы. Паўднёвы Захад ды Шабаны ўвабралі і растварылі ў сябе без асаблівага шкадавання ўсё наша знявечанае Чарнобылем Палессе — Нароўлю, Хойнікі, Карму, Брагін, Чачэрск, Ветку... Мы, як і нашы бацькі з дзядамі, таксама з вогненных гарадкоў і вёсак. І баліць нам не толькі ад апошняй вайны, яшчэ цэзіем і стронцыем душы апалены. Дарэчы, многія кінутыя вёскі нашага Веткаўскага раёна невядома па якіх прычынах згарэлі ўшчэнт. І Барталамееўка, і Чырвоны Кут, і матчына Купрэеўка.

Ветку нашу ведае, бадай што, увесь свет. Магутная культура стараверства, рукапісныя і старадрукаваныя кнігі, непаўторная школа іканапісу, адмысловыя неглюбскія ручнікі — пра ўсё гэта не адно яшчэ дзесяцігоддзе з захапленнем будуць разважаць навукоўцы. Калі не баіцеся "паху" радыяцыі, завітайце ў наш музей. Яго стваральнікі Галіна Нячаева і Святлана Лявонцьева абавязкова падвядуць вас да абраза Маці Боскай. Гляньце ёй у вочы. Мабыць, паступова адпадзе ахвота пытацца, як баба Іра, ці не шкадуе перасяленец аб пакінутым...

Святлана, завітаўшы некалькі гадоў таму да нас у сталіцу, падпісала нам з жонкай уласную кніжку пра музей: "Веткаўчанам Таццяне і Яўгену (сённяшнім мінчанам) ад вечных веткаўчан на добрую памяць аб нашай агульнай Душы".

Безумоўна, не проста кавалак зямлі (няхай і самай лепшай у свеце па прыгажосці) пакінулі мы беззваротна. Штосьці іншае, большае. Хоць і не ў кожнага па старажытным звычаі пад ганкам роднай хаты засталася пупавіна, прыхаваная матчынымі рукамі; але кожнага, як бы там ні было, цягнуць на малую радзіму вытокі: юнацкія ўспаміны, спадзяванні, колішняе першае каханне, магіла бацькі, дзеда. Гэтага, відаць, і будзе заўсёды не хапаць перасяленцу. Кавалка душы, кавалка сэрца...

Так што, баба Іра, заўтра зноў будзем маўчаць, пазіраць у акно (балазе, бачны ў ім не толькі шэрыя панельныя гмахі, але і кавалак саўгаснага палетка, засеянага азімінай, на якім толькі бабіна вока і адпачывае). І будзем, баба Іра, моўчкі думаць пра адно.

А абраз той музейны называецца "Спагнанне загінуўшых душ"...

### ЯК ГЭТА БЫЛО

*За 1986-94 гг. з тэрыторыі Веткаўскага раёна адселена 16700 жыхароў з 53 населеных пунктаў.*

**"Чарнобыль. Погляд праз дзесяцігоддзе".**

*Павесілі беларуса. Вісіць ён на шыбеніцы год, два... шэсць. Знялі. Прыгледзеліся: жывы! Пытаюцца: "Ну, як, браток?" "Ат, цяжкавата па першым часе было. Потым прыцярпеўся".*

**Нацыянальны анекдот.**

Як толькі нас ні называлі! Перасяленцы. Пацярпелыя ад аварыі. Ліквідатары самых розных узроўняў і артыкулаў (з ільготамі і без). Найбольш ходкім ва ўжытку мінчан засталося "ганаровае" званне — чарнобылец. Гучыць, як прысуд. І ахвяра і сведка нацыянальнай бяды адначасова. А што яна менавіта нацыянальная, пачало даходзіць толькі тады, калі пацягнуліся з нашага раёна ў пошуках новага жытла першыя бедакі-адсяленцы з найбольш забруджаных радыяцыяй вёсак, калі праехаліся па кінутых селішчах першыя закардонныя госці-навукоўцы. На той момант я, супрацоўнік райгазеты, сядзеў з імі побач у шыкоўным бліскучым аўтобусе і ніяк не мог уцяміць, чаму з такой зацятай прагавітасцю шчоўкаюць іншаземныя фотакамеры, здымаючы без перапынку пустыя



падворкі, раскіданыя гнёзды сівенцаў, барталамееўцаў, вераб'ёўцаў. І шэпт-прыдыханне ў салоне: "fantom village" — "вёска-здань!" Чамусьці ніяк тое не забываецца. Жахлівая экзотыка бяды. Як ні круці, а бяды чужой, якая пастукалася ўсё ж не ў тваё дзверы, за якой назіраць толькі праз вясёлае шкло шыкоўнага аўтобуса.

Стаіць перад вачыма і тая бабулька, старэнькая і кволая, як грыбок-порхаўка, што выйшла насустрач нашаму рэдакцыйнаму "Уазіку" ў адной з пакінутых жыхарамі вёсак дзесьці за Сівенкай.

— Ды не баюся я, дзеткі, — здзіўленне ў калісьці блакітных вачах. — Што мне ваша рацыя зробіць? Навошта мне перасяляцца? Са мной жа Бог. Няхай ён і з вамі будзе...

І расказала-пасмяялася пра тое, што днямі таксама карэспандэнты заязджалі, толькі не мясцовыя, а, здаецца, японскія. Дык вось тыя не столькі пра радыяцыю, колькі пра іконы.

— А ў мяне іх поўны кут — адзінае багацце. Прычапіліся: прадай, долары выцягнулі. Дзівакі! Адно слова — чужынцы! Хто ж абразы прадае? Іх толькі падараваць можна. Але навошта японцу стараверства наша? І ў мяне без іконы не хата, а будан...

І яшчэ незабыўнае. Дзесьці ў 88-ым зноў жа замежнік-калега, здаецца, з "Асахі", пазычыўшы ў нейкага хлапчука веласіпед, з дзіцячай усмешкай на шчаслівым твары наразаў кругі па адной з веткаўскіх вуліц. Здаволіўшыся, пачаў рассоўваць па кішэнях свае электронныя журналісцкія прылады і, глянуўшы яшчэ раз на дазіметр і спахмурнеўшы, кінуў праз перакладчыка:

— Не, тут жыць нельга!

Але ўсё гэта было пасля. Калі ўжо зразумелі многае, усвядомілі, у чарговы раз зжахнуліся, а потым на палову дня супакоіліся пасля прыезду чарговай навуковай зоркі ("Жыць можна, калі строга захоўваць усе мае патрабаванні...") І зноў зжахнуліся, паслухаўшы увечары "Голас Амерыкі". Калі, як яўрэі перад ад'ездам у свае палесціны, любую гутарку заканчвалі аднастайна: "Так, хаця б дзеля дзяцей трэба ехаць". Усё гэта было пасля. А дагэтуль...

Першае чарнобыльскае лета. Апусцелыя да непазнавальнасці вуліцы (жанчыны, не губляючы дарма водпускі, павывозілі дзетак на месяц-другі куды толькі можна). І звар'яцелыя ад волі і адзіноты мужчыны, на "ўра" ўспрыняўшы заклік нейкага самадзейнага наватара ад медыцыны, што "радзіка" трэба і можна выводзіць з арганізма толькі мэтанакіраваным ужываннем спіртнога.

І старэнькі мітуслівы дзядок, жыхар аддаленай вёскі, з адзіным, але такім важным пытаннем да "разумных" рэдакцыйных хлопцаў:

— Дык ці можна малако есці? У райкоме быў — там вады ў рот набралі.

І наша катэгарычнае, як ісціна ў апошняй інстанцыі (любы раённы газетчык мяне добра зразумее):

— Выдайвай, дзед, у траву, беражы сябе і ўнукаў!

Толькі пакрэхвалі мы, слухаючы ў адказ трохпавярховыя з грунтоўнымі сялянскімі прыбудовамі дзедавыя мацюгі, і ў чарговы раз згаджаліся з класікам, што нараджаюцца людзі для пакут. Нараджаюцца з плачам у адзіноце, гэтак жа і паміраюць. А дзяржава са сваімі райкамамі і выканкамамі іншым разам не толькі не маці, а нават і не мачаха.

Па ўсім відаць, і плакаў тады стары ўпершыню. Мабыць, упершыню ў жыцці разгубіўся. Калектывізацыю агораў, вайну зламаў, перабудовай у нішчымніцу сябе не загнаў, а вось перад Чарнобылем на калені стаў. Ды і ці толькі гэты дзядок! Кожны з нас — хто за месяц пасля Бяды, хто за год, а хто і за шэсць — зразумеў: жыццё пачынаць трэба з нуля...

Больш чым упэўнены: у кожнага перасяленца і па сёння ў душы — вэрхал. У кожнага па дзве радзімы, і кожная — чужая.

— Ну, прыедзеш зараз у Брагін, — расказвае сябрук Саша, равеснік і мінчук з шасцігадовым стажам, — дык, калі не радаўніца, то і прывітання на родных вуліцах не пачуеш... Чужыя твары! Вось дык радзіма! А Мінск... Мабыць, для дзяцей нашых стане не чужым, а сваім, блізкім. Дай Бог...

Тое ж самае і з "маёй" Веткай, і з "маім" Мінскам.

Якая спажыўная глеба для навуковых разважанняў псіхолагаў, сацыёлагаў, медыкаў! "Уздзеянне экстрэмальных сітуацый на арганізм чалавека без радзімы". "Што сніць па начах на дванаццатым паверсе былы вясковы механізатар". "Як выжывае ў жорсткіх рынкавых умовах сталіцы былы жыхар вёскі на дзесяць двароў". Чым не тэмы для глыбокіх філасофска-навуковых трактатаў?..

Перабіраючы свой невялічкі архіў, натрапіў на цікавы здымак: сярод натоўпу веткаўцаў, будучых перасяленцаў, — начальнік заднябеснага ўзроўню, мажны і "ўпасвены", як заможны пан сярод змардаваных халопаў. І статутна-форменны кіруючы выраз на стомленым ад дзяржаўных спраў твары. Маўляў, верце мне, і ўсё ў нас будзе добра. Калі сёння прамільгне яго па-ранейшаму спакойны і задаволены твар у кадрах дэпутацкай хронікі нашага немудронага тэлебачання, то радуюся разам з ім: у нас усё добра. А ў вачах землякоў на тым здымку нічога, акрамя надзеі. Дзівакі, у нас усё добра! Пад гэты здымак Стрыжакоў бы подпіс:

***... Плача Ветка без віны***
***Маткай вінаватай...***
***А ў маны свае званы:***
***Мірны атам...***
***Без яго жылі б мірней.***
***І за ўсіх не горш бы.***
***Каб не атама — свіней***
***Быў яго пагоншчык...***

І не збіраюся пасыпаць зараз галаву попелам і енчыць бездапаможна: "Ах, як нам, перасяленцам, цяжка трымацца на плыву ў бурлівым сталічным моры"; і не вінаватых шукаю (якая мне карысць ад таго, што хтосьці калісьці абвесціць: у пакутах майго народа вінаваты Іваноў, Пятроў, Сідараў?). Проста, як сарамліва ні прыхоўвай, а на паверхню ўпарта выскоквае банальнае: да ўсяго прывыкае чалавек, а тым больш рахманы і напаўвясковы спрадвеку беларус. І да пустых прыгожых абяцанняў, і да перспектывы вымірання, духоўнага і фізічнага, і да таго, што мінулага жыцця ўжо не вернеш. Словам, трывай і цярпі, бо нараджаешся ты ў адзіноце і паміраеш гэтак жа. Якое б палітычнае надвор'е ні было б за акном...

А ў сённяшняй Ветцы дзетак не менш, як кажуць, чым да нашага перасялення. Шмат яшчэ ў былым Саюзе "гарачых кропак", шмат людзей, для якіх стронцый з цэзіем лепш, чым голад і куля... Пра гэта яшчэ Мележ пісаў-жартаваў у сваіх дзённікавых назіраннях: "З усякага становішча ёсць два выйсці. Возьмем горшае. Горшае мае таксама два канцы, адзін з якіх лепшы. Возьмем горшы, з яго таксама два канцы, адзін з якіх лепшы. Такім чынам, калі мне і не век будзе шчасціць, я маю ўсё ж многа шанцаў на ўдачу".

...А баба Іра ўздыхае, каменціруючы святое пісанне: "І будуць людзі мыкацца па свеце, і не будуць сабе месца знаходзіць"...

### ВЫЖЫВАЕМ

*За якою ж гор градой*
*Наша з маслам каша,*
*Дзе зялёны востраў той —*
*Хто пажака?..*

**В. Стрыжак. "Рэха журбы".**

Відаць, гэта перасяленцам прыдумана: "Памірай, а жыта сей". Як ні цяжка было па першым часе, але ж сяк-так прызвычаіліся, асвоіліся. Мінчане спачатку вар'яцелі ад нашага "амерыканскага Брайтан-Біч" на сталічна-веткаўскі капыл. Магазін, што на Паўднёвым Захадзе па Бялецкага (якая гэта Малінаўка, не ведаю і па сёння, з сямі ці васьмі наяўных, здаецца, першая) хуценька ахрысцілі "чарнобыльскім". З асцярогай і хваляваннем назіралі за тым, як аўральна-шумнай грамадой засялялі мы свае шматпавярховыя "шпакоўні". Схіляю галаву перад абарыгенамі: колькі тысяч патэнцыяльных кватэраздымшчыкаў адкінулі мы нечакана ў канец доўгіх і ненадзейных, як абяцанні начальнікаў, чэргаў на жыллё. Прабачце! Хоць і не адразу, але ж зразумелі тутэйшыя, што не па сваім жаданні кінуў перасяленец і кватэру сваю і хату з нажытай не за адзін год гаспадаркай.

Гора, кажуць, аб'ядноўвае. А гора гэтае — наша, беларускае, як крыж на шыі верніка — заўсёды з сабой. Каму ж сваё аддасі?!

Як любіць паўтараць сусед па доме (сам мінчанін, але пасля красавіка 86-га пабыў тыдні са два ў нашых Свяцілавічах, а таму атрымаў пасведчанне ліквідатара з усімі льготамі на карысць "яе вялікасці" чаркі): "Не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло". Сапраўды, не была б наша Ветка і па сёння заасфальтаванай, калі б не Чарнобыль; і па сёння спала б у шапку наша медыцына, калі б не нацыянальная трагедыя. Спіс "выгод" можна было б і працягваць, але аптымізм кудысьці імгненна знікае, калі прыгадаю, якая колькасць грошай была ўбухана для ўзвядзення жылля першым перасяленцам у, як аказалася, таксама забруджаных зонах: колькі "драўляных" (але ў якіх памерах!) легла ў кішэні цёмных душой начальнікаў пры расфарміраванні калгасаў і саўгасаў; колькі віртуознага махлярства было праяўлена пры размеркаванні сталічных кватэр. "Дзяржава падманвае нас, мы — яе". Прынцыпу гэтаму, відаць, жыць у стагоддзях.

Пра перасяленчыя кватэры-здані ўжо легенды па Мінску ходзяць. Тэхналогія жыццёвай разваротлівасці нескладаная. Маеш з жонкай дзіця, перад перасяленнем у чыстую зону фіктыўна разводзішся. У Мінску, пасля законнага атрымання дзвюх кватэр, тэрмінова сходзішся. Хуценькі і не вельмі арыгінальны размен. І вось яна — трохпакаёўка! Ну, а калі ты начальнік з больш-менш уладарнай вагой, можна падмітусіцца з падманнай прапіскай шматлікіх сваякоў, плённа выкарыстоўваючы старыя сяброўска-бюракратычныя сувязі (партыя кадрамі не раскідваецца!). І атрымліваецца, што сам з мінскай прапіскай па-ранейшаму ў Ветцы працуе, а ў сталіцы дзеці з нявесткамі ў адной кватэры, а ў другой (на чорны дзень) — кватаранты за "зялёныя".

Але пра гэта ўжо пісана-перапісана. Ды і не ўсякаму перасяленцу, балазе, такая разваротлівасць даспадобы. Большасць толькі на сваю галаву ды рукі спадзяецца...

А гады, як гэта ні банальна, ідуць. Хлапчукі з суседніх дамоў ужо не лупцуюць нашых толькі за тое, што тыя чарнобыльцы (калі і ўспыхваюць "лакальныя" бойкі, то па прычынах больш канкрэтных і сур'ёзных). Ужо былыя нашы трактарысты і жывёлаводы па дарозе са змены пра палітыку ў піўных чэргах крычаць на роўных з мясцовымі рабацягамі. Праяў "расізму" да адселеных "меншасцяў" не назіраецца. Ужо няма вольнага месца на бліжэйшых малінаўскіх пустырах ад лапікаў-гародчыкаў, засаджаных ранняй вясною бульбай і на працягу года калектыўна і пільна ахоўваемых. "Памірай, а жыта сей!" Ужо ў многіх за ўласны мазоль здабытая інамарка, вялікія планы і не менш важкія спадзяванні. Многія прайшлі і крым і рым (а дакладней, барахолкі Польшчы і Германіі, не грэбуючы

*(Працяг на стар. 15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Дзе тыя Дзераўкі?

Свой арыгінальны след у рускай літаратуры пакінуў і Г. Багроў. Нарадзіўся ён у 1825 годзе ў Палтаве. У рэлігійнай яўрэйскай сям'і. Да 17 гадоў вучыўся ў хедэры (яўрэйскай школе). З дзяцінства захапіўся рускай літаратурай. Самастойна вывучыў нямецкую і французскую мовы. Іграў на скрыпцы.

Літаратурай Г. Багроў пачаў займацца ўжо ў сталым узросце. У 1863 годзе ён напісаў першую частку свайго асноўнага твора — напалову мемуарнага рамана-нарыса "Запіскі яўрэя". Доўга, праўда, нідзе не мог надрукаваць. Але як толькі раман патрапіў да Някрасава, той пачаў друкаваць твор у "Отечественных записках". "Запіскі яўрэя" мелі выключны поспех. Аўтар расказаў пра малавядомы, замкнуты свет яўрэйскага насельніцтва за рысай аседласці, пазнаёміў з традыцыйнымі звычаямі. Першы поспех натхніў літаратара на сталы занятак пісьменніцкай работай. Г. Багроў пераязджае ў Пецярбург. Піша гістарычны раман з часоў Багдана Хмяльніцкага — "Яўрэйскі манускрыпт. Перад драмай" (пабачыў свет асобным выданнем у 1876 годзе). Згаданыя і іншыя творы — цікавы матэрыял для вывучэння быту і псіхалогіі яўрэяў у Расійскай імперыі сярэдзіны і канца XIX стагоддзя.

Якая ж у пісьменніка Г. Багрова повязь з Беларуссю? Калі ў нас будзе выдадзены даведнік "Літаратурныя мясціны Беларусі", то павінна патрапіць у яго і прозвішча аўтара рамана "Запіскі яўрэя". І вось чаму. Памёр Г. Багроў у вёсцы Дзераўкі Мінскай губерні. Зразумела, што губерня гэта зусім не тое, што сучасная вобласць. І ўсё ж такі на ўсялякі выпадак зазірнём у "Слоўнік назваў населеных пунктаў Мінскай вобласці" Я. Рапановіча. Але тут толькі і знаходзім Дзераўную і Дзераўно — у Стаўбцоўскім і Лагойскім раёнах. Значыць, відавочна, што Дзераўкі знаходзяцца недзе па-за межамі сучаснай Мінскай вобласці. Тады дзе?..

Магчымая падказка — у "Кратком топонимическом словаре Белоруссии" В. Жучкевіча. Відаць, Дзераўкі, згаданыя ў біяграфічным слоўніку "Русские писатели", — на самай справе Дзераўцы. Чытаем у Жучкевіча: "...в. Осиповичского р-на, ж.д.ст. на линии образовано от основы д е р е в о". Ці так гэта, дакладна можна будзе сказаць, калі будзе адшукана магіла Г. Багрова. Але ўжо і сёння можна пазначаць імя аўтара "Запісак яўрэя" на літаратурнай карце Беларусі.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

## Паходзіў з Беларусі

Беларусам па паходжанні быў вядомы рускі паэт Яраслаў Смелякоў. З дня нараджэння Яраслава Васільевіча 8 студзеня споўнілася 85 гадоў (памёр 27 лістапада 1972 года). Я. Смелякоў — аўтар шматлікіх кніг. У асобных яго творах ("Белая вежа", "Беларусам", "Ода малодшаму лейтэнанту" і іншых) гучыць і беларуская тэма. Напісаў таксама шэраг артыкулаў, прысвечаных нашай зямлі. У публіцыстычных творах распавядаў пра наведванні зямлі, якую лічыў роднай, і на якой неаднойчы бываў, у літаратурна-крытычных пісаў пра творы асобных пісьменнікаў, пра іх кнігі. Я. Смелякоў пераклаў на рускую мову асобныя творы А. Куляшова. Яго ж творы па-беларуску ўзнаўлялі М. Танк, Е. Лось, М. Калачынскі, Я. Семяжон, М. Аўрамчык... У 1974 годзе на беларускай мове ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшла кніга Я. Смелякова "Выбранае".

## "Вытокі"



У Сакольніцкай сярэдняй школе Крычаўскага раёна створаны фальклорны дзіцячы ансамбль "Вытокі". На вячорках школьнікі спяваюць народныя песні разам са сваімі бабулямі.

*Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА*

ВАНДРОЎКІ

***Разам з мастацтвазнаўцам і перакладчыкам, грамадскім дзеячам Валерыем Буйвалам нядаўна мы пабывалі ў Страсбургу на семінары па правах чалавека ў Сярэдняй і Усходняй Еўропе. Семінар арганізаваў нямецкі фонд Фрыдрыха Наўмана, мы прадстаўлялі на ім Беларусь. Візы былі афармлены за два дні да адлёту, і нам засталося толькі забраць квіткі на самалёт да Франкфурта-на-Майне, дзе размешчаны ці не самы вялікі аэрапорт у Еўропе.***

***У касе Люфтганзы, куды мы прыйшлі па квіткі, толькі развялі рукамі — сапсавалася друкарка, таму, калі можаце, прыходзьце ўвечары напярэдадні адлёту. Выйшлі трохі збітыя з тропу: нешта непадобна на хвалёны нямецкі сервіс. Тым не менш, з'яўляемся ў касе ў абгавораны час і... тая самая сітуацыя: друкарка не працуе, квіткі не выдаюць. Але, заўважаем, што разварочваюць таксама іншых пасажыраў, прапаноўваючы выкупіць квіткі проста перад вылетам. І гэта супакойвае. А то ўжо былі пачалі думаць, што патрапілі ў "чорныя спісы". Просяць і нас выкупіць квіткі ў аэрапорце. "А зараз нельга?" — перапытвае Валера. — Мы ж людзі савецкія, любім, каб усё было зроблена загадзя". "Затое кампанія ў нас не савецкая", — супакойвае нас касірка. "Па вашай працы не бачна", — адказвае Валера, і мы выходзім збірацца да ад'езду.***

# Дух волі

### НАТАТКІ СА "СТАЛІЦЫ" ЕЎРОПЫ

**21 лістапада.**

У аэрапорт прыехалі раней, каб быў час на непаразуменні, да якіх мы ўжо маральна падрыхтаваныя. Таму асабліва не здзівіліся, бачачы, што каса Люфтганзы зачынена. Сёння субота і невядома, ці адчыніцца яна ўвогуле. Называецца, злёталі. Да адлёту самалёта засталося дзве гадзіны. Настрой псуецца, мы ходзім па вялізных пустых холах, спрабуючы распытацца ў рэдкіх супрацоўнікаў аэрапорта, ці адчыніцца калі-небудзь гэтая каса. Ніхто нічога не ведае. І толькі з чацвёртага разу нас супакойваюць: чакайце, адчыніцца. Сапраўды, праз паўгадзіны каса адчынілася і нам, дзіва дзіўнае, за тры хвіліны выпісваюць квіткі і жадаюць шчаслівага палёту.

Можна перавесці дых. Я азіраюся і заўважаю аднаго знаёмага былога дэпутата, які ўваходзіў у апазіцыю пачатку дзевяностых гадоў. Зараз ён ужо не апазіцыянер, някепска ўладкаваўся ў адным з банкаў, зацік і рупна, як крот, капае норку для свайго ўласнага дабрабыту, зносячы туды зярнятка да зярнятка. Мабыць, думае перачакаць. Шмат хто зараз мяркуе перачакаць, але далёка не ўсім гэта ўдаецца. Бо, як казаў нам першы прэзідэнт, ад турмы і ад сумы не заракайся.

У самалёце гэты экс-апазіцыянер, да ўсяго, займае адно з нашых месцаў, і мы вымушаны ісці далей, у хвост. Я суцяшаю сябе тым, што калі будзе аварыя, дык шанцы выжыць маюць толькі тыя, хто сядзіць у хвасце.

Палёт на "Канкордзе" нагадвае язду на машыне па бетонцы. Лёгкае падрогванне, аніякіх паветраных ям, усё спакойна і звычайна. І трохі больш чым праз гадзіну мы ўжо ходзім па франкфурцкім аэрапорце, з цікавасцю аглядаючы яго. Ён нагадвае ўтульны, цёплы, шчыльна заселены вялікі дом. Мільгануў, як прывід, як напамін пра Беларусь, экс-дэпутат, і мы ходзім паміж рознаплеменнага тлуму, дзе больш чорнага, брунатнага, жоўтага, чым белага колераў.

Аўтобус з шалёнай хуткасцю ляціць па васьміпалосным аўтабане, у цемры ўзнікаюць і хутка застаюцца за намі зорныя россыпы нямецкіх мястэчак, уся дарога шчыльна абстаўлена разнастайнымі знакамі, указальнікамі, лямпачкамі і яркімі плямамі, якія пяшчотным кармінам адбіваюць святло фараў.

Праязджаем ярка асветлены кантрольны пункт на нямецка-французскай мяжы. Нідзе ніводнага чалавека. Шэнген расчыніў межы еўрапейскіх краін і зараз па шэнгенскай візе можна ехаць без перашкодаў ад Берліна да Лісабона. "Злучаныя Штаты Еўропы", — усплывае ў мяне ў галаве нешта з "класікаў" марксізму-ленінізму.

Неўзабаве мы ўжо ў цэнтры Страсбурга. Наш гатэль стаіць проста на вакзальнай плошчы, насупраць вакзала. Плошча асветлена, як днём. Зялянее вялікае лісце клёнаў, блішчыць вільготны брук, зззяюць гатэльныя шыльды...

**22 лістапада**

Сёння нядзеля, вольны ад працы дзень. Яшчэ не ўсе ўдзельнікі семінара прыехалі, і ў нас ёсць вольнага паўдня, а потым будзе экскурсія па горадзе. Я адчыняю балкон і выглядаю з шостага паверха на плошчу. Яна ўся акуратна забрукавана, дзве паласы дарогі раздзелены між сабою і здзіўляюць сваімі звілістымі абрысамі. Можна было б зрабіць дарогу роўнай і прапусціць яе па сярэдзіне плошчы, але было б не так прыгожа, не так утульна. (Пазней, пахадзіўшы па Страсбургу, я зразумеў, што менавіта такіх абрысаў патрабаваў дух горада, які жыхары берагуць як адзін суцэльны помнік.) Савецкія архітэктары ў Мінску не захацелі "аб'язджаць" старажытныя кварталы Нямігі. Яны згрэблі іх, як непатрэбнае смецце.

Адразу ж тут, ад вакзальнай плошчы, пачынаецца стары горад, векавыя камяніцы якога былі ўтульна прыстасаваны пад сённяшнія патрэбы жыхароў. Амаль усе першыя паверхі заняты крамамі, рэстарацыямі, барамі, бістро. Нешматлікія крамкі, адчыненыя ў нядзелю, належалі ў асноўным арабам — спадчыне каланіяльнага мінулага Францыі. Мы ішлі па вузкіх вулках Страсбурга, з цікавасцю разглядаючы ягоныя пакрэсленыя чорнымі бэлькамі муры. Некалі толькі першыя паверхі будынкаў будаваліся з каменя, а затым рабіўся бэлькавы каркас, пусткі паміж якім запаўнялі тырсой і абмазвалі глінай, выпускаючы абсмаленыя рэбры бэлек вонкі. Атрымлівалася выразная і адметная фахверкавая архітэктура.

Неўзабаве мы выйшлі да грамадзіны вялізнага сабора, абплеценага лёгкімі каменнымі гатычнымі карункамі. Ягоная вежа, упрыгожаная безліччу фігур, здаецца, падпірала само неба. Перахапіла дых — штосьці падобнае і ўявіць было немагчыма. Віленскі касцёл святой Ганны поруч з ім выглядаў бы маленькім трохгадовым дзіцянём побач з дарослым мужчынам. Валера засмяяўся ад радасці, кажучы, што на экзаменах вызгнуў скульптурную кампазіцыю, якая ўпрыгожвае ўваход у гэты сабор, і пацягнуў мяне глядзець на ўласныя вочы тое, што некалі мог разглядаць толькі на фотаздымках.

Некалькі каменных жанчын стаялі над уваходам у сабор. Злева — аблудныя і распусныя дзеўкі, адна з якіх працягвала яблык, а за спіной у яе клубіліся вужы і жабы, а справа — беззаганныя паненкі, якія сваімі нагамі таптаці розных спакушальнікаў і пачвараў. Я паспрабаваў сфатаграфаваць сабор, але — марная справа, ён аніяк не ўваходзіў у аб'ектыў. У сувенірнай лаўцы, пераглядаючы шматлікія паштоўкі з выявамі сабора, я так і не знайшоў аніводнай, якая б хоць збольшага перадавала ягоныя веліч і аб'ём.

Пасля абеду была экскурсія па Страсбургу, якую праводзіў малады інтэлігентны эльзасец. Натуральна, што мы распытваліся пра іхняе нацыянальнае пачуццё — кім яны сябе адчуваюць? Адказ быў цікавы. Хоць мы і гаворым па-французску, казаў ён, але восемдзесят працэнтаў эльзасцаў ведаюць нямецкую мову і яе эльзаскі дыялект, мы залічваем сябе да культурнай супольнасці Рэйна... Французская мова не зрабіла іх фрацузамі, ды, мабыць, і не зробіць.

Мы разглядвалі вузлаватыя клёны з гладкімі култышкамі галін, палацы, пабудаваныя ў манерным французскім і ў змрачнаватым нямецкім стылі. Усё тут пераплецена: гісторыя, архітэктура, культура двух народаў. Вось стаіць помнік Гутэнбергу, які трымае ў руках медны пазаленялы ліст. Экскурсавод распавядае, што калі мянялася ўлада, мяняўся і тэкст на медным аркушы ў руках першадрукара — то па-нямецку, то па-французску. Гэтаксама, як і назва студэнцкага клуба. Вулачкі горада захавалі старую трасіроўку. Яны ўсе чыстыя і забрукаваныя. Зямля — толькі вакол дрэваў і на невялікіх клумбах.

Страсбург перасечаны некалькімі каналамі, якія некалі баранілі горад. Зараз па іх ходзіць прагулачная лайба, возіць турыстаў. На яе сядаем і мы. Каля прыстані плаваюць лебедзі. Хлопец гадоў дзесяці разматаў шалік і махае ў птушкі перад дзюбаю. Лебедзь пакрыўджана адварочваецца. Берагі каналаў шчыльна забудаваны дамамі, падмуркі стаяць проста ў вадзе. Каменныя прыступкі ад дамоў спускаюцца ў ваду. Як у Венецыі, заўважае Валера.

Ужо калі прыцемкам вяртаемся ў гатэль, упершыню за дзень каля сабора бачым групу паліцыянтаў, якія весела гамоняць і смяюцца між сабою. У гэты час у саборы адбываецца рукапакладанне Эльзаскага арцыбіскупа.

**23 лістапада**

Раніцай на аўтобусе едзем у Палац правоў чалавека, дзе будзе праходзіць семінар. Па вуліцах ездзяць толькі новыя машыны. Старых, пабітых, падфарбаваных лімузінаў, як у нашым Мінску, тут не ўбачыш. Іншы стандарт жыцця не дазваляе ездзіць на састарэлых машынах: не зразумеюць знаёмыя, калегі.



Архітэктура палаца нечым нагадвае мне цэх Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода, а Валеру — карабель. Калі заходзім туды, ідзём па доўгіх аднатонных пераходах, замест вокнаў у дзвярах — ілюмінатары, і нават зала пасяджэнняў — круглая, як рубка карабля.

Семінар даволі прадстаўнічы. У ім бяруць удзел суддзі канстытуцыйных судоў, дэпутаты парламентаў, старшыні парламенцкіх камісій па правах чалавека і старшыні хельсінкскіх камітэтаў з трынаццаці краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У дэлегацыі з Расіі трое — з каманды прэзідэнта, а яшчэ трое — з недзяржаўных праваабарончых арганізацый. Толькі мы, з Беларусі, выглядаем тут белымі варонамі. Афіцыйныя беларускія структуры ў гэты палац не запрашаюцца.

Удзельнікаў семінара знаёмяць са справамі і накірункамі працы камісіі па правах чалавека Рады Еўропы. Бачна, што галоўная задумка арганізатараў — актывізаваць удзел разнастайных праваабарончых дзяржаўных структур у сумеснай працы па захаванні правоў чалавека, яшчэ раз азнаёміць іх з агульнапрынятымі стандартамі. Гэта ўсё зараз амаль не датычыць Беларусі. Нас актыўна распытваюць пра захаванне правоў чалавека ў Беларусі. І не стамляюцца здзіўляцца. "Няўжо ў вас адвакаты абавязкова павінны ўваходзіць у калегіі, якія кантралюе міністэрства юстыцыі?" — пытаецца доктар юрыдычных навук з Украіны. "Так", — гаворым мы. "Няўжо ў вас непаўналетніх садзяць за графіці на платах?" — пытаецца вядомая юрыстка з Масквы. "Так", — адказваем мы. "Няўжо ў вас збіваюць замежных журналістаў падчас дэманстрацый?" — пытаецца рэдактар македонскага часопіса і дэпутат парламента Македоніі. "І не толькі замежных, — пацвярджаем мы, — але сваіх у першую чаргу". Усе спачувальна ківаюць галовамі, бо іхнія краіны яшчэ нядаўна праходзілі праз гэта.

Але — сыты галоднаму не прыяцель. І па пытаннях, якія задаюць удзельнікамі семінара адказным чыноўнікам Савета Еўропы, што выступаюць перад намі, бачна: у думках яны ўжо — у багатай і гуманнай Еўропе.

Увечары мы зноў гуляем па лялечным Страсбургу. З перасоўных жароўняў прадаюць смажаныя каштаны. Колькі ні чытаў пра Францыю, заўжды марыў пакаштаваць смажаных каштанаў. Што зараз і раблю. Яны нагадваюць салодкую, крыху падмерзлую бульбу.

На вуліцах сядзяць жабракі, апранутыя ў брудную, але цэлую вопратку. Кожны трымае каля сябе нейкую жывёлінку: хто старую аўчарку, хто ката на ворцы — разам жабруюць. І ніводнага паліцыянта. Нават неяк нязвыкла.

**24 лістапада**

Прачнуўся і з сумам думаю пра тую дзірку, у якую трапіла Беларусь. А бедныя людзі нават не ведаюць, што можна жыць, як іншыя жывуць, а працуюць жа не меней, чым тут. Але ім спяваюць пра "эканамічны пад'ём", пра "рост вытворчасці", і народ пакорліва маўчыць, можа, нават і верыць.

Згадваю, як трынаццаць гадоў таму Іван Іванавіч Антановіч, тады загадчык аддзела ў ЦК, з пафасам распавядаў перад маладымі літаратарамі, што ён у Амерыцы па тэлевізары бачыў, як Святлана Алілуева, дачка Сталіна, паліла савецкі пашпарт, як радаваліся злосныя янкі і як сэрца ў яго аблівалася крывёй. Такім чынам ён ганіў імперыялізм. А на пытанне, чаму яны, улады, разбурылі першы беларускі тэатр, адказаў: "Які там беларускі тэатр, гэта ж быў яўрэйскі дом..."

Яны ж не дурні, добра ведалі і ведаюць, як жывуць людзі тут, на Захадзе, але лгалі і гнялі свой народ, тлумілі і тлумяць яму галовы, жыравалі і жыруюць на бядзе іншых. Сёння Еўропа разгледзела сутнасць гэтага "аркестра" і закрыла перад імі заслонку. А так з якім бы задавальненнем, з якой радасцю бегалі б нашы былыя камсамольскія работнічкі па Страсбургах і Жэневах. Яны ж і мовы прадугледліва павывучвалі. Але, як кажа мой малы сын, атрымаўся абломчык.

Пасля перапынку пачынаецца судовае пасяджэнне. За судзейскі стол сядаюць 23 суддзі амаль з усіх краін сяброў Рады Еўропы. Столькі суддзяў разам я бачу ўпершыню. Ды беларускага суддзі сярод іх няма.

Мы сядзім у зале наглядальнікаў. Разам з намі — студэнты з розных еўрапейскіх краін. Пасяджэнне ідзе па-французску з перакладам на ангельскую мову. Аўтамабільная кампанія "Фіят" судзіцца з Францыяй наконт рынкаў збыту сваіх машын.

Праз нейкі час мы выходзім у хол і там я паказваю расійскім калегам на невялікую каржакаватую постаць чалавека, які стаіць да нас спіною: "А вось ваш міністр унутраных спраў прагульваецца". Мне спачатку не даюць веры, а потым, калі ён паварочваецца да нас у профіль, сапраўды, усе пазнаюць Кулікова. Каля яго таўкуцца пара грамілаў з аховы і яшчэ парачка маладых, круглашчокіх і трыбухаватых расійскіх дыпламатаў, штосьці расказваюць яму, махаюць рукамі, фатаграфуюць, лісліва забягаючы наперад, на прыступкі. "Вось, — кажа мне Валера, — гэты чалавек заліў крывёю Чачню, а зараз прыехаў разважаць аб правах чалавека".

Мы разважаем пра тое, як Еўропа баіцца Расіі, і гэта бачна па прачытаных нам дакладах. Баіцца, як баяцца ў вёсцы звераватага дурня, які, калі напіваецца, ламае, б'е без памяці ўсё, што бачыць, не шкадуе ні жонкі, ні дзяцей. Еўропа баіцца і стварае сабе такі вобраз Расіі, які супакойвае яе.

**25 лістапада**

З раніцы сустракаемся з Валерам за сняданкам. Ён распавядае, як хадзіў на пошту — пасылаў італьянцам інфармацыю пра Аляксея Шыдлоўскага і Вадзіма Лабковіча, якія за нішто сядзяць у жодзінскім СІЗА. Чыста, утульна, сустракаюць ветліва, з усмешкаю, праводзяць гэтаксама. "Ды я б там, — распавядае Валера, — паставіў раскладанку б і жыў". Тут цяжка ўявіць, каб у краме ці нават у дзяржаўнай установе, дзе табе як бы і не павінны пасміхацца, сказалі кепскае слова ці ўзвысілі тон. Усё акуратна, ветліва, неяк па-свойскаму, па-хатняму. Яны шкадуюць свае нервы і нервы адзін аднаго, мабыць, таму і жывуць гэтак доўга.

На семінары прыйшоў час і для нашага даклада. Інспіратарамі сённяшняй сітуацыі ў краіне, па нашым дакладзе, атрымліваецца старая савецкая бюракратычная сістэма, якая засталася яшчэ ад камуністаў, а таксама расійскія спецслужбы, якія любяць лавіць рыбку ў каламуці. Гэтыя высновы не зусім падабаюцца афіцыйным расійскім калегам. Адзін з іх заўважае: "Не ўсё ж у вас так кепска. Раней і яшчэ горш было". "Вы б яшчэ з 1913 годам параўналі, — адказвае Валера (смяёмся мы і ўкраінцы, іншыя не зусім зразумелі, прычым тут 1913-ы). — Мы бачым, як жывуць суседнія краіны, — працягвае Валера, — перад нашымі вачыма еўрапейскія стандарты, у нас ёсць з чым параўноўваць".

На перапынку падчас "coffee break" прыносяць прэс-рэліз інфармацыйнай службы Рады Еўропы з красамоўнаю назваю "Упаў апошні бастыён дэмакратыі". Гэта генеральны сакратар Рады Еўропы Лені Фішэр выказалася такім чынам наконт закрыцця газеты "Свабода" ў Беларусі. Тон яе выступу жорсткі, без звычайных еўрапейскіх умоўнасцяў. Бачна, што ў Радзе Еўропы зніклі ўсялякія ілюзіі наконт беларускіх уладаў і наступны крок, які трэба чакаць, гэта эканамічнае эмбарга. У сугучны з рэзкаю заяваю нямецкага бундэстага, якая прагучала колькі тыдняў таму, усё гэта вельмі сур'ёзна.

Афіцыйныя расіяне хаваюць галовы ў плечы, усе астатнія выказваюць нам непрыхаванае спачуванне.

Пасля працы ў семінары выходзім з будынка. Пры выхадзе ляжыць стос разнастайных буклетаў пра дзейнасць Рады Еўропы. Валера знаходзіць брашурку на нарвежскай мове, захоплівае яе з сабою дзеля сваіх мовазнаўчых інтарэсаў. Ужо ў аўтобусе паказвае мне карту, на якой краіны, што ўваходзяць у Раду Еўропы, афарбаваны ў светла-ружовы колер, адно "чорнай дзіркаю" зеўрае сэрца Еўропы — Беларусь ды падчарэўе Еўропы — Югаславія.

**26 лістапада**

Апошні працоўны дзень нашага семінара. Працуем па секцыях. Абмеркаванне ў нашай працоўнай групе тэарэтычных праблем у абарону правоў чалавека скончылася канкрэтнай прапановай украінцаў прыняць спецыяльную пастанову па Беларусі. Адразу ж па-ангельску быў складзены яе праект.

Здзіўляе ўзровень валодання ўдзельнікамі семінара ангельскай мовай. Як высветліў, амаль усе падцягвалі ангельшчыну ў апошнія дзесяць гадоў, калі з'явіліся перспектывы міжнародных кантактаў. І ў нас маладшае пакаленне стараецца, вучыць, не тое што мы некалі. Паненкі, якія ад фонду дапамагаюць у працы нашаму семінару, самі немкі, умеюць яшчэ па-ангельску і па-французску — іншы свет.

Валера далікатна спытаўся наконт пастановы: а што ж нашыя расійскія калегі? Эстонец, дэпутат парламента, адразу ж адказаў: будзем галасаваць. Усе згодна заківалі галовамі: будзем, будзем, калі што. Нас усцешыла такая салідарнасць.

Пры абмеркаванні рэзалюцыі па Беларусі афіцыйная частка расійскай дэлегацыі на пасяджэнне не з'явілася. Сядзелі ў холе, палілі і пілі каву. Тэкст прынятай рэзалюцыі наступны: "Мы, удзельнікі семінара "Выкананне Еўрапейскай канвенцыі ў абароны правоў чалавека і фундаментальных свабод у краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, якія з'яўляюцца новымі членамі Рады Еўропы" (Страсбург, 23—27 лістапада 1997 года), ведаючы пра сітуацыю з правамі ў Беларусі, заяўляем наступнае:

У сучаснай Еўропе новыя дэмакратыі перажываюць працэс пабудовы грамадзянскай супольнасці на аснове каштоўнасці правоў чалавека. Таму мы лічым недапушчальнай сітуацыю ў Беларусі, бо там пастаянна парушаецца прынцып улады закона. Груба абмяжоўваецца свабода слова, пераследуецца апазіцыя, пад сур'ёзнаю пагрозаю знаходзяцца беларускія саматоеснасць, культура і мова, не маюць гарантыі асабістыя свабоды і вольнасці.

Мы настойліва заклікаем міжнародную грамадскасць падтрымаць дэмакратыю і правы чалавека ў Беларусі і пастаянна ўздзейнічаць на цяперашняе беларускае кіраўніцтва метадамі, якія адпавядаюць міжнароднаму заканадаўству.

Страсбург, 28 лістапада 1997 г."

Упершыню ў заяве такога ўзроўню была адзначана дыскрымінацыя беларускай культуры і мовы, разбурэнне нацыянальнай саматоеснасці беларусаў, тое, чым так паспяхова займаюцца беларускія ўлады апошнія гады.

Расійскія незалежныя праваабаронцы галасавалі за рэзалюцыю. Карына, маскоўская юрыстка, якая спецыялізуецца па абароне замежнікаў у Расіі, армянка па нацыянальнасці, вырашыла пажартаваць: "А как будет "Здравствуйте" по-белорусски? Нужно ведь знать, мы же соотечественники". Валера спытаўся ў адказ: "А вы знаете, что и Армения хочет вступить в Союз?" Карына разгубілася і толькі спыталася: "Да?" "Да!" — у два галасы радасна адказалі мы, Валера працягнуў: "Вот такой "труаз амур" получается". Мы ўсе ўтрох весела засмяяліся.

Апошні афіцыйны выступ на семінары быў генеральнага сакратара Рады Еўропы. Натуральна, што адно з пытанняў яму было пра ўзаемаадносіны Рады Еўропы з Беларуссю. Задалі яго, здаецца, не мы. Адказ быў кароткі і ясны. Зараз з дзяржаўнымі структурамі — ніякага супрацоўніцтва. Няхай вернуцца ў прававое поле. Будзем чакаць наступных выбараў паводле дэмакратычнай канстытуцыі, якая там пакуль што не працуе.

А чаго яшчэ можна было чакаць?

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

# Павел ТКАЧОЎ



1 студзеня 1998 года памёр вядомы беларускі пісьменнік, заслужаны работнік вышэйшай школы Рэспублікі Беларусь, прафесар, доктар філалагічных навук Павел Ткачоў.

Павел Іванавіч Ткачоў нарадзіўся 3 верасня 1930 года ў вёсцы Скадаінаўка Шахцінскага раёна Растоўскай вобласці ў сям'і шахцёра.

Пасля заканчэння сярэдняй школы быў дыктарам і літаратурным сакратаром на радыёстудыі ў г. Паўлаўску Варонежскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна (1955). Працаваў у рэдакцыях газет "Зорька", "Піянер Беларусі", часопіса "Бярозка". У 1967 годзе скончыў аспірантуру, выкладаў рускую класічную літаратуру, з 1969 года загадваў кафедрай рускай класічнай літаратуры БДУ, адначасова быў дэканам факультэта журналістыкі (1981—1986).

Выступаць у друку Павел Ткачоў пачаў з 1947 года. Пісаў на рускай і беларускай мовах. За гады плённай творчай працы ўбачыла свет шмат яго кніг прозы, якія ён прысвяціў дзецям: "Мікіткаў падарунак" (1960), "Пра Сяргейку і лясных жыхароў" (1961), "Акцябраты — твае сябры" (1962), "Вішнёвая квецень. Апавяданні пра У. І. Леніна" (1965), аповесці "Пілінка з Галубінай слабодкі" (1969), "Граніца была побач" (1972) і многія іншыя.

Павел Ткачоў — адзін з аўтараў і ўкладальнікаў шырокавядомых кніг "Піянеры-героі" (1962), "Напісалі кніжку самі" (1966), "Эстафета пакаленняў" (1967). Выступаў таксама, як крытык і літаратуразнавец. Выйшлі манаграфіі "Вечный бой: Памфлетное наследие Я. Галана и традиции М. Горького" (1970), "Иду на "вы": Заметки о памфлете" (1975), "Границы жанра" (1977), кніга нарысаў і эсэ "Силуэты прошлого" (1983) і іншыя.

Павел Ткачоў прымаў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці рэспублікі. Меў некалькі ўрадавых узнагарод. І сваім шчырым мастацкім словам, і як выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэта ён шмат зрабіў у выхаванні моладзі.

Светлая памяць аб таленавітым пісьменніку, чалавеку высокай маралі і дабрыні назаўсёды застанецца ў нашых сэрцах.

**Саюз беларускіх пісьменнікаў**
**Беларускі Дзяржаўны універсітэт**

# Мінскае Палессе...

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

і мясцовым "Дынама"), пакуль не сталі на ногі. Але многія з галечы вырвацца ўсё ж не здолелі, схаваліся за чаркай. Асобныя скончылі жыццё самагубствам, асобныя пабывалі ў калоніях, турмах.

Былы аднакласнік (у Ветцы адным часам працаваў сакратаром райкама камсамола) кажа, пазіраючы на мае мінскія газетныя "эксперыменты":

— Не надакучыла галавой працаваць? На яе зараз попыту няма. Рукамі трэба, даражэнькі, рукамі. Вось тады нашы дзеткі на Канарах адпачываць будуць.

Днём ён аздабляе багатым балконы: ставіць (са сваяком) рамы, абшывае сцены. Уночы "таксуе" на сваім "японцу", прывезеным з Прыбалтыкі (увогуле, мяркуючы па жудасна-таямнічых расповедах знаёмых хлопцаў-вадзіцеляў, прыватнае "таксаванне" — тэма для асобнага матэрыялу). Словам, спрабуе зарабіць той мінімум грошай, без якога пра нейкую эканамічную незалежнасць ад дзяржавы марыць не даводзіцца. З той жа мэтай і ў Польшчу наязджае, і ў Маскву, спрабуе зарабляць і на Поўначы. Але не прыхоўвае, што іншым разам так штосьці за душу хапае, што хоць ваўком вый: "Амаль па сорак ужо, а мы мітусімся, як падлеткі!"

Мабыць, пра гэта і думалі нашы жанчынкі, калі ў 92-м стварылі грамадскую арганізацыю "Перасяленец". Спачатку старшынёй Тамара Бахурэвіч была, потым яе справу Жана Філаменка працягнула (першая з Веткі, другая — з Нароўлі). Для чаго? Каб хоць неяк душу чарнобыльца супакоіць. З працаўладкаваннем калегам-бедакам на першым часе дапамагчы, з медыцынскай дапамогай. У Шабаках аналагічнай арганізацыі далі назву "Жыццё". І пачалі наладжвацца сувязі з замежнымі дабрачыннікамі, якія пастараліся падтрымаць гуманітарнай дапамогай каля дзесяці тысяч перасяленых у Малінаўку сем'яў, прыняць па магчымасці нашых дзетак для летняга адпачынку-аздараўлення. Дапамагалі і дапамагаюць "Перасяленцу", як могуць, такія сусветна ўжо вядомыя мінскія арганізацыі, як "Сакавік", "Дапаможам ім жыць", "Дзецям Чарнобыля". Пры прамым удзеле апошняй арганізацыі — Беларускага дабрачыннага фонду, створанага прафесарам Грушавым яшчэ з вясны 1989 года, ды пры падтрымцы асацыяцыі "МАГС" — дзецішча жонкі Грушавога, адкрыўся ўрэшце па вясне ў нашай Малінаўцы маладзёжны цэнтр.

На працягу тыдня амаль паўтысячы дзетак (і не толькі чарнобыльскіх) прыходзяць сюды не для пустога баўлення часу. Дзейнічае тут дваццаць самых розных гурткоў — амаль на любы дзіцячы густ. Працуюць у цэнтры — безумоўна ж, не за грошы — настаўнікі бліжэйшых школ, студэнты лінгвістычнага універсітэта. Для нашай малінаўскай "спальнай" правінцыі, дзе пра арганізацыю карыснага і цікавага адпачынку ніхто сур'ёзна і не думаў, цэнтр гэты — дасягненне неаспрэчнае.

А вось з пажылымі хоць "ратуйце" крычы. Сын чытае апавяданне Караткевіча "Нямоглы бацька" і смяецца, сямікласнік-падшыванец: "І я цябе гадоў праз дваццаць у лес за ТЭЦ завязу, як калісьці продкі-паганцы". Жарт жартам, а мы сваіх, атрымліваецца, ужо завезлі. У Малінаўку. Баба Іра бавіць час ва ўспамінах пра "дабрэннае" веткаўскае жыццё, у гаданні ды знахарстве ("страждущие" да яе выстройваюцца ў чэргі, прыязджаючы з розных канцоў Мінска). Ну, а маці "адпачывае" ў магазінных чэргах ды ў пустых на навінкі сталічных бібліятэках. Калі б не мы, сыны ды ўнукі, зусім бы засумавалі, родныя. А ўявіце, як адзінокім жывецца...

## ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

*"Интересно, есть ли ещё в мире страна, где ребенок, имея онкологическое заболевание, получает пенсию в 15 долларов? Меня не интересует, по чьей вине произошла авария на ЧАЭС. Я знаю одно: мой сын заболел в Республике Беларусь, и государство обязано обеспечить ему нормальную пенсию?!*

**З ліста ў "Народную волю". 20 снежня 1997 г.**

На бетонным плоце побач з нашай школай хтосьці старанна вывеў фарбай: "Наш дом — Беларусь". Хаджу міма штодня на працу і не веру. Калі наш дом, дык чаму такі засмечаны і брудны, мяркуючы па ліфтах, пад'ездах, малінаўскіх газонах? Дворнікам клопату хапае на ўвесь дзень. Перад сваім домам дрэўцы высаджвалі гады са тры запар. Беззадзейна. І карэння не застаецца. Няўжо гэтай нашай неахайнасці доўжыцца бясконца? Мабыць, Чарнобыль, як і рак, — пакаранне Боскае, і няма ад яго збавення?!

Паэт Анатоль Зэкаў назваў чарнобыльскую аварыю — аварыяй сумлення:

***У аварыі й я вінаваты,***
***адрасуйце і мне праклёны,***
***што не спыніў бюракрата,***
***не абараў пустазвона.***
***Пры згодзе маёй і маўчанні***
***па лесвіцы кар'ерыста***
***вылазіў угору начальнік***
***з сумленнем нячыстым.***
***Гэта я заплюшчваў вочы***
***на столькі дзяржаўных бед.***
***А мог бы ўзарвацца аднойчы.***
***Першым.***
***Каб іншыя — услед.***
***Не ўзарваўся. Змаўчаў.***
***Між маною і праўдай юліў.***
***Я ўсё прыкмячаў.***
***Ды ў сабе ўсё таіў.***

Сапраўды, не дай Божа, каб дзеці паўтаралі нашы памылкі, заставаліся рабамі і заложнікамі невядома кім і для чаго штучна прыдуманых жыццёвых перашкод. Каб раўнадушна праходзілі міма гора чалавечага, маўчалі, пазіраючы на калеку-дзіця з пенсіяй у 15 долараў.

...Баба Іра, раскінуўшы карты, супакойвае (хітрая баба Іра заўжды ведае, што каму трэба):

— Не журыся. Клопат. Людзі гараць і зноў адбудоўваюцца. А мы ж не пагарэльцы. Мы ж тут усе разам...

**Яўген РАГІН**

Юрась БАРЫСЕВІЧ

# Чарга

## ФРАГМЕНТ З ЭСЭ

Аднойчы ўначы да мяне завітала думка: хто мы, адкуль, куды мы "ляжым"? Мова, гісторыя, грамадства не хочуць адпускаць нас нават уначы. Чалавек стойма працягвае часткова ляжаць, але і ў сваім цёплым ложку ён пэўны час перад сном нібыта яшчэ стаіць: узнаўляе падзеі мінулага дня і абдумвае заўтрашні. За ўсялякім маўчаннем хаваюцца нейкія словы (ці ўрыўкі таго Слова, з якога ўсё пачалося), а з іншага боку, усе прамоўленыя словы — толькі налёт цвілі на маўчанні, пырскі шуму над касмічным акіянам цішыні.

*У доўгіх чэргах*
*Вучуся трыванню.*
*Выжыву не таму,*
*Што куплю,*
*А таму,*
*Што выстаю.*

*(Леанід Галубовіч).*

Ёсць, аднак, падставы меркаваць, што чалавек выжыў на нашай Зямлі (у адрознасць, магчыма, ад іншых планет), бо навучыўся не толькі стаяць, але і ляжаць, не толькі гаварыць, але і маўчаць, навучыўся адпачываць ад цяжару гісторыі і ўласнага лёсу ў гульні, сексе і сне. У таталітарным грамадстве чалавек выжывае таму, што знаходзіць не толькі сілы выстаяць, але і магчымасць адляжацца на бальнічным ложку ці на звычайных нарах (а таксама адсядзецца ў хмызняку ці ў прыбіральні падчас чарговага сходу, дзе трэба цягнуць руку ўверх, галасуючы за ўзмацненне рэжыму). Улада вымушана ісці на кампраміс з фізіялогіяй і заплюшчваць вочы на тое, што яе рабы ўцякаюць штовечар у ложак, дзе будуць глядзець непадцэнзурныя сны. Ёй дастаткова, што ў спісах добранадзейных круглыя суткі стаіць імя ці парадкавы нумар, пад якім жыве чалавек. "Салдат спіць — служба ідзе", — кажуць у войску. Амаль тое ж кажуць зняволеныя ў турме: "Абы дзень прайшоў, а начы не ўбачым". Зрэшты, улада штовечар і штораніцы выстройвае на пляцы і пералічае сваіх ахоўнікаў і зняволеных: яна ведае, што ноч — найзручнейшы час для дэзерцірства не толькі душой, але і целам.

Высокія парывы ўласнай душы або дзяржаўнай ідэалогіі заклікаюць чалавека ўзняцца над сваім дробным целам і дацягнуцца да зорак у небе. З іншага боку, шматлікія інстынкты настойліва раяць нам не выторквацца, жыць як мага бліжэй да ўласнага цела і цвёрдага грунту, на якім шмат корму і самак. Духоўнасць ратуе нас ад пажыццёвага зняволення ў замкнёным коле фізіялагічных працэсаў, цялеснасць — ад ператварэння яшчэ пры жыцці ў набор лічбаў ці высокіх словаў. Радзіма нашага цела — зямля, радзіма душы — зорнае неба над галавой. Святары кажуць, што цялеснае жыццё — стан распуснага (падшага) чалавецтва. Але хто ведае — ці не ўпадзём мы яшчэ ніжэй без нашых цел? У апраметную. напрыклад.

Мы не можам знайсці адначасна якую-небудзь рэч і назву для яе. Апрача таго, нейкую рэч для прыдуманай намі назвы могуць знайсці або змайстраваць іншыя людзі; яны ж звычайна прыдумляюць шматлікія азначэнні для тых рэчаў, якія робім мы. Не дзіва, што кожная рэч можа мець некалькі назваў, а адно і тое ж слова можна прыкласці да розных аб'ектаў і падзеяў. На жаль, мы не можам ні самі, ні з дапамогай іншых людзей зрабіць столькі рэчаў, колькі трэба яшчэ, каб запоўніць да самога верху нашую мову і каб ніводнага пустога слова не засталося. Наўрад ці магчыма і вынайсці такую мову, якая магла б без памылак прагаварыць для нас усю рэчаіснасць.

Рэч і яе назва ніколі не адпавядаюць цалкам адна адной; тое ж датычыцца свету і светапогляду, чалавечага цела і ягонага імя, жыцця і біяграфіі. Не ўсе людзі дажываюць да канца ўласнага лёсу (ім прыпісваюць больш жахлівых ці гераічных учынкаў, чым яны маглі б зрабіць і за некалькі жыццяў), а некаторыя не дажываюць нават да ягонага пачатку, паміраюць без ніякай рэпутацыі. Лёс — гэта, безумоўна, не толькі ўсё тое, што робіць сам чалавек, але і ўсё тое, што робяць з ім ці думаюць пра яго іншыя.

Магчыма, цела — не больш чым падмурак чалавека. Але калі ў нас не было такога падмурку — мы б рассыпаліся на тысячы разасобленых думак, памкненняў і рысаў характару. Цела — гэта спалучальная тканка паміж усімі сацыяльнымі ролямі, выявамі, нумарамі, імёнамі і псеўданімамі чалавека (як жанчына — паміж мужчынамі ў кожнай сям'і ці сяброўскай кампаніі, маўчанне — паміж словамі, а зямля — паміж нябёсамі розных рэлігій). Яно дапамагае прымірыць усе памкненні нашага духу, усе мары, адчуванні і ўспаміны, не дае чалавеку разбегчыся адразу ва ўсе бакі свету і часу. Напэўна, невыпадкова дзвюма галоўнымі тэндэнцыямі сучаснага мастацтва і самога ладу жыцця сталіся, з аднаго боку, усё хутчэйшае мільгаценне разасобленых і незавершаных вобразаў і ўчынкаў, абарваных на паўслове навінаў, а з другога — падкрэсленая ўвага да цела як найбольш надзейнага апірышча ў гэтым заблытаным і фрагментарным свеце, залогу тоеснасці чалавека самому сабе, нашай партатыўнай радзімы.

У старажытнасці і нават у нядаўнім таталітарным грамадстве ўсяго было вельмі мала — і навінаў, і смачнай ежы, і хатніх рэчаў — але кожная падзея ці ўласная думка мела для чалавека глыбокі сэнс і здавалася невыпадковай. Сучасны чалавек жыве ў свеце, дзе ўсяго нібыта шмат, але ўсё нейкае павярхоўнае, выпадковае і не мае ніякага агульнага сэнсу. Зрэшты, усе метафізічныя праблемы для яго таксама страцілі сваю ранейшую вагу, бо найбольш актуальнай сталася праблема вагі ўласнага цела.

І ў жывой чарзе, і ў спісе на паперы ці экране камп'ютэра паміж людзьмі заўжды застаецца нейкі зазор, пусты прамежак, які прасоўваецца наперад разам з целам або прозвішчам. Цікава, адна і тая ж пустэча атачае чалавека падчас жыцця або ўвесь час розная? Хутчэй за ўсё, людзі прыходзяць і сыходзяць, а прамежкі паміж імі застаюцца ўсё тыя ж. У кожнай мове, напэўна, ёсць словы, якіх не ведае ці, прынамсі, не можа вымавіць ніхто. І ў гісторыі багата падзеяў, у якіх ніхто не ўдзельнічаў.

Ніводная гісторыя і ніводная мова не ў стане ахапіць адразу ўсё чалавецтва і нават усяго чалавека. Стаім мы нібыта ўсе ў адзін бок: уверх, але, калі зямля сапраўды круглая — значыцца, стаім ва ўсе бакі сусвету.

Ва ўсялякі асобны момант у людзей няма нічога агульнага, апрача зямлі пад нагамі: кожны жыве ў свой бок пад маленькім кавалачкам неба з асабістай зоркай. Каб склалася нейкая супольнасць (традыцыя, размова ці нацыя), патрэбны рух часу, які ператварае нас у шэраг наступнікаў і папярэднікаў. Зрэшты, нас яднае (і больш тонкім спосабам) тое, што Зямля ўсё ж такі круціцца: не толькі людзі пераходзяць з адной суполкі ў іншую, але і самі ідэі і мары, дзеля якіх варта жыць, вандруюць па свеце, як зоркі па небе над галавой, і па чарзе свецяць кожнаму.

Людзей раздражняе не толькі сама чарга, мова ці гісторыя, колькі прымус рабіць не сваю працу, жыць не ў той сям'і, не ў той краіне, не ў тым сусвеце. Кожны жыве трохі не ў свой час (паводле Хайдэгера, чалавек заўжды паміраe незавершаным, але ў некаторых аспектах, мяркую, ён паспявае вычарпаць сябе задоўга да смерці і далей існуе па інерцыі), кожны жыве за сябе і "за нейкага іншага хлопца". Чалавек быў бы рады стаяць на сваім, але, магчыма, часцей яму даводзіцца стаяць на чужым, размаўляць на мове акупантаў, думаць чужыя думкі.

Сучасны чалавек валодае добра калі паловай словаў нават той мовы, якую лічыць роднай (мне, напрыклад, хацелася б думаць, што самых прыгожых і карысных словаў я яшчэ не ведаю). Але і мова валодае толькі часткай чалавечай істоты — узроўнем рэгулярна ўзнаўляемых звыклых думак і жэстаў. Дзесьці, безумоўна, існуюць людзі, што не ведаюць або не ў стане вымавіць ніводнага слова. І не менш верагодна, што існуюць словы, якіх ніколі ніхто не чуў і не казаў.

Людзі валодаюць мовай супольна, па чарзе пакаленняў. І ў кожным з нас улада мовы распаўсюджваецца толькі на калектыўны, нацыяналізаваны бок нашага жыцця.

Чарга — гэта заўсёды не толькі пануры ланцуг паняволеных абставінамі людзей, але і наша ўласная спроба ўцячы ад свабоды (да якой, паводле Сартра, прыгавораны кожны чалавек), схавацца ад бяссэнсіцы існавання за папярэднікаў і паслядоўнікаў. Звычайна чалавек жыве ў грамадстве да адных тварам (перадам), да другіх спіной (задам), а з бакоў яго мала хто ведае. "Жыць у грамадстве і быць свабодным ад яго нельга", — сцвярджаў Ленін. І ўсё ж такі, мяркую, гэта магчыма: трэба да ўсялякай "кіруючай лініі" (загадаў кіраўніцтва, гістарычнай парадыгмы або тэмы якой-небудзь непрыемнай размовы) ставіцца бокам. Невыпадкова і ў жывой чарзе людзі стаяць не строга ў патыліцу адзін аднаму, а пад нейкім вуглом, у паўабарота.

Палову імгненняў жыцця кожны з нас існуе на сваю ўласную рызыку, а яшчэ палову — на чужую. Праз нас жывуць і, вядома, чымсьці рызыкуюць нашыя продкі і нашчадкі, настаўнікі і падстаўныя, начальнікі і падначаленыя. У чарзе нам ёсць на каго спаслацца і абаперціся толькі спераду і ззаду, па баках жа да нас падступае прорва чыстай цяперашчыны, у якой няма ні аўтарытэтаў, ні трывалых апірышчаў...

---

*Цалкам эсэ друкуецца ў часопісе "Крыніца", N 37.*

ПАМЯЦЬ

# Прайдуся па Гарэцкага, ступлю на Левановіча...

Адным са сродкаў ушанавання славутых асоб з'яўляецца ўвекавечанне іх імён у назвах розных геаграфічных аб'ектаў — населеных пунктаў, збудаванняў, рэльефу і інш. Стала даўняй традыцыяй надаваць імёны знакамітых людзей вуліцам гарадоў, што яскрава відаць на прыкладзе Мсціслава. Увекавечаны тут, у прыватнасці, імёны беларускіх пісьменнікаў, у першую чаргу тых, што звязаны з гэтым кутком Беларусі. Літаратурныя традыцыі горада сягаюць у далёкае мінулае, аж у XVI стагоддзе, калі тут нарадзіўся славуты беларускі і рускі першадрукар Пётр Мсціславец.

Гарадскія ўлады праявілі ўвагу да роднай літаратуры, назваўшы вуліцы горада імёнамі яе творцаў. Пройдзем па некаторых з іх.

На паўднёвым усходзе горада пралягла вуліца імя Максіма Гарэцкага, выдатнага празаіка, класіка беларускай літаратуры. Вуліца досыць доўгая, добраўпарадкаваная, заасфальтаваная, забудавана прыватнымі дамамі, у большасці драўлянымі. Прыгожа глядзяцца паміж імі новыя, цагляныя збудаванні. Шмат зеляніны, многія дамы, як кажуць, патанаюць у садах. Праўда, на пачатку вуліцы сустракаюцца сляды сённяшный рэчаіснасці — рыцвіны, выбоіны, другая частка вуліцы выглядае больш упарадкаванай, чысцейшай, тут больш познія забудовы.

Пытаюся сустрэчных жыхароў, што ім вядома пра асобу, чыё імя носіць іхняя вуліца. Сталага ўзросту жанчына адказвае, што гэта беларускі пісьменнік, іхні зямляк. Старому васьмідзесяцігадоваму дзядулю, інваліду вайны, і ягонай спадарожніцы жыцця імя пісьменніка нічога не гаворыць. А вось настаўніца-пенсіянерка на пытанне пра Гарэцкага нават пакрыўдзілася: як не ведаць такога славутага земляка?! Запыняю трох сяброў, як выявілася — вучняў дзесятага класа. Безумоўна, імя пісьменніка ім вядома, чыталі некаторыя яго творы, успамінаюць апавяданне, як ягоны герой мыўся ў вясковай лазні, памятаюць запіскі "На імперыялістычнай вайне", адзін з вучняў чытаў раман "Віленскія камунары". Пасля атрымання сярэдняй адукацыі ўсе трое мараць пра далейшую вучобу. Праўда, філалогія, тым больш беларуская мова і літаратура іх не вабяць, надзеі скіраваны на тэхнічныя дысцыпліны.

Праз квартал, паралельна, пралягла вуліца імя Паўла Левановіча, ураджэнца недалёкай вёскі Мазалава, загінуўшага ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дарэчы, ёй першай у горадзе было нададзена імя беларускага пісьменніка. Вуліца значна карацейшая і, на жаль, менш дагледжаная, чым першая. На перасячэнні з вуліцай Карла Маркса яна заканчваецца. Далей, яе працяг, забудоўваецца новая вуліца імя Івана Насовіча, вядомага мовазнаўца, аўтара грунтоўнага "Слоўніка беларускай мовы", створанага тут жа, у Мсціславе.

Непадалёк ад трэцяй сярэдняй школы вуліца носіць імя Аркадзя Куляшова, класіка роднай літаратуры, выдатнага паэта, які ў свой час вучыўся ў Мсціслаўскім педтэхнікуме.

Ва ўсходняй частцы горада, у раёне новабудоўляў, узнікла некалькі новых вуліц. Дзве з іх названы імёнамі народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вядзецца будаўніцтва прыватных дамоў. Вуліца імя Якуба Коласа больш-менш упарадкавана, вуліца імя Янкі Купалы мае пакуль што не вельмі прывабны выгляд. На абедзвюх вуліцах мала зеляніны, на многіх дамах няма шыльдаў. Будзем спадзявацца, што ў недалёкім часе вуліцы добраўпарадкуюцца. Васьмікласніца, напатканая мною на адной з гэтых вуліц, знаёма з творчасцю абодвух класікаў, упэўнена называе творы Якуба Коласа "Новая зямля", "Дрыгва", "На ростанях".

Ушанавалі мсціслаўцы памяць цікавага і арыгінальнага паэта трагічнага лёсу Юлія Таўбіна. Яго імя носіць вуліца таксама ва ўсходняй частцы горада. Вяртлявы шасцікласнік ведае, што Юлі Таўбін паэт, пісаў вершы, але прачытаць іх яшчэ не паспеў.

Не забылі ў горадзе і пра выдатнага гісторка Міхася Ткачова.

З належнай увагай адносяцца гарадскія ўлады да літаратуры суседняга рускага народа. Імёны яе класікаў, галоўным чынам мінулага стагоддзя, носіць шэраг вуліц. У розных частках горада пралеглі вуліцы імя Пушкіна, Лермантава, Крылова, Гогаля, Някрасава, Чарнышэўскага, Герцана, Чэхава, Ясеніна, Маякоўскага.

Горад досыць шпарка разбудоўваецца. Ствараюцца новыя вуліцы. Варта было б ушанаваць памяць і іншых выдатных ураджэнцаў Мсціслава і Мсціслаўшчыны наданнем гэтым вуліцам іх імёнаў. Гэта ў першую чаргу Павел Кабека, затым Сцяпан Кутарга, Адрыян Прахаў, Змітрок Астапенка, Іван Гутараў, Леанід Падгайскі. Варта памятаць Адама Кіркора. А пэўных назваў не шкодзіла б і пазбавіцца. Ці варта, напрыклад, увекавечваць імя К. Варашылава ў назве вуліцы, ды яшчэ адной з галоўных?

А наогул увекавечаннем імён пісьменнікаў у назвах вуліц гарадскія ўлады робяць надзвычай карысную выхаваўчую, нават патрыятычную справу, што заслугоўвае добрай ухвалы.

**Георгій ЮРЧАНКА**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4843
Нумар падпісаны ў друк 15.1.1998 г. у 17.30.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 183/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12